28 лютага 2020 | № 8 (667)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА • ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

**Як у СНД гербы малявалі**

**стар. 21**

**4 ЁСЦЬ ЯШЧЭ ПОРАХ У ПАРАХАЎНІЦАХ!**

**Галавацяпства ў краіне ўсё яшчэ хапае. Пабудуюць часам прадпрыемства, змантуюць імпартнае абсталяванне, а ў чым сэнс будаўніцтва, растлумачыць забудуць**

**6, 19 КУДЫ ЗНІК РЭПРЭСАВАНЫ ПАСТПРАД БССР?**

**Міхаіл Мароз быў першым пастпрадам БССР у Маскве, рэпрэсаваны, а неўзабаве пасля вызвалення знік без звестак**

**7–18 Літаратурная Беларусь**

**22 ЛЮДЗІ, ТРАГЕДЫІ, АРТЭФАКТЫ**

**Калі едзеш з Ракава ў Радашковічы, то немагчыма абмінуць вёску Дубрава. У даваенны час яна адыгрывала важную стратэгічную ролю на мяжы з БССР**

# Як пазбавіцца ярлыку «здраднік»?



Сяргей ПУЛЬША

**Міжнароднае грамадскае аб'яднанне Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына» на тыдні святкуе 30-годдзе. У гэтыя дні быў створаны аргкамітэт па заснаванні структуры, якая, падаецца, адзіная, што клапоціцца пра нашых суайчыннікаў за мяжой. І працы ў «Бацькаўшчыны» дадаецца і дадаецца.**

Ні для каго не сакрэт, што беларусы масава з'язджаюць з «краіны для жыцця» і «сацыяльна арыентаванай дзяржавы». Тут не трэба быць сацыёлагам альбо шукаць нейкую статыстыку, трэба толькі азірнуцца навокал. Прынамсі, у мяне сяброў і знаёмых, якія цяпер стала жывуць у замежжы, больш, чым у Беларусі.

Прычынаў для ад'езду багата. Гэта і стагнацыя эканомікі, і немагчымасць рэалізаваць свае праекты. А тое і ўвогуле «нязгода з дзеючым кіраўніком дзяржавы». У нейкай ступені паўплывала і «праграма Каліноўскага», і выгнаны ў Вільню Еўрапейскі гуманітарны ўніверсітэт. Пачыналася ўсё як «кузня адукаваных і дасведчаных кадраў для дэмакратычнай Беларусі». Але дэмакратыя ў Беларусі так і не настала (можа і «дзякуючы» адтоку актыўных і крэатыўных маладзёнаў у гэтыя праграмы). А таму ў Беларусі гэтым «адукаваным і крэатыўным» няма дзе прымяніць свае веды і здольнасці.

У нармальнай краіне, канешне, дзяржава, «маці-радзіма», была б зацікаўленая ў дасведчаных, маладых і поўных працоўнага энтузіязму кадрах. Але — не ў нас. У нас дагэтуль, па старой савецкай завядзёнцы, успрымаюць імігрантаў як «здраднікаў». Увогуле, узнікае адчуванне, што дзяржава кажа: «З'ехалі — дый добра».

У той жа час, нібыта, дзяржава і клапоціцца пра беларусаў замежжа. Фармальна, у нас існуюць, напрыклад, Кансультатыўны савет па справах беларусаў замежжа пры МЗС, падпраграма «Беларусы ў свеце», якая з'яўляецца часткай праграмы «Культура Беларусі», газета «Голас Радзімы», і нават закон «Аб беларусах замежжа». Але, па-першае, сам гэты закон быў прыняты шмат у чым дзякуючы той жа «Бацькаўшчыне», а па-другое — ці дастаткова такіх фармальных захадаў у дачыненнях з нашай дыяспарай?




Мы нават дакладна не ведаем, колькі ў свеце беларусаў-замежнікаў! Паводле звестак Міністэрства замежных спраў, колькасць беларусаў у свеце — каля 2,5 мільёна чалавек, большасць якіх жыве ў суседніх і гістарычна звязаных з Беларуссю краінах — Расія, дзяржавы Балтыі, Украіна, Польшча, Казахстан, Узбекістан, Малдова. Паводле іншых дадзеных, у 73 краінах свету жыве 3,5 мільёна беларусаў. Куды з-пад «дзяржаўнага кантролю» выпаў цэлы мільён чалавек?

У наш час усе суседзі асэнсавалі патэнцыял сваіх суайчыннікаў за мяжой. Знаная «карта паляка», Украіна ўвяла ў дзеянне «статус замежнага ўкраінца», Расія ўвогуле абмяркоўвае праекты па раздачы сваіх пашпартоў ці не ўсім рускамоўным. А Беларусь?

Тое ж ЗБС «Бацькаўшчына» больш за дзесяцігоддзе лабіруе прыняцце «карты беларуса» альбо «пасведчанне беларуса замежжа»: хаця б для таго, каб нашы суайчыннікі маглі наведваць Радзіму без візаў. У мінулым годзе арганізацыя накіравала 13 старонак (!) прапановаў па зменах у беларускае заканадаўства, якія б спрасцілі жыццё беларусаў замежжа, прынамсі, на Радзіме. Але Нацыянальны цэнтр заканадаўства і прававых даследаванняў Беларусі на гэтыя прапановы адказаў: неабходнае іх дадатковае вывучэнне. Гэтая неабходнасць звязаная (увага!) «з пазіцыяй Канстытуцыйнага суда Беларусі ў дачыненні да дзейнага ў Польшчы закона «Аб карце паляка». Суд лічыць, што паданне льгот і прывілеяў замежным грамадзянам — уладальнікам «карты паляка» супярэчыць палажэнням шэрагу міжнародных дагавораў і агульнапрызнаным прынцыпам міжнароднага права».

Так і хочацца накіраваць гэты адказ у праграму «Дзе логіка?», што ідзе па ТНТ. Можа, там патлумачаць, якое дачыненне «карта паляка» мае да мажлівай «карты беларуса»? Калі «карта паляка» нечаму супярэчыць — гэта праблема палякаў. Пры чым тут пазіцыя Канстытуцыйнага суда па іншым — замежным! — дакуменце?

У час VII з'езду беларусаў свету ў 2017 годзе, выступаючы з яго трыбуны, кіраўнік МЗС Уладзімір Макей зазначыў, што дыяспара — гэта «мяккая, але магутная і велізарная сіла, здольная адстойваць інтарэсы народа Беларусі і мацаваць незалежнасць дзяржавы». І гэта сапраўды так. Сённяшнія імігранты, можа быць, і не імкнуцца яднацца ў нейкія структуры, ствараць беларускія суполкі і арганізацыі ў краінах побыту. Выглядае, што яны — самі па сабе. Аднак, як толькі ўзнікла «паглыбленая інтэграцыя» і паўстала пагроза незалежнасці Беларусі, па ўсім свеце пракацілася хваля пікетаў і акцый у падтрымку суверэнітэту краіны.

А што робіць краіна для дыяспары? На тым жа з'ездзе беларусаў свету ўладам прапанавалі распрацаваць і прыняць Дзяржаўную стратэгію супрацоўніцтва з беларусамі замежжа на перыяд да 2025 года». Канцэпцыя гэтай стратэгіі прадугледжвае падтрымку дыяспары, пашырэнне правоў і магчымасцяў «замежных беларусаў» на Радзіме і заахвочванне новых імігрантаў браць актыўны ўдзел у арганізаваных беларускіх суполках. Ну і, канешне, «больш актыўна выкарыстоўваць пасярэдніцкі патэнцыял дыяспары».

**Працяг на стар. 2 »**

# Як пазбавіцца ярлыку «здраднік»?

« Заканчэнне. Пачатак на стар. 1

Але, нягледзячы на тое, што прапановы былі выказаныя амаль тры гады таму, прынясце такой стратэгіі, — не блізкі свет. Як паведаміла «Новаму Часу» старшыня МГА ЗБС "Бацькаўшчына" Алена Макоўская, цяпер распрацоўваецца новая дзяржаўная праграма, што будзе закранаць і пытанні дыяспары. Яна павінна пачаць дзейнічаць з 2021 года, і МЗС Беларусі ўжо заахвоціў зацікаўленыя арганізацыі падаваць свае прапановы па змесце гэтага дакумента. Зразумела, прадстаўнікі «Бацькаўшчыны» такія прапановы падалі. І яны ўтрымліваюць багата рэчаў з канцэпцыі стратэгіі супрацоўніцтва з беларусамі замежжа.

Па словах Алены Макоўскай, пакуль нават не вядома, будзе гэта асобная праграма, ці, як і раней, падпраграма ў раздзеле праграмы «Культура». «Мы вельмі спадзяемся, што гэта будзе асобная праграма, бо падпраграма закранае толькі культурныя пытанні. Але вопыт іншых краінаў сведчыць, што супрацоўніцтва павінна быць шырэйшым, у шмат якіх кірунках — гэта і эканамічны, і інтэлектуальны, гэта пабудова даверу паміж дзяржавай і дыяспарай, розныя кірункі», — кажа яна.

Паводле Алены Макоўскай, асобнай стратэгіі супрацоўніцтва з беларусамі замежжа чакаць пакуль не варта. Не варта чакаць і «карты беларуса», што вельмі прыкра. Бо які давер можа быць у суайчынніка за мяжой да «маці-радзімы», калі наведаць гэтую «маці» ён можа толькі па візе, альбо — на кароткі тэрмін, — скарыстаўшыся «бязвізам»? Атрымліваецца, што наш суайчыннік дэ-факта прыроўнены да простага замежніка.

Пакуль, на жаль, ёсць сталае ўражанне, што ўлада Сінявокай — зноў жа, у адрозненне ад суседзяў, — проста не хоча асэнсоўваць патэнцыял дыяспары. І наша «мяккая сіла» так і застаецца рэзервам на будучыню.

# Гульні ў дабрачыннасць ад Марыі Васілевіч

Вольга СЛУЦКАЯ

**Набліжаная да кіраўніка Беларусі дэпутатка Марыя Васілевіч заклікала дапамагчы праекту фонду, заснаванага Аляксеем Талаем і Беларускай федэрацыяй лёгкай атлетыкі ў асобе Вадзіма Дзевятоўскага. Фонд аказвае дапамогу інвалідам, цяжкахворым, дзецям-сіротам.**

«Праект, які мае патрэбу цяпер у нашай падтрымцы — "3D сэрца", набыццё важнага абсталявання для РНПЦ дзіцячай кардыялогіі ў горадзе Мінск. Засталося сабраць каля 30 000 Euro», — напісала Марыя Васілевіч у Інстаграме.

Адзін з падпісантаў прапанаваў дэпутатцы звярнуцца з просьбай да яе высокапастаўленых знаёмых павялічыць выдаткі не на сілавыя ведамствы, а ў першую чаргу на ахову здароўя. «Тады атрымаецца дапамагчы куды большай колькасці дзяцей, і не толькі дзяцей. Дабрачынныя фонды — гэта мізэр, паўмеры. Рэальны клопат пра здароўе дзяцей і не толькі — у паляпшэнні сістэмы аховы здароўя ў цэлым. А грошы ідуць кудысьці не туды», — лічыць ён.

«Ты ж дэпутат! Вырашай пытанні, а не ў Інстаграме чэкінься! Яе выбралі — яна грошы ў народа просіць!» — яшчэ адно меркаванне ад падпісчыка Марыі.

З гэтымі довадамі складана не пагадзіцца. Купля дарагога абсталявання для дзяржаўнай установы аховы здароўя — гэта абавязак уладаў, якія займаюцца размеркаваннем бюджэтных сродкаў. І Марыя Васілевіч як новаспечаны дэпутат, напэўна, пра гэта ведае. Але, падобна, аддае перавагу гульням у дабрачыннасць.

Падобныя трукі раней рабілі і іншыя дэпутаты Палаты прадстаўнікоў. Напрыклад, Інэса Кляшчук (экс-дэпутатка) прывозіла ў слуцкую бальніцу былыя ва ўжыванні кампутары, якія раней выкарыстоўваліся ў іншых арганізацыях.

Дарэчы, год таму «Міс Беларусь» атрымала спецыяльную прэмію Лукашэнкі «за значны ўклад у развіццё міжнароднага культурнага супрацоўніцтва і актыўную дабрачынную дзейнасць». Між тым, пра дабрачынную дзейнасць Васілевіч вядома няшмат. Не так даўно дэпутатка пазіравала для праекта «Прыгажосць выратуе», мэтай якога была дапамога бяздомным жывёлам. У мінулым годзе «Міс Беларусь» прыняла ўдзел у дабрачыннай акцыі «майкапоoлюбойцене», якую арганізавалі для дапамогі дзецям з анкалагічнымі захворваннямі.

Марыя Васілевіч павінна разумець розніцу паміж дабрачыннасцю і дапамогай, якую мусіць аказваць дзяржава тым, хто ў ёй мае патрэбу. Адна гісторыя, калі ўладальніца кароны «Міс Беларусь» дапамагае дзецям з анкалогіяй і бяздомным жывёлам, і зусім іншая — калі дэпутат збірае грошы на абсталяванне для дзяржаўнай установы аховы здароўя.

**Паводле gazetaby.com, пераклад НЧ**

# Гісторыя збітага міліцыянтамі Барыса Змітровіча працягваецца пасля сямі адмоў распачаць крымінальную справу

**Па факце збіцця пры затрыманні супрацоўнікамі міліцыі Барыса Змітровіча адменена 7-я (!) пастанова аб адмове ва ўзбуджэнні крымінальнай справы.**

Яшчэ ў пачатку 2018 года жыхар Смаргоні Барыс Змітровіч быў затрыманы ў гарадскім парку і абвінавачаны ў з'яўленні ў грамадскім месцы ў нецвярозым стане, які прыніжае чалавечую годнасць, а таксама ў непадпарадкаванні законнаму патрабаванню супрацоўнікаў міліцыі ў час затрымання з гэтай нагоды.

Адміністрацыйная вытворчасць адносна нецвярозага стану была спынена самім Смаргонскім РАУС з-за недаказанасці знаходжання Барыса Змітровіча ў нецвярозым стане. Улічваючы гэта, у сваю чаргу суд прызнаў, што патрабаванне супрацоўнікаў міліцыі праследаваць у РАУС для разбіральніцтва было незаконным, і спыніў адміністрацыйную справу.

Але пры жорсткім затрыманні Барыс Змітровіч атрымаў хімічны апёк вачэй і некалькі іншых пашкоджанняў. На гэтай падставе пацярпелы звярнуўся ў Смаргонскі РАСК з патрабаваннем прыцягнуць да крымінальнай адказнасці вінаватых. Толькі за мінулыя 2 гады следчыя так і не змаглі якасна разабрацца ў сітуацыі.

Паводле інфармацыі «Гарадзенскай вясны», следчымі прынята ўжо 7 пастаноў аб адмове ў распачынанні крымінальнай справы. І ўсе яны адменены па скаргах Барыса Змітровіча. Апошнюю пастанову пракуратура Смаргонскага раёна палічыла законнай і не адмяніла. Але яе дзеянні пацярпелы абскардзіў у пракуратуру Гродзенскай вобласці. І атрымаў станоўчы адказ.

Восьмы круг праверкі пракуратура даручыла арганізаваць УСК па Гродзенскай вобласці.

Смаргонскі праваабаронца Алесь Дзергачоў, каментуючы сітуацыю, адзначае, што зацяжны ход праверкі сведчыць пра тое, што наспела чарговая рэформа следства.

«Заявы грамадзян аб прыцягненні міліцыянтаў раённага і абласнога ўзроўняў да крымінальнай адказнасці мусяць разглядацца адпаведна абласной і рэспубліканскай структурай Следчага камітэта. Бо відавочна, што мясцовыя органы Следчага камітэта, хоць фармальна незалежныя ад адпаведных органаў унутраных спраў, але кіруюцца ў сваіх рашэннях местачковай службовай салідарнасцю», — пераканаючы праваабаронца.

**spring96.org**

# «Суддзя не спрабаваў нічога высветліць»

НЧ

**У Мінскім гарадскім судзе 24 лютага адбылося пасяджэнне па адміністрацыйнай справе Дзіяны Серадзюк. Журналістка спрабавала абскардзіць штраф у 50 базавых, якім яе 27 студзеня пакаралі ў судзе Першамайскага раёна за нібыта ўдзел у акцыі супраць «паглыбленай інтэграцыі» Беларусі і Расіі.**

Нагадаем, 27 студзеня Першамайскі суд, нягледзячы на недастатковую доказную базу, памылкі ў паказаннях сведкаў і іншыя недарэчнасці, прызнаў Дзіяну вінаватай паводле ч. 3 арт. 23.34 КаАП і пакараў яе штрафам у памеры 50 базавых велічыняў (1350 рублёў).

Пасля прысуду Дзіяна Серадзюк звярнулася да неабыякавых людзей з просьбай дапамагчы сабраць сродкі на аплату штрафу. Неабходная сума была сабраная літаральна цягам сутак.

Дзіяна вырашыла абскардзіць прысуд. «Прысуд лічу несправядлівым, мая віна абсалютна не была даказаная. Калі б скаргу задаволілі, перадала б грошы на агульны збор кампаніі by_help. Але я ад пачатку не мела ніякіх ілюзій. Нават не хацела ісці на абскарджванне, але вырашыла яшчэ раз сказаць прадстаўнікам нашага "суда", што яны здзяйсняюць злачынства», — патлумачыла яна.

Справу разглядаў суддзя Мінгарсуда Пётр Арлоў, вядомы тым, што ў кастрычніку 2019-га прысудзіў да трох гадоў «хатняй хіміі» актывіста анархісцкага руху Змітра Паліенку.

«Падчас абскарджвання я звярнула ўвагу, што судом былі няпоўна, аднабакова і неаб'ектыўна даследаваныя абставіны справы — чаго вартыя толькі паказанні сведак Івашкова і Шайко, якія спачатку аднолькава "бачылі" мяне 20 снежня са сцягам з 18 да 18.40 на Кастрычніцкай, потым абодва "памыліліся" і "ўбачылі" мяне ўжо з 21 да 21.30 на мітынгу ў парку Купалы. Былі і іншыя моманты, напрыклад, што ва ўказаны час у парку Купалы мітынгу ўжо не было — гэта пацвярджаюць і матэрыялы справы, — распавяла Дзіяна. — Але я ўпершыню бачыла суддзю, які не задаваў ніякіх пытанняў, не спрабаваў нічога высветліць. Звычайна яны робяць хаця б бачнасць таго, што спрабуюць разабрацца ў справе. Тут — поўная індыферэнтнасць».

У выніку суддзя Пётр Арлоў не ўбачыў падстаў для адмены штрафу і пакінуў прысуд у сіле.

# Улады адмовіліся будаваць шашу праз месца сталінскіх рэпрэсій у Оршы

НЧ

**У Оршы быў прэзентаваны новы генеральны план забудовы горада. Мясцовыя актывісты дамагліся адмены будаўніцтва дарогі праз урочышча Кабыляцкая гара — месца расстрэлаў ахвяраў сталінскіх рэпрэсій.**

Аршанскі выканкам распрацаваў генеральны план Оршы. На картах генплана ўчасткі ў раёне Кабыляцкай гары і Магілёўскай шашы пазначаныя як «тэрыторыя меркаваных месцаў масавых пахаванняў ахвяр рэпрэсій».

Дзякуючы дзеянням актывістаў, якія падалі свае прапановы падчас грамадскіх абмяркаванняў, улады ўнеслі змены ў Генеральны план Оршы. На новым Генплане пазначаныя месцы масавых забойстваў і пахаванняў нявінных ахвяраў сталінскага тэрору 1930–1940-х гадоў — Кабыляцкае ўрочышча і лес каля Магілёўскай шашы. З плану прыбралі праявдзенне дарогі, якая раней была запланаваная праз Кабыляцкі лес і пахаванні ахвяраў, і супраць якой выступілі актывісты. Дарогу катэгорыі А, якую запраектавалі па ўскраіне лесу каля Магілёўскай шашы, на жаль, улады ў плане пакінулі.

Цяпер змены ў Генплан праходзяць этап грамадскага абмеркавання.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Чым запраўіцца: бензін ці «чарніла»?

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Канец мінулага тыдня і пачатак гэтага былі аздоблены, нібыта, «вясёлкавымі» навінамі. Лукашэнка паразмаўляў па тэлефоне з Пуціным, і той звонку пагадзіўся — Беларусь павінна атрымаць кампенсацыю за расійскі «падатковы манеўр» у памеры 300 мільёнаў долараў. Але ў Крамлі ў той жа час заявілі, што гэтыя грошы могуць быць атрыманыя за кошт прэміі расійскіх пастаўшчыкоў нафты, перамовы тычацца «гаспадарчых суб'ектаў» і гэтак далей. Так што далёка не факт, што «нафтавая вайна» скончылася, і скончылася яна перамогай Беларусі.**

У той жа час Беларусь, нібыта, дамовілася з расійскім бокам пра кампенсацыю за брудную нафту, якая паступіла на нашыя НПЗ увесну 2019 года. «Нібыта» — таму што пра такія пагадненні мы чуем з зайздроснай рэгулярнасцю. Але 25 лютага Беларусь і Расія падпісалі пратакол аб кампенсацыі выдаткаў за пастаўкі забруджанай расійскай нафты па трубаправодзе «Дружба». Намеснік старшыні канцэрна «Белнафтахім» Уладзімір Сізаў заявіў, што кампенсацыя будзе з разліку 15 долараў за барэль — «па аналогіі з іншымі бакамі, якія былі ўцягнутыя ў гэтую гісторыю, — гэта контрагенты ў Польшчы, Чэхіі, Славакіі, Венгрыі».

Прэс-сакратар «Белнафтахіма» Аляксандр Цішчанка патлумачыў РБК, што гаворка ідзе пра кампенсацыю за 563 тысячы тон нафты, якую паспеў перапрацаваць Мазырскі НПЗ. Такім чынам, Беларусь можа атрымаць ад «Транснафты» 61,6 мільёна долараў.

Але з месяц таму (дый падчас таго скандалу) называліся ўдвая большыя аб'ёмы бруднай нафты, якая трапіла ў Беларусь, — каля 1,2 мільёна тон. Калі разлічваць з гэтага аб'ёму (барэль важыць 0,1373 тоны), то выходзіць, што Расія павінна кампенсаваць каля 131,1 мільёна долараў — у два з лішнім разы больш. Да таго ж, у нас два нафтаперапрацоўчыя заводы. З Мазырскім НПЗ зразумела, а што будзе кампенсаванае наваполацкаму «Нафтану», куды тая брудная нафта таксама трапіла?

Праблемаў канцэрну дадалі і неабыякавыя грамадзяне. У аўторак ля офісу «Белнафтахіма» ў Мінску сабраліся некалькі дзясяткаў чалавек, незадаволеных павышэннем коштаў на паліва. Сустрэчу ініцыяваў блогер MozgON (Уладзімір Цыгановіч). Людзей цікавіла пытанне, якое задаецца ўжо доўгі-доўгі час: чаму ў нас цэны на бензін растуць пастаянна — і пры павышэнні кошту нафты, і пры іх паніжэнні?

Да «дэманстрантаў» выйшаў усё той жа Уладзімір Сізаў, які патлумачыў, што «Белнафтахім» працягне стратэгію паступовага павышэння коштаў на паліва на капейку. Маўляў, кошт паліва залежыць не толькі ад кошту сыравіны, але і ад дамоўленасцяў з пастаўшчыкамі, падаткаў, курсаў валют: «Мы вымушаныя купляць нафту за валюту, таму ваганні валюты таксама адбіваюцца на кошце нафтапрадуктаў».

Цыгановіч прывёў свой разлік: на 1 студзеня 2019 года ў адносінах да 1 студзеня 2018 года цана на паліва ў доларах вырасла на 10%, а 1 студзеня 2020 года ў адносінах да 1 студзеня 2019 года — на 17%. У той жа час сусветны кошт нафты прынцыповых скачкоў не зазнаў, дый Нацбанк ганарыўся «ўстойлівасцю беларускага рубля».

У адказ на гэта Сізаў сказаў проста: «Я нічога не збіраюся абвяргаць». І на незалежную праверку фарміравання коштаў таксама не пагадзіўся.

У любой краіне свету такога «спецыяліста» на працоўным месцы ўжо не было б. Аднак у нас ён застаецца. Дык ці важна нам, пра што там дамаўляюцца Лукашэнка з Пуціным — калі гэта, нібыта, нас не тычыцца і на кошце паліва не адбіваецца?

**На 1 студзеня 2019 года ў адносінах да 1 студзеня 2018 года цана на паліва ў доларах вырасла на 10%, а 1 студзеня 2020 года ў адносінах да 1 студзеня 2019 года — на 17%. У той жа час сусветны кошт нафты скачкоў не зазнаў, дый Нацбанк ганарыўся «ўстойлівасцю беларускага рубля»**

Куды ж ідуць нафтавыя мільёны долараў? На тыдні шмат казалі пра Чэмпіянат Еўропы па біятлоне ў Раўбічах, ад якога адмовілася Эстонія — маўляў, «снегу няма». Мы ж, аказваецца, можам правесці яго і без снегу. Праўда, вылецiць гэта нам у добрую капейчыну — штучны снег каштуе дорага. Але нам не прывыкаць! Мы можам згадаць добры досвед «Мінскай лыжні» ад Аляксандра Рыгоравіча, калі чыноўнікі, прымусова сагнаныя на гэтае спартовае мерапрыемства, у лыжах па лужынах шлёпалі.

Праблема толькі ў тым, што спартоўцы-іншаземцы — не чыноўнікі. Ім не загадаеш устаць на лыжы ў любое надвор'е. Ну, нічога — затое нашым, звыклым да «лыжаў на асфальце», больш медалёў дастанецца!

Таксама ўзрушыла навіна з Гомелю, дзе на цэнтральнай плошчы задумалі ўсталяваць флагшток вышынёй у 60 метраў і коштам прыкладна ў 660 тысяч долараў. Адначасова Гомельская вобласць лічыцца самай датацыйнай у краіне!

Прычым, як высветліў тэлеграм-канал «Тыповая Беларусь», у канцы 2019 года прапанова ўсталяваць 60-метровую стэлу ацэньвалася толькі ў 30 тысяч рублёў. Праўда, тады тэндар не адбыўся, але наўрад ці з-за невялікага кошту. Проста нікому не зразумела, навошта ў цэнтры горада «палка» вышынёй у два дзевяціпавярховікі.

І на тыдні краіна зноў трапіла ў невялічкі скандал — арганізацыя World Population Review склала рэйтынг краін па колькасці штогадовага спажывання спіртнога, і Беларусь яго нібыта ўзначаліла — са спажываннем 14,4 літра чыстага алкаголю на душу насельніцтва.

Потым высветлілася, што World Population Review узяла звесткі Сусветнай арганізацыі аховы здароўя за 2010 год. Сёння ж, па дадзеных СААЗ, беларусы п'юць «толькі» 11,2 літра спірта на душу насельніцтва (у 2018 годзе), і Сінявокая знаходзіцца на 23-м месцы па спажыванні алкаголю ў Еўропе (на 27-м у свеце). Такія дадзеныя па запыце беларускіх журналістаў агучыла СААЗ.

World Population Review выбачылася за недакладнасць, але 11,2 літра спірту на кожнага чалавека — ці гэта мала?

У Магілёве праваабаронцы прайшліся па крамах — і пабачылі на паліцах «пладова-выгадныя чарнілы», вытворчасць якіх у Сінявокай нібыта забароненая, што каштавалі менш за 2 рублі за бутэльку 0,7.

«Трэба адзначыць, што буйныя супер- і гіпермаркеты трымаюць "дарагі" кошт ад 2 рублёў 15 капеек і вышэй», — зазначае інтэрнэт-часопіс mspring.online. Аднак мы вымушаныя адзначыць, што бутэлька «чарніла» каштуе столькі ж (а можа, яшчэ і танней), чым літр бензіну.

Кіроўцы, як правіла, не п'юць. Можа, дзяржава вырашыла перавесці гэтую катэгорыю грамадзянаў у катэгорыю спажыўцоў спіртнога? Бо, сапраўды, што атрымліваецца танней: заправіць аўтамабіль бензінам ці адмовіцца ад машыны, ды «заправіцца» самому?

І пытанне: а каму карысць ад такой палітыкі?

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Міхаіл Жамчужны



**Палітвязня даволі нечакана перавялі з Горацкай калоніі спачатку ў Магілёўскую турму, а затым — у Віцебскі следчы ізалятар. Пра гэта Жамчужны распавёў у лістах да праваабаронцы Леаніда Свецціка.**

«Па выніках маіх заяваў і скаргаў у розныя інстанцыі, пачынаючы са Следчага камітэта і заканчваючы Адміністрацыяй прэзідэнта, нарэшце пачалося папярэдняе расследаванне па маіх справах. Мяне выклікаў следчы на допыт, размова, магчыма, ідзе пра маё поўнае апраўданне па ўсіх прысудах. І я гэтую сітуацыю паспрабую выкарыстаць па максімуме, хаця, відаць, не паспею ўсё зрабіць за той тэрмін, што мне застаўся адседзець. А гэта — каля года», — напісаў Жамчужны.

«Другі ліст Жамчужны даслаў ужо з Віцебска. Піша, што ў параўнанні з Горацкай калоніяй і ў Магілёўскай турме, і ў Віцебскім СІЗА ўмовы ўтрымання значна лепшыя. У камеры па яго просьбе ён знаходзіцца адзін», — кажа Свецік.

Заснавальнік «Платформ Інавэйшн» Міхаіл Жамчужны ў ліпені 2015 года быў асуджаны Віцебскім абласным судом на 6 гадоў пазбаўлення волі ў калоніі строгага рэжыму. 23 кастрычніка судовая калегія па крымінальных справах Вярхоўнага суда прызначыла Жамчужнаму больш строгае пакаранне — шэсць з паловай гадоў пазбаўлення волі. Ён быў прызнаны вінаватым у падбухторванні да наўмыснага разгалошвання звестак, якія складаюць службовую таямніцу; незаконным набыцці і збыце спецыяльнага тэхнічнага сродку, прызначанага для сакрэтнага атрымання інфармацыі, у тым ліку — паўторна; дачы хабару і дачы хабару паўторна. Беларускімі праваабаронцамі Жамчужны прызнаны палітычным зняволеным.

## Павел Севярынец



**Не чакаючы паездак ад «апазіцыйнага праймерыз», прэтэндэнт на пасаду прэзідэнта працягвае самастойна сустракацца з людзьмі ў рэгіёнах.**

На сустрэчу з Паўлам Севярынцам у Гомелі прыйшлі каля 80 чалавек, зала ўсіх не змясціла — некаторым давялося глядзець сустрэчу па маніторы ў іншым памяшканні. Палітык агучыў план дзеянняў на пасадзе кіраўніка дзяржавы: вярнуць Канстытуцыю 1994 года, прывесці да ўлады часовы ўрад. Будучыню краіны ён бачыць у развіцці малога і сярэдняга бізнесу, інфармацыйных тэхналогій, павышэнні ролі мясцовага самакіравання.

Па словах Севярынца, у яго каманды ёсць адказы на пытанне «што рабіць». «Я прапаную: пасля таго, як будуць абвешчаныя прэзідэнцкія выбары, калі застанецца Ярмошына (старшыня ЦВК) і фальсіфікатары, калі Лукашэнка скажа, што ён гатовы ісці на выбары, мы пачынаем мірныя пратэсты. Не пасля таго, як адбудуцца выбары. Ламаць сцэнар фальсіфікацый трэба адразу, як толькі скажуць, што ў нас будуць выбары. Мы можам выходзіць на мірны пратэст рэгулярна», — падкрэсліў ён.

Павел Севярынец прапанаваў удзельнікам сустрэчы напісаць пра праблемы ў рэгіёне і пра тое, што кожны можа зрабіць для змены сітуацыі: «Гэтыя прапановы будуць пакладзеныя ў аснову Народнай праграмы — дапаўнення да праграмы адзінага кандыдата».

## Лявон Вольскі



**Знаны беларускі музыка і праект «Крамбамбуля» сталі ахвярамі падману ці свядомага маніпулявання.**

На шэрагу віцебскіх сайтаў з'явілася інфармацыя, што «Крамбамбуля» 14 ліпеня прыме ўдзел у першым канцэрце «Славянскага базару», які атрымае назву «Рок на ўсе часы». На сайце арганізатараў гэты канцэрт прадстаўляюць як «самы вялікі зборны канцэрт выканаўцаў рускай рок-музыкі».

Лявон Вольскі абверг інфармацыю пра ўдзел «Крамбамбулі» ў «Славянскім базары». На сваёй старонцы ў Facebook музыка называе згадкі пра запланаваны ўдзел гурта ў мерапрыемстве фэйкам і адзначае, што «Крамбамбуля» не давала сваю згоду ні на ўдзел у мерапрыемстве, ні на распаўсюд такой інфармацыі.

Але тое, што за кошт «Крамбамбулі» спрабуюць прыцягнуць людзей на канцэрт, сведчыць пра выключную папулярнасць гэтага музычнага праекту.

а | Азбука паліталогіі

# Ёсць яшчэ порах у парахаўніцах!



Сяргей НІКАЛЮК

**Жыццё поўнае парадоксаў. Мабыць, самы вядомы — беларуская мадэль. Яе нежыццяздольнасць была дыягнаставаная яшчэ ў момант нараджэння. Каб прадказаць ганебны канец вырадка, што адмаўляецца ісці за цывілізаваным светам, не трэба было мець адмысловыя веды. Але год за годам, пяцігодка за пяцігодкай вырадак дэманстраваў эканамічны рост, ускосным індыкатарам якога сталі гарадскія двары, забітыя прыватнымі аўтамабілямі.**

Тым, хто не давярае афіцыйнай статыстыцы, рэкамендую паразмаўляць з кіроўцамі таксі. Рост даходаў суайчыннікаў яны ацэньваюць не па справаздачах Белстата, а па «корках» на дарогах. І ў сваіх ацэнках прафесійныя кіроўцы, як і вядомы ўладальнік электрамабіля «Тэсла», «ідуць ад жыцця», а жыццё высновам Нацыянальнага статыстычнага камітэта не супярэчыць.

Жыццё супярэчыць заявам наконт ролі буйных прадпрыемстваў і вытворчасцяў у развіцці беларускай мадэлі. Напрыклад, паводле старшыні прэзідыума Нацыянальнай акадэміі навук Уладзіміра Гусакова, «толькі буйнамаштабны рэальны сектар можа ствараць неабходную ўстойлівасць функцыянавання дзяржавы. Паколькі ён дзяржаваўтваральны, фундаментальны, аб'ёмны, канкурэнтаздольны і доўгатэрміновы».

Аднак жа фактычна мы маем упэўненае зніжэнне долі апрацоўчай прамысловасці ў ВУП: 2011 год — 26,4%, 2018 год — 21,5%. І гэта нягледзячы на тое, што на чале беларускай дзяржавы, як справядліва заўважыў Гусакоў, стаіць чалавек, якому адстаяць стары ўклад «дапамаглі прыродная мудрасць і інтуіцыя, выключная працаздольнасць і праніклівасць, а яшчэ апора на народ і вялікі давер народа, якія захаваўся да гэтага часу».

А што ж прыватны бізнес? Не дапушчаны да прыватызацыі дзяржсектара, ён быў вымушаны абмежаваць сваю энергію сферай паслуг. Вынік не прымусіў сябе доўга чакаць: у 2018 годзе працэнт паслуг у ВУП склаў 47,7%.

Вера галоўнага акадэміка краіны ў здольнасць буйных прадпрыемстваў «вытрымаць любую канкурэнцыю і заставацца на плаву пры разнастайнай кан'юнктуры» статыстыкай не пацвярджаецца. Нездарма калісьці папулярны фразеалагізм «фамільнае срэбра» перастаў сустракацца на старонках беларускай перыёдыкі. Пра якое срэбра гаворка, калі вытворчасць трактароў за апошнія 8 гадоў скарацілася з 66,8 да 40,8 тысячы штук, а збожжаўборачных камбайнаў — з 1 900 да 900 штук. І так практычна па ўсёй традыцыйнай наменклатуры.

### Беларусам пашанцавала

Між іншым, артыкул Гусакова быў апублікаваны 17 кастрычніка 2019 года ў самай салідной газеце краіны пад загалоўкам «Кіраўнік Акадэміі навук — пра асаблівасці і перавагі беларускай мадэлі развіцця».

Доктар эканамічных навук, прафесар і акадэмік — далёка не адзіны спецыяліст, надзелены талентам выяўляць перавагі ў асаблівасцях беларускай мадэлі. Але ён — тэарэтык, а краіна мае патрэбу ў практыках, здольных у тэмпе вальса прайсціся па цэхах і тут жа выдаць рэкамендацыі наконт аздараўлення вытворчасці.

Беларусам пашанцавала: такі практык у асобе адзінага палітыка (АП) у краіне існуе. Тое, што антычнаму Юлію Цэзару атрымалася рэалізаваць адзін раз і абессмяроціць у афарызме «прыйшоў, убачыў, перамог», наш сучаснік прарабляе штотыдзень.

Па прыклады звернемся да прэс-рэлізу, які прысвечаны наведванню кіраўніком Беларусі 14 лютага Светлагорскага цэлюлозна-кардоннага камбіната.

Адразу па прыбыцці на камбінат АП пацікавіўся схемай пастаўкі драўнянай сыравіны. А калі высветліў, што патрэбы растуць і ёсць неабходнасць у дадатковым чыгуначным транспарце, ён у рэжыме бліц сфармуляваў адзіна правільнае рашэнне: «Трэба зрабіць так, каб праблема дастаўкі балансавай драўніны была вырашана ў бягучым годзе».

**Краіна ў нас вялікая, а АП адзін. Як быць, дзе яшчэ знайсці спецыялістаў, здольных прыйсці на любы народнагаспадарчы аб'ект, убачыць усе яго праблемы — і перамагчы?**

Далей — больш. Як высветлілася, тэхналогія на камбінаце дазваляе з нізкагатунковай драўніны атрымліваць запатрабаваны прадукт з высокім дабаўленым коштам. Гэтая інфармацыя на працягу апошніх гадоў была безгаспадарнай. Ніхто з мясцовых Кулібіных не задумваўся над яе практычным прымяненнем.

Але 14 лютага ўсё крута змянілася. «Гэта наша багацце (лясныя рэсурсы. — **Рэд.**). — растлумачыў асалавелым спецыялістам АП. — Трэба перапрацаваць у паперу, цэлюлозу, каб не вазіць за мяжу за бясцэнак. Вось у чым была задума будаўніцтва гэтага прадпрыемства».

На жаль, галавацяпства ў краіне ўсё яшчэ хапае. Пабудуюць часам прадпрыемства, змантуюць імпартнае абсталяванне, а ў чым заключаўся сэнс будаўніцтва, работнікам растлумачыць забудуць. Вось і ходзяць потым гадамі на працу сотні спецыялістаў, вырабляюць нешта з высокім дабаўленым коштам, а што вырабляюць і навошта — не ведаюць ні на прадпрыемстве, ні ў кіраўніцтве канцэрнаў і холдынгаў.

Аднак канцэрн «Беллеспаперапрам» чаша гэтая мінула. Яго кіраўніцтва і да візіту АП здагадвалася, што Светлагорскі цэлюлозна-кардонны камбінат быў пабудаваны для вытворчасці сульфатнай беленай цэлюлозы. Візіт зняў апошнія сумневы. Больш канкрэтна і не скажаш: «Патрэбна глыбіня перапрацоўкі цэлюлозы. Нам трэба з яе рабіць адпаведныя ўпаковачныя матэрыялы, мяшкі».

### І будзеце здаровымі

Апрацоўчая прамысловасць Беларусі будзе прырастаць папяровымі мяшкамі. Прырастаць электронікай не атрымліваецца. У 2011 годзе былы зборачны цэх СССР вырабіў 1 746 мільёнаў, а ў 2018 годзе — 1 490 мільёнаў штук інтэгральных мікрасхем. Ацаніць уклад айчыннага вытворцы ў сусветны рынак няпроста, бо сусветная статыстыка вядзецца не ў штуках, а ў сотнях мільярдаў долараў.

Ключавым вытворцам інтэгральных мікрасхем на сусветным рынку з'яўляецца «вялікі Кітай» (мацерыковы Кітай + Ганконг + Тайвань). Яго сумарны ўнёсак у сусветны экспарт склаў у 2017 годзе 44%. Але лепшыя тэмпы росту за апошнія 5 гадоў — у В'етнама — больш за 600% (3% сусветнага рынка).

Поспех В'етнама дае нам надзею. Без працы беларускія прамысловыя гіганты не застануцца, бо мікрасхемы, зрэшты, як і любыя высокатэхналагічныя тавары, маюць патрэбу ва ўпаковачных матэрыялах. Мы ім — мяшкі, яны нам — мікрасхемы ў мяшках. Сусветны падзел працы! Дыверсіфікацыя!

Ды чалавек жыве не хлебам адным, хай нават загорнутым у адпаведныя ўпаковачныя матэрыялы. Агляд цэлюлозна-кардоннага камбіната натхніў АП на экзістэнцыйнае абагульненне: «Запомніце: паветра, харчаванне і вада — найважнейшыя элементы для існавання чалавека і яго здароўя. Дадайце да гэтага рух. <…> Гэта зарад на цэлы дзень. Далей трэба нармальна харчавацца і дыхаць свежым паветрам — і будзеце здаровымі».

Тым, хто з першага разу не запомніў, прапаную апошнюю цытату перачытаць некалькі разоў, пасля чаго не марудзячы перайсці да фізічных практыкаванняў. «Азбука паліталогіі» пачакае. Здароўе даражэйшае. Рухайцеся, рухайцеся. Пажадана, у кірунку кухні.

### Новы фармат рабочых паездак

Краіна ў нас вялікая, а АП адзін. Як быць, дзе яшчэ знайсці спецыялістаў, здольных прыйсці на любы народна-гаспадарчы аб'ект, убачыць усе яго праблемы — і перамагчы?

На працягу чвэрці стагоддзя адказ на гэта лёсавызначальнае для краіны пытанне не праглядаўся. Але складваецца ўражанне, што праменьчык надзеі ўжо найбліжэйшымі калі не тыднямі, то месяцамі праб'ецца скрозь хмары коснасці і бюракратызму. Закладам таму служыць новы фармат рабочых паездак АП. Сутнасць яго простая: «напярэдадні прыезду АП у той ці іншы раён на мясцовыя прадпрыемствы будуць выязджаць кіраўнікі рэспубліканскага ўзроўню і затым трымаць справаздачу перад АП».

Такая тэхналогія дазволіць забіць двух зайцаў адным стрэлам: па-першае, яна не парушыць манаполію АП на прыняцце канчатковых рашэнняў, па-другое, дасць магчымасць значна спрасціць сам працэс прыняцця такіх рашэнняў, вызваліўшы АП ад неабходнасці ўнікаць у канкрэтыку.

Далей цытата з афіцыйнага прэс-рэлізу: «Так ужо адбылося ў Светлагорскім раёне. Кіраўнік АП Ігар Сяргеенка, старшыня Савета Рэспублікі Наталля Качанава і старшыня Камітэта дзяржкантролю Леанід Анфімаў загадзя пабывалі на шэрагу прадпрыемстваў, як прамысловых, так і ў сферы сельскай гаспадаркі, вытворчасці прадуктаў харчавання».

Даклады вышэйпералічаных спадароў-таварышаў немагчыма чытаць без замілавання. У прыватнасці, пры наведванні завода жалезабетонных вырабаў ад пільнага позірку Качанавай не схаваўся той факт, што прадпрыемства па паказчыках прасела ў параўнанні з мінулым годам. Аднак, прыгледзеўшыся, яна выявіла пазітыў, пра што радасна адрапартавала АП: «Але там новы дырэктар, бачанне ў яго ёсць у працы. Яны працуюць, укамплектаваныя людзьмі, аднак ёсць змяняльнасць».

Рэакцыя АП была хуткай: ён запатрабаваў «прыняць дадатковыя меры ў пытанні ўмацавання вытворчай дысцыпліны».

***

Нядобразычліўцы з «пятай калоны» пасаромленыя. Ёсць яшчэ порах у парахаўніцах! Застой беларускай мадэлі не пагражае.



# Ці ёсць расійскі след у дзейнасці «эскадронаў смерці»?

Дзяніс ІВАШЫН

**Публікацыя выданнем Deutsche Welle рэзананснага інтэрв'ю з чальцом так званага «эскадрону смерці» выклікала шырокі грамадскі розгалас у Беларусі. Нагадаем, колішні баец САХР Юрый Гараўскі прызнаўся, што мае найпростае дачыненне да выкраданняў і забойстваў лідараў беларускай апазіцыі. Прапануем інфармацыю пра аднаго з непасрэдных фігурантаў гэтых сведчанняў — Сяргея Шкіндзерава, імя якога Гараўскі згадваў досыць часта.**



Складзены ўласнаручна Гараўскім спіс групы, якая, паводле яго сведчанняў, мае дачыненне да «эскадрону смерці». На трэцяй пазіцыі ў спісе пазначаны Шкіндзераў. Скрыншот відэа DW




Сяргей Шкіндзераў

Юрый Гараўскі распавёў, што тэрміновую ваенную службу праходзіў у 3-й асобнай Чырванасцяжнай брыгадзе аператыўнага прызначэння ў структуры Унутраных войскаў МУС РБ (в/ч 3214, пункт сталай дыслакацыі — мікраён Уручча, Мінск). Пасля заканчэння тэрміновай службы, ён працягнуў служыць у новым падраздзяленні гэтай брыгады, якое атрымала назву «Спецыяльны атрад хуткага рэагавання» (САХР, па-руску СОБР). Адным з першых месяцаў дыслакацыі САХР была вайсковая база непадалёк ад Бягомля Віцебскай вобласці.

Гэты атрад быў афіцыйна створаны згодна з указам экскіраўніка МУС РБ Юрыя Сівакова ад 29 чэрвеня 1999 года, паводле арганізацыйна-штатнай структуры ён увайшоў у згаданую вышэй 3-ю брыгаду. Аднак, паводле сведчанняў Гараўскага, касцяк атраду пачаў фарміравацца за год да даты яго афіцыйнага стварэння, туды ўвайшлі тыя, каго экс-баец САХР непасрэдна называе рэалізатарамі забойстваў лідараў беларускай апазіцыі.

Паводле сведчанняў Гараўскага, найпростае дачыненне да выкрадання і забойства Захаранкі, Ганчара і Красоўскага мае яго таварыш па службе, колішні баец САХР Сяргей Шкіндзераў.

Працытуем ключавыя моманты сведчанняў Гараўскага, задакументаваныя сродкамі відэафіксацыі, у якіх фігуруе Сяргей Шкіндзераў (падаем у арыгінале):

«Я с Павличенко был в машине, плюс еще сидели Бородач Юра и Шкиндеров Сергей. В другой машине — Карпович Дима, Новаторский, Кожевников, Панков и Румянцев Леша. Румянцев и Карпович встали в начале и конце дома. Я и Шкиндеров — мы были повыше — когда узнали, что Захаренко припарковался и пошел в сторону дома, пошли за ним. <…> Тут же мы подошли и сказали: "Руки за спину". Надели Захаренко наручники, подъехала машина, Opel. Мы посадили его в машину на заднее сиденье».

Гараўскі таксама сведчыць, што Захаранка быў вывезены на навучальную базу Унутраных войскаў непадалёк ад вёскі Валоўшчына Мінскага раёна і забіты ў раёне стрэльбішча:

«Павличенко два раза выстрелил в Захаренко в район сердца. Захаренко лежал на животе. Минут 10–15 подождали. Шкиндеров нагнулся, потрогал, есть ли пульс. Сказал, что нет».

Наступны эпізод, у якім, згодна са сведчаннямі Гараўскага, фігуруе Сяргей Шкіндзераў, звязаны з забойствам Ганчара і Красоўскага ў месцы базавання САХР паблізу Бягомля:

«<…> Там в начале дороги оставили джип Красовского, в деревья его закатили, дали задний ход. Около полосы препятствий достаем Гончара и Красовского, кладем их рядышком. Яма уже была готова. Это была могила.

— Кто ее копал?

— Когда мы приехали, я увидел там Балынина, Шкиндерова Сергея, увидел Юру Будько».

16 лютага 2020 года выданне Deutsche Welle апублікавала відэа сустрэчы Юрыя Гараўскага з дачкой Юрыя Захаранкі Аленай Захаранка, якая жыве ў Германіі. У ім Гараўскі пацвярджае ранейшыя і дае новыя сведчанні пра Шкіндзерава, з якім ён, паводле яго словаў, непасрэдна ўдзельнічаў у выкраданні Захаранкі:

«Мы со Шкиндеровым выкрутили ему так руки, чтобы он не смог особенно и что-то сказать. Его в машину практически занесли».

Алена Захаранка прыгадвае: за некалькі дзён да выкрадання яе бацькі, той заўважыў, што за яго аўто сачылі. Паводле яе слоў, Юрый Захаранка адмыслова зрабіў так, каб машына сачэння заехала за ім у тупік. Ён выйшаў са сваёй машыны і падышоў да аўто, з якога за ім сачылі, адкрыў дзверы і сказаў маладым людзям, якія былі ў ім: «Вы кепска працуеце».

Гараўскі ўпэўнена засведчыў, што ў гэтай машыне знаходзіліся Алег Забенька і Сяргей Шкіндзераў.

Паказальна, што Юрый Гараўскі выказаў намер пацвердзіць усе свае паказанні падчас судовага працэсу, і нават гатовы да магчымага пакарання. Адзінай умовай для гэтага ён назваў правядзенне працэсу не ў Беларусі.

Каб атрымаць каментар наконт сведчанняў Гараўскага, «Новы Час» непасрэдна звязаўся з Сяргеем Шкіндзеравым. Аднак ён катэгарычна адмовіўся даваць якія-кольвек каментары.

Паводле крыніцаў адкрытага доступу, Сяргей Уладзіміравіч Шкіндзераў нарадзіўся 9 студзеня 1979 года. Служыў у згаданай вышэй в/ч 3214 (3-я асобная Чырванасцяжная брыгада аператыўнага прызначэння, цяпер 3-я Чырванасцяжная брыгада спецыяльнага прызначэння). Характэрна, што ў сваім акаўнце ў сацсетцы «Аднакласнікі» Сяргей Шкіндзераў пазначыў менавіта в/ч 3214.

Да нядаўняга часу Сяргей Шкіндзераў з'яўляўся памочнікам старшыні кіравання ААТ «Прыёрбанк». Майстар спорту па дзюдо і рукапашным боі, мае крапаваы берэт.

У 2007 годзе чалавек з ягоным ПІБ (прозвішча, імя, імя па бацьку) і грамадзянствам РБ стаў заснавальнікам маскоўскай кампаніі ТАА «БПМ» («Белпрактика-М») са статутнай доляй 25%. Асноўным відам дзейнасці кампаніі з'яўляўся аптовы гандаль нехарчовымі спажывецкімі таварамі.

Аднак у верасні 2013 года, праз шэсць гадоў пасля заснавання, гэта кампанія была ліквідаваная. Яе генеральным дырэктарам быў Вадзім Міхайлавіч Карповіч. Цікава, што яшчэ адным фігурантам сведчанняў Гараўскага з'яўляецца Дзмітрый Карповіч.

Я вырашыў таксама пераправерыць дадзеныя пра кампанію з падобнай назвай, зарэгістраванай на тэрыторыі Беларусі ў 2006 годзе — на год раней за маскоўскую. Аднак у атрыманай інфармацыі з Адзінага дзяржаўнага рэгістру юрыдычных асобаў і ІП Міністэрства юстыцыі РБ адносна збанкрутаванай і ліквідаванай у 2018 годзе кампаніі ТАА «БелПрактыка» Шкіндзераў не быў выяўлены ані сярод заснавальнікаў, ані сярод дырэктараў.

Вызначана, што не пазней за травень 2013 года Сяргей Шкіндзераў пачаў працаваць у ААТ «Прыёрбанк», які з 2003 года належыць аўстрыйскай банкаўскай групе «Raiffeisen Bank International». У апублікаванай у 2013 годзе справаздачы пра ўстойлівае развіццё Raiffeisen Zentralbank Group за 2011–2012 гады яго імя пазначанае ў спісе асобаў, якім рэдакцыя выдання дзякуе за ўнёсак і дапамогу.

Цікава, што чалавек з ідэнтычным ПІБ быў зарэгістраваны ў якасці індывідуальнага прадпрымальніка Мінскім гарвыканкамам і інспекцыяй МПС РБ па Маскоўскаму раёну Мінска ў студзені 2014 года, аднак ужо напрыканцы гэтага ж года было ўхваленае рашэнне пра спыненне дзейнасці ў якасці ІП. З гэтага часу і да сённяшняга дня статус гэтага прадпрымальніка — у працэсе ліквідацыі.

Характэрна, што ў сувязі з «Прыёрбанкам» фігуруе яшчэ адна асоба, якая, магчыма, з'яўляецца бліжэйшым сваяком Сяргея Шкіндзерава. У адкрытых крыніцах інфармацыі маюцца звесткі пра тое, што напрыканцы 2009 года старшыня кіравання «Прыёрбанка» Сяргей Касцючэнка ўхваліў рашэнне пра ахвяраванне 20 мільёнаў рублёў на ўтрыманне ўсурыйскага тыгра з заасаду Магілёўскага прафесійнага агралесатэхнічнага каледжу імя Арлоўскага. Каментары пра гэты дабрачынны акт сродкам масавай інфармацыі даваў тады Уладзімір Шкіндзераў. У інфармацыйных матэрыялах ён фігуруе як памочнік старшыні кіравання «Прыёрбанка».

Да сведчанняў Юрыя Гараўскага імя Сяргея Шкіндзерава апошні раз згадвалася ў СМІ з нагоды правядзення так званай эстафеты агню «Полымя міра», якая адбывалася 1 чэрвеня 2019 года ў Горках Магілёўскай вобласці і была прымеркаваная да правядзення ІІ Еўрапейскіх гульняў у Мінску. Сяргей Шкіндзераў асабіста прымаў у ёй удзел.

У Горках знаходзіцца ваенны камісарыят Горацкага і Дрыбінскага раёнаў Магілёўскай вобласці, які ачольвае падпалкоўнік Аляксандр Уладзіміравіч Шкіндзераў. Ён, магчыма, з'яўляецца братам Сяргея Шкіндзерава. На жаль, з першых вуснаў гэту інфармацыю пацвердзіць не атрымалася, але інфармацыя з адкрытых крыніцаў ускосна гэта пацвярджае.

Імя Аляксандра Шкіндзерава сустракаецца і ў маніторынгу, у якім аўтар гэтага артыкула дае чытачу права самастойнага вызначэння таго ці іншага фігуранта матэрыялу патэнцыйным агентам уплыву Расійскай Федэрацыі.

Вядома, што Аляксандр Шкіндзераў нарадзіўся ў 1973 годзе ў Мінску. У 1995-м скончыў Калінінградскую вышэйшую вучэльню інжынерных войскаў. Ад жніўня 1995-га да ліпеня 1998 года выконваў баявыя задачы ў зоне надзвычайнага становішча па ахове адміністрацыйнай мяжы колішняй Чачэна-Інгушскай АССР у Рэспубліцы Інгушэція Расійскай Федэрацыі. Быў вайскоўцам 137-га Назранаўскага памежнага атраду Каўказскай асобай памежнай акругі Федэральнай памежнай службы (ФПС) РФ.

З ліпеня 1998-га да жніўня 2000 года, у той момант, як у Беларусі дзейнічаў «эскадрон смерці», Аляксандр Шкіндзераў праходзіў ваенную службу ў Рэспубліцы Паўночная Асецыя — Аланія Расійскай Федэрацыі ва Уладзікаўказскім памежным атрадзе Каўказскай асобай памежнай акругі ФПС РФ. З 2003 года гэтае ведамства замененае на Памежную службу ФСБ РФ. У студзені 2000 года Аляксадр Шкіндзераў удзельнічаў у баявых дзеяннях у Аргунскай цясніне Чачэнскай рэспублікі.

Станам на люты 2020 года падпалкоўнік Аляксандр Шкіндзераў — ваенны камісар Горацкага і Дрыбінскага раёнаў Магілёўскай вобласці. Гэты важны орган вайсковага кіравання, які апроч здзяйснення ваенна-мабілізацыйнай гатоўнасці і ўліково-прызыўной дзейнасці з'яўляецца элементам забеспячэння функцыянавання сістэмы тэрытарыяльнай абароны Беларусі, ачольвае вайсковец, які даваў прысягу ў вернасці Расіі і нават удзельнічаў у баявых дзеяннях у складзе падраздзяленняў расійскай арміі.

З улікам празмернай насычанасці патэнцыйнымі агентамі ўплыву Расійскай Федэрацыі ўсіх узроўняў сістэмы дзяржаўнага кіравання Беларусі, варта і неабходна адпрацоўваць магчымы расійскі чыннік у дзейнасці «эскадрону смерці» ў нашай краіне. Вышэйшае ваенна-палітычнае кіраўніцтва Расіі было і застаецца зацікаўленым у знаходжанні Беларусі пад яе суцэльным пратэктаратам, у кансервацыі нашай краіны ў сацыякультурнай і гуманітарнай прасторы РФ. У рэчышчы гэтых стратэгічных мэтаў цалкам палягала і застаецца актуальнай нейтралізацыя ўсіх празаходніх дэмакратычных сілаў у Беларусі.

# «Спісалі на мацярык»: куды знік рэпрэсаваны пастпрад БССР?

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Міхаіл Мароз быў першым пастпрадам БССР у Маскве, узначальваў Белдзяржвыдавецтва, кіраваў справамі СНК БССР. Ажаніўся з актрысай Алесяй Александровіч, у якую быў закаханы Міхась Чарот. А потым Мароза абвінавацілі ва ўдзеле ў нацыянальна-фашысцкай арганізацыі, далі тэрмін, а неўзабаве пасля вызвалення былы пастпрад знік без звестак. Цяпер яго магілу шукае праўнук.**

Для мяне гэтая гісторыя пачалася з Вайсковых могілак. Пазамінулым летам, калі там ва ўсю шчыраваў Спецкамбінат КБА — зносіў старыя надмагіллі і пляскаў замест іх тыпавыя надгалоўнікі, валанцёры кінуліся адстойваць некропаль і яго каштоўныя пахаванні. Сярод іх — магіла актрысы і педагога Алесі Александровіч, у якую быў закаханы паэт і пісьменнік Міхась Чарот. Менавіта Алесі ён прысвяціў сваю п'есу «На Купалле», дзе, сярод іншых спеваў, прагучала вядомая «Купалінка», і выканаўцай галоўнай ролі ў якой стала Алеся.



**Алеся Александровіч.** Фота з НАРБ прадастаўлена Таццянай Навасельскай

Аднак дзяўчына аддала сваё сэрца не летуценнаму Чароту, а кіраўніку Прадстаўніцтва БССР пры ўрадзе СССР Міхаілу Марозу, які арганізоўваў гастролі спектакля ў Маскве.

Сям'я жыла ў БССР, у Алесі і Міхаіла нарадзілася двое сыноў — Міхаіл і Андрэй. У 1935 годзе Міхаіл Іванавіч з'ехаў у Магадан і вярнуўся праведаць сям'ю ў 1937 годзе. Неўзабаве яго арыштавалі і далі 10 гадоў лагераў. Вядома, што там Міхаіл Мароз страціў здароўе і, верагодна, сканаў, але дзе, калі і пры якіх абставінах — невядома...

І тут валанцёры Вайсковых могілак паведамляюць, што ў Мінск прыехаў праўнук Міхася Мароза, які знайшоў шмат цікавай інфармацыі аб прадзеду ў расійскіх архівах і працягвае пошукі ў нас. Кліменцій Батароеў нарадзіўся і жыве ў Іркуцку. Яго дзед, Андрэй Міхайлавіч Мароз, быў фізікам, маці — доктар-кардыёлаг. Клім жа атрымаў спецыяльнасць «медыцынская фізіка», потым скончыў магістратуру па эканоміцы, піша дысертацыю па эканоміцы аховы здароўя, а таксама працуе ў сферы інфарматызацыі гэтай галіны. Апроч таго, ён выкладае, а ў вольны час займаецца даследаваннем лёсу свайго прадзеда.



**Кліменцій Батароеў.** Фота Дзіяны Серадзюк

— Я з дзяцінства ведаў, што нейкі мой продак быў чалавекам высокага палёту, але ён знік, і ніхто не ведае, што з ім стала, — распавядае Клім Батароеў.

Пасталеўшы, хлопец стаў цікавіцца гэтай гісторыяй. У 2017 годзе разам з мінскімі сваякамі ён узяўся за пошукі слядоў прадзеда.

## Узлёт і падзенне

Міхаіл Мароз паходзіў з сялянскай сям'і, якая жыла ў Капылі. У сям'і было дзевяць дзяцей, але адна з дачок памерла, і засталося восем. Міхась скончыў Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю, настаўнічаў у сельскай школе. Хлопцу ўдалося выбіцца ў людзі: з 1922 ён — паўнамоцны прадстаўнік БССР у РСФСР, у 1924-25 — загадчык Белдзяржвыдавецтва ў Мінску. Часова быў прызначаны наркамам асветы. З 1926 года — кіраўнік спраў СНК БССР, старшыня камісіі Інбелкульта па ахове помнікаў старадаўнасці, мастацтва і прыроды, сябар гісторыка-археалагічнай секцыі Інбелкульта.



**Алеся Александровіч і Міхась Мароз з сынамі Міхаілам і Андрэем.** Фота з НАРБ прадастаўлена Таццянай Навасельскай

**Двойчы Міхаіл Мароз аднаўляўся ў партыі, але ў трэці раз не змог і вельмі перажываў праз гэта. Быў 1934 год, пачынала набіраць ходу рэпрэсіўная машына. Каб не падстаўляць пад яе сям'ю, Мароз з'ехаў у Магадан**



**Міхаіл Мароз у 1923 годзе.** Фота прадастаўлена Клімам Батароевым

Але на пасадзе кіраўніка спраў СНК у Міхаіла Мароза пачаліся праблемы: яго сталі штурхаць, тройчы выключалі з партыі.

— Калі ён быў па справах выдавецтва ў Германіі 10 месяцаў, ён не змог тут заплаціць сяброўскія ўнёскі. І яго за гэта ўшчувалі і выключылі з партыі. Але потым вынеслі вымову і аднавілі. Другі раз знайшлі разыходжанні ў даце нараджэння: паводле адных дакументаў, ён нарадзіўся ў 1893 годзе, паводле іншых — у 1895. Гэта расцанілі як прыпіску ўзросту для павелічэння партыйнага стажу, што стала падставай для новага выключэння з партыі, — распавядае Клім Батароеў.

Двойчы Міхаіл Мароз аднаўляўся ў партыі, але ў трэці раз не змог і вельмі перажываў праз гэта. Быў 1934 год, пачынала набіраць ходу рэпрэсіўная машына. Каб не падстаўляць пад яе сям'ю, Мароз з'ехаў у Магадан на прыіск «Разведчык» загадваць планава-эканамічнай часткай. Як пазней ён напісаў у аўтабіяграфіі, прычынамі ад'езду сталі вострае ўспрыняцце выключэння з партыі, а таксама «шчырае захапленне пафасам асваення Крайняй Поўначы».





**Аўтабіяграфія Міхаіла Мароза**

## Сляды губляюцца

Адпрацаваўшы тры гады на Калыме і засумаваўшы па сям'і, Міхаіл Іванавіч у 1937 годзе едзе ў адпачынак у Мінск. Пабыўшы з сям'ёй, праз месяц ён вяртаецца назад. І ўжо там, у Магадане, яго арыштоўваюць.

Два з паловай гады, пакуль ішло следства, Мароз сядзеў у магаданскай турме.

— Канешне, яго катавалі. У першыя ж суткі пасля арышту з яго выбілі прызнанне, што ён удзельнічаў у контррэвалюцыйнай беларускай нацыянальнай арганізацыі, вёў актыўную барацьбу з Савецкім Саюзам, — кажа Клім Батароеў.

Праўнук распавядае, што Міхаіла Мароза білі, ставілі на «стойку» (некалькі дзён прымушалі стаяць, не даючы заснуць), але нават у такім становішчы ён пісаў скаргі на следчых.

Працяг на стар. 19 »



**Міхаіл Мароз з сынамі Міхаілам і Андрэем у 1937 годзе.** Фота прадастаўлена Клімам Батароевым



**Алеся Александровіч і Міхаіл Мароз.** Фота з НАРБ прадастаўлены Таццянай Навасельскай

**Літаратурная Беларусь**

Выпуск №2 (162)
(люты)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ
Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага Часу»

lit-bel.org
novychas.by

**Змест**



# Маяк неўміручасці

Марыя БАРАВІК



Выцінанка Вольгі Бабурынай

## Які намёк, якая песня?

Падсвілле. Сёмага лістапада. Кірмаш. І я бягу міма афішы на паварот да прылаўка.

Дык што там на афішы? Вяртаюся.

«Хочу назад в СССР!» — чытаю.

І ўжо міма мяне бягуць людзі. А я ўся — ураженне, адчуваю экспрэсію і чую асабістую рэакцыю: «Вялікакастрычніцкі настальгічны канцэрт запускаюць! Перад падпісаннем паглыбленай інтэграцыі. Здаюць незалежную Беларусь! Рвуцца назад у СССР! Мала ім Курапатаў, Афгана, Чачні! Канцэртамі агітуюць... А беларускі фальклорны гурт — «Балцкі субстрат» да парога школы не падпусцілі!» І нібы зноў чую ўслед: «Мы — государевы люди!». Дык хто сказаў? Дырэктарка ДК! Раённы дэпутат! Дзе ж тады народныя слугі?

## Мова карануе незалежнасць

Аж другога снежня прыцíхла мая ўнутраная завіруха. Настрой змяніла газета «Наша слова» (№ 48 за 27 лістапада). Яна з'явіла мне ўсмешку. Я ўгледзелася ў групу беларусаў (у іх постаці, твары, рукі на здымку) і ўжо мяркую: хто гэта? Ці тыя, хто слухае, што кажа віцэ-прэм'ер Беларусі пра Каліноўскага і паўстанцаў на пахавальнай урачыстасці, ці сам Ігар Петрышэнка ды іншыя афіцыйныя прадстаўнікі ад Беларускай дзяржавы? І здагадваюся: так і ёсць — ён і яны. Прыехалі, выйшлі з машыны — не трапілі яшчэ ў атачэнне беларускіх сцягоў. І тут жа скеміла па тварах: сцягі наперадзе іх — адлюстроўваюцца ў нечаканасці... Дык я пачынаю адгадваць думкі віцэ-прэм'ера праз свае, якія аж закучаравіліся ў фантазійных уяўленнях:

*— Куды патрапілі! Ой-ёй!*
*Краіны сёняшняй сваёй*
*Забыліся мы ўзяць сцягі.*
*«Шкада!» — сказаў адзін-другі...*

З вытрымкі прамовы віцэ-прэм'ера (у газеце) перачытваю яго думку пра тое, што дзейнасць Каліноўскага накіравана была на стварэнне беларускай дзяржаўнасці ў форме народаўладдзя, і во знаходжу яе ў сугучнасці з маёй. Дадаю: значыць, з карэннай мовай начале. Бо Кастусь выдаваў газету на роднай мове. Пісаў на ёй. Гэта ж яна, мова, карануе незалежнасць.

## Аб'яўляла сэрца на аргане

Хоць і мінула 155 гадоў (у вечнасці — імгненне), народную думку ў Вільні ахапіла свята. Першае пахаванне паўстанцаў не мела над сабой жалобы. Дык жа Бог кіруе па-Божаму плану, згодна гісторыі руху жыцця. Лістападаўская падзея 2019 года, як сказаў Дзяніс Івашын: «Успалымненне нацыі». Думаю, што гэта — яднанне душаў свабоды ў сувязным ланцугу пакаленняў.

Дачуня мая, Марыйка, унесла мне ў душу паэтычнае хваляванне па мабільным злучніку: «Непарадавальнае бягучым словам ураженне... На аргане іграла побач з іконай Маці Божай Вастрабрамскай. Насупраць — акно, у якім — «вуліца», падобная на пахаванне Быкава. Тут, мабыць, больш сцягоў...».

У мяне пранікла яе духабачанне, і я схапілася за пяро.

*Тваё сэрца білася ў аргане*
*Ў атачэнні сэрцаў і сцягоў.*
*Праўдзілася там з зямлі паўстанне*
*Кастуся й паплечнікаў яго.*
*Адыход парэшткаў да адхлання*
*Дух свабоды ў Неба замаліў.*
*Над катэдрай Бог пазначыў ранне*
*І святло над Вільняй запаліў.*
*Сэрцаў цёк ручай да Вострай брамы —*
*Пачуцця народнага прыліў.*
*І да Неба выструніла прама*
*«Плошча» дух з трагічнае зямлі.*
*Там душа Айчыны ў палымненні,*
*На свабодзе слова і сцягоў,*
*Замаўляла ў Бога вызваленне*
*Ад пацём'я грэшнага ўсяго.*
*Аб'яўляла сэрца на аргане*
*Дух айчынны, боль усіх вякоў.*
*Час маліўся, аб'яўляў паўстанні*
*З чорных ямаў, з вапнавых пяскоў.*

**Вёскі былі жывыя, а ў вёсках — школы і клубы. Унутры жыў боскі дух, карэнная мова. Бо вёскі былі напоўненыя вясковым народам. Яны трымалі мову, калі Масква сцірала ў сваю карысць моўныя нацыянальныя грані ўнутры рэспублік**

У гэтай светлай, жыццесцвярджальнай малітоўнай жалобе часу ўдзельнічаў і хор Чырвонага касцёла — «Голас душы».

## Ад чацвера да чацвера

Пятага снежня. Зноў чацвер. І я імкліва кіруюся да кірмашовага прылаўка.

Акурат, цюцелька ў цюцельку, на тым месцы, на дошцы-аб'яўніцы, паведамленне: «Мы ещё споём!». А я толькі што прачытала палітстаронку газеты «Новы час» — «Расійскі ўплыў і кантроль у Беларусі: рэзідэнтура».

Калі б — «спяём», дык і маё сэрца кінулася б у спеў, што незалежную Беларусь падтрымлівае роднай мовай Глыбоцкі культаддзел, адзначаючы саракапяціўгоддзе Падсвільскага ДК, хай сабе, з дня функцыявання (з 1974 года) новага будынка і яго зместу. Але ж — не. У мінулы чацвер аб'яўлялася: «Хочу назад в СССР». А ў сёняшні: «Мы ещё споём!». Дык што? Гэта значыць — намёк? На якую песню? Па ўсім зразумела:

*Ад чацвера да чацвера*
*Жыць вяртаннем эсэсэра —*
*Гэткі сёння наш дэвіз,*
*Вертыкальны зверху ўніз!*

## Не прыснілі б...

Думка спынілася во на чым: чаму разглядаецца толькі саракапяцігоддзе гісторыі ДК — ад года 1974? Ён жа ўзнік значна раней. Нічога, што той быў перабудаваны з польскай канюшні. Мы ж павінны разглядаць змест дзейнасці ў ім, асабліва патрыятычна-мастацкі, народны. Дык тады ніхто з гледачоў не змог бы і ўявіць, што на парог ДК ці на сцэну школы не пусцяць беларускі фальклорны гурт, такі, як «Балцкі субстрат» — плён прафесійнага кампазітара з дзвюма вышэйшымі музычнымі адукацыямі. Ды і сам кампазітар працуе ў дзяржаўнай музычнай установе. Гурт аб'ездзіў гарады, сёлы з канцэртнай праграмай. Толькі ў Падсвіллі Глыбоцкага раёна не ўдалося выступіць. Во дзівіліся б гледачы былога Дома культуры, каб, наадварот, прыснілі такую з'яву. Не паверылі б, што будзе існаваць клімат такой перастрахоўкі, што наўгад, на ўсякі выпадак, сцяной стане забарона. Абы забараніць. І дырэктарка ДК скажа: «Мы — государевы люди!».

Згадваю другую палову 60-х гадоў. ДК славіўся ў вобласці, у рэспубліцы самадзейным драматычным тэатрам (кіраўнік — Зоя Зарыцкая). Яна ж яшчэ жывая, вярнулася з Расіі ў Падсвілле. Працуе на агародзе, чытае кнігі і прысутнічае ў інтэрнэце. Але, атрымліваецца, што на гістарычнае мерапрыемства ДК яе не запросяць, бо яна вядомая як тэатрал таго перыяду, які не ўваходзіць у асвятляльны кавалак часу (1974–2019) гісторыі ДК. Яна славіла яго дзейнасцю раней, у будынку, пераробленым з польскай канюшні, якраз у час СССР, па якім так сумуе сёняшняя падсвільская афіша. Дзіўна. Парадаксальна. Чаму не разглядаецца поўная гісторыя ДК? Можа, не верыцца ў мастацкую працу ў былых умовах? У драўляных сценах, не на аб'ёмнай сцэне? Але сп. Зарыцкая стварала тут сцэнічную культуру па каштоўнасці — пасля Буйніцкага. Вірыла беларуская мова, разгортвалася маштабная карціна беларускага народнага жыцця, беларускіх характараў праз герояў: у «Паўлінцы», «Раскіданым гняздзе» Купалы; у «Партызанах» Крапівы; у «Ганцы» Галубка; у «Чатырох крыжах на сонцы» Дзялендзіка і ў многіх іншых драматычных творах беларускіх пісьменнікаў. Таксама і ў перакладзеных на родную мову, і ў асабіста напісаных для працы.

Тады вёскі былі жывыя, а ў вёсках — школы і клубы. Унутры жыў боскі дух, карэнная мова. Бо вёскі былі напоўненыя вясковым народам. Яны трымалі мову, калі Масква сцірала ў сваю карысць моўныя нацыянальныя грані ўнутры рэспублік, аб'яўляла рускую — мовай камунізму. Кінафільмы на нашай мове не ствараліся. У бібліятэках на паліцах — кніг на двух-трох стэлажах. У асноўным — згодна з навучальнай праграмай. А літаратуры на рускай мове — разгуляйся!

Сёлета я ўжо не хадзіла — прасіць за мову. Сяму-таму паведаміла, накшталт:

*Хутка перапісчык прыйдзе*
*ў двор —*
*Запісаць таго, хто не памёр,*
*Дык скажы, што ты —*
*ёсць беларуска!*
*І што мова родная твая —*
*Гэта неўміручасці маяк!*

...Перапісчыкі сказалі, што ў Падсвіллі 90 працэнтаў насельніцтва назвалі роднай мовай беларускую.

# Пілігрым Беларушчыны



Васіль ЖУКОВІЧ

**Яраслаў Пархута, чыё 90-годдзе адзначаем сёлета, 8 сакавіка, — з ліку маіх любімых пісьменнікаў. Ды не таму, што ён быў уганараваны Дзяржаўнай прэміяй, а таму, што быў вельмі чуйны да людскіх боляў, да народных бедаў і ўмеў мабілізаваць Богам дадзены талент — нягледзячы на самыя складаныя абставіны.**

Наканаванай справе служыў самаахвярна. Мала хто ведае, што ён перажыў клінічную смерць, калі яму споўнілася крыху больш за шэсцьдзесят. Пра тое выпрабаванне гаворыць нам ягоны цяжкі сон, апісаны класічна. «Мяне вялі на расстрэл. Хто вёў — не ведаю. Усе яны былі ў масках», — такі пачатак сну. Яго на хаду абвінавачвалі тыя трое, што былі ў масках: «Ты аднойчы здрадзіў каханай! Ты аднойчы пакрыўдзіў дзіця! Ты аднойчы не падаў жабраку!» Ён, спадзеючыся на літасць, апраўдваўся: «Каханая ж пакінула мяне! Дзяцей уласціва памыляцца. А кавалка хлеба і сам, бывала, не меў». Яму сказалі: «Усё адно грэх твой вялікі». І загадалі: «Спыніся і павярніся!» Ён спыніўся і павярнуўся. «Ударыла ў сэрца, і яно зайшлося ад болю». Ён закрычаў. Але голасу не пачуў свайго. Затое пачуў іншы — знаёмы і блізкі: «З вяртаннем, дружа!» Ён расплюшчыў вочы. Ля ложка ў белым халаце стаяў ягоны доктар. У правай руцэ трымаў шпрыц, а левым марлевым тампонам з ілба здымаў халодны пот.

Яраслава да гэтага крызісу часта білі маланкі інсультаў ды інфарктаў (іх было ажно паўтузіна), а ён, падымаючыся пасля чарговага ўдару, яшчэ з большым азартам браўся за справу ці, больш дакладна, працягваў яе: ішоў да новых сваіх твораў-гімнаў Беларусі, твораў-дакументаў роднай гісторыі, твораў-услаўленняў мужных герояў, твораў-споведзяў растрывожанага сэрца і нялёгкага роздуму, твораў-абвінавачванняў зла...

Намаляваны пісьменнікам працавіты, майстравіты і таленавіты гусляр дзед Максім (у творы «Апошні гусляр») чымсьці нагадвае і яго самога. Яраславу Пархуту, чалавеку з роду плугароў, баліць душа не толькі за знявечаную зямлю, а за ўсё, што зводзіцца: за стан роднай мовы, за нашую духоўнасць, за народныя святыні, паламаныя лёсы і забраныя жыцці сыноў і дачок шматпакутнае Бацькаўшчыны. Сярод шматлікіх герояў Пархуты — яго славуты зямляк, кіраўнік паўстання 1794 года Тадэвуш Касцюшка, павешаны Мураўёвым у Вільні народны герой Кастусь Каліноўскі, знішчаныя злачынным сталінскім рэжымам легендарны пісьменнік, актор, рэжысёр, мастак Уладзіслаў Галубок і знакаміты вучоны-мовазнаўца, публіцыст, акадэмік НАН Беларусі Браніслаў Тарашкевіч, пакутнік XX стагоддзя Сяргей Новік-Пяюн, які спазнаў шмат гадоў няволі як пры паляках, так і пры немцах і маскалях, «палескі рабінзон» Іван Бушыла, які, ратуючыся ад сталінскага генацыду, сорак два гады (!) пражыў у глухім лесе. Між тым проза Яраслава Пархуты паэтычная, у ёй многа сонца, азону, прастору. І фантазіі, і філасофіі.

Аднойчы сваю пісьменніцкую ўвагу Яраслаў Пархута засяродзіў на школьным літаратурна-краязнаўчым музеі. Але на якім? На ўнікальным! На Гудзевіцкім літаратурна-краязнаўчым музеі (Мастоўскі раён), створаным вялікім энтузіястам, настаўнікам беларускай мовы, заслужаным дзеячам культуры Беларусі Алесем Мікалаевічам Белакозам і яго вучнямі. Унікальнасць гэтага астраўка краязнаўства, яго высокая культура паказаны пісьменнікам бездакорна. ... Гаспадар музея вядзе экскурсію, паказвае стэнды, цікавыя матэрыялы, распавядае пра іх. Адзін з першых стэндаў прысвечаны Францішку Скарыну. Нечаканы экспанат сюды прыйшоў з замежжа: праслаўлены наш спявак Міхась Забэйда-Суміцкі (родам з Пружаншчыны), які пражываў у Празе, прыслаў буклет-альбомчык з партрэтамі чэшскіх першадрукароў, асветнікаў, пісьменнікаў. Узрадаваў такі факт: чэхі першым змясцілі партрэт Скарыны. Наступная экспазіцыя — пра паўстанне К. Каліноўскага. «У нашай мясцовасці дзейнічала каля трох тысяч паўстанцаў, — кажа А. Белакоз. — Мы ганарымся і тым, што бацька Кастуся Каліноўскага паходзіў адсюль — з вёскі Рэпля». Алесь Мікалаевіч паказвае рэпрадукцыі карцін мастака П. Сергіевіча, прысвечаных гераічнай дзейнасці Каліноўскага. «А тут, бачыце, ручка, якою Уладзімір Караткевіч ствараў раман пра паўстанне Кастуся Каліноўскага «Каласы пад сярпом тваім», — гаворыць ён і знаёміць з наступнымі стэндамі, з матэрыяламі пра Дуніна-Марцінкевіча, Францішка Багушэвіча, Максіма Багдановіча. Тут і лісты-ўспаміны Зоські Верас — пра М. Багдановіча. Наведвальнікі музея часта здзіўляюцца: няўжо яна сама пісала нам успаміны? Няўжо гэта арыгіналы? «Так, пісала. Іх шмат, успамінаў Зоські Верас, — заўважае А. Белакоз. — Яна шмат зрабіла для Гудзевічаў».




Злева направа: Я. Пархута, У. Пузыня і С. Новік-Пяюн

Адну са сваіх кніжак «Крыніца ёсць у родным краі» Яраслаў падараваў мне з такім аўтографам: «Суседу па фазэндзе, земляку і аднадумцу на добры ўспамін аб пілігрыму». Як бы я ні ставіўся скептычна да слова «аднадумец», перачытваць такое прызнанне вядомага пісьменніка прыемна. Успаміны ў мяне пра яго выключна добрыя, светлыя. Яраслаў Пархута не толькі стаўся выдатным творцам і краязнаўцам, ён быў неардынарным чалавекам, непаседлівым, рухавым, мэтанакіраваным і вельмі ўмелым. Я меў радасць часта з ім сустракацца на лецішчы, дзе сусед бачыцца непараўнальна лепш, чым у гарадскім гмаху. Бачыў я, напрыклад, як займаўся ён пляценнем кошыка. Няспешна і акуратна згінаў два абручы, дапасоўваў да іх вочкі, устаўляў рабрынкі, і тады з ракітавых дубчыкаў на рабрыстай аснове «ткалася» роўненькае густое палатно, у выніку атрымліваўся на заглядзенне прыгожы кош. А як інакш, калі Яраслаў змалку любіў лес, добра ведаў грыбныя мясціны (ягадныя — гэтаксама), сам займаўся ціхім паляваннем і прышчапіў гэтую любоў дзецям: сыну Віктару і дочкам — Кацярыне і Волечцы, а пазней — і зяцю Аляксандру ды ўнуку Юрку. З поўным кошыкам праўдзівых (так у нас почасту называюць баравікі) бачыў яго летам даволі часта. Любіў ён грыбныя паходы. Мабыць, таму і адпаведная тэма ў Яраслава Пархуты нярэдкая: «Праўдзівікі», «Грузды», «Апенькі», «Познія грыбы», «Размова з грыбамі»... Здавалася б, хіба можна размаўляць з грыбамі? Яшчэ як можна! І нават вельмі ласкава. Адну такую размову пісьменнік падслухаў на выхадзе з лесу, дзе бабулька перабірала баравічкі, і яскравым уражаннем ад пачутага хораша падзяліўся з чытачамі...

**Успаміны ў мяне пра яго выключна добрыя, светлыя. Яраслаў Пархута не толькі стаўся выдатным творцам і краязнаўцам, ён быў неардынарным чалавекам, непаседлівым, рухавым, мэтанакіраваным і вельмі ўмелым**

Любоў да лесу ўдалага грыбніка не замінала яму быць і харошым садоўнікам. Дзякуючы толькі яму я, няхай сабе ўжо ў сталым узросце, навучыўся прышчапляць дзічкі яблыняў і грушаў. Аднойчы ён прынёс мне паўжмені яблыневых чаранкоў розных летніх гатункаў і паказаў на маю дзічку, што расла каля самай вуліцы: «Прышчапляй, пасля — як знойдзеш...». Прыжыліся ўсе тры летнія гатункі, яблыня разраслася і кожнае лета так родзіць, што яблыкамі частуем і суседзяў, і прахожых. Цяпер светла ўспамінаю Яраслава Сільвестравіча не толькі беручы ў рукі і чытаючы ягоныя кнігі — успамінаю ўсё часцей, калі сад цвіце і калі адцвітае, засяваючы зямлю пялёсткамі, а пазней адорвае пладамі, і калі з дрэваў ападае лісце, і калі самотны сад патанае ў снезе... Як не ўспамінаць, калі Пархутава хата, крайняя ад дарогі, стаіць побач з маёй. З той хаты ён ішоў да людзей — у шырокі свет.

А пазнаёміўся я з ім у 1965 годзе, калі ён працаваў старшым рэдактарам Брэсцкай студыі тэлебачання. У тым жа далёкім годзе была ў нас адна сумесная паездка, якая і тады выклікала і цяпер выклікае ў мяне ўсмешку. Напярэдадні нарады перадавікоў сельскай гаспадаркі абласное начальства вырашыла мабілізаваць вопытных літаратараў і журналістаў на стварэнне вершаванага тэксту для піянерскага прывітання вартых пашаны працаўнікоў сяла. Для такой адказнай місіі і паклікалі ў аблвыканкам Яраслава Пархуту, Міхася Рудкоўскага, Анатоля Гарая і мяне. Старэйшы з нас, самы бывалы, Яраслаў сказаў загадчыку аддзела: «Ведаеце, у горадзе зашмат шуму, грукату, ад чаго ўцякае муза. Мы мусім акунуцца ў цішыню. Дайце нам камандзіровачку ў Белавежскую пушчу».

Калі мы апынуліся ў Камянюках, у гасцініцы вядомага запаведніка, адразу прыступілі да справы. За кароткі час зрабілі чарнавы варыянт даручанага нам задання і пайшлі на ўскраек пушчы па грыбы. Назбіралі грыбоў, занеслі іх на кухню рэстарана, дамовіліся, каб кухаркі пасмажылі. Падчас вячэры мы пачуваліся шляхтаю. Пад жаданую закусь заказалі па сто грамаў армянскага каньяку (нам жа ў Берасці выдалі камандзіровачныя!). Добра прыгатаваныя і пададзеныя нам грыбы стаялі ў спецыяльнай пасудзіне ў выглядзе стажка і пахлі свежа ды так прыемна, што на нас пазіралі ўсе з-за суседніх сталоў...

Яраслаў праўдзіва называў сябе пілігрымам. Не ведаю, ці ад прыроды, ці ад адукацыі стаўся такім. Па прафесіі быў ён журналіст з ярка выражаным краязнаўчым ухілам. Натуральна, падарожжы па Беларусі, выкліканыя няўрымслівасцю натуры, надзвычайнай дапытлівасцю, руплівасцю і бязмежнаю любоўю да Беларусі, да яе мудрых, мужных, працавітых людзей, прыносілі яму радасць і плён. У выніку з'явілася мноства твораў пра мясціны, дзе нарадзіліся ці жылі слынныя людзі зямлі нашай, пра саміх людзей: і мудрых, і мужных, і цягавітых.

Але не толькі пра іх. Яраслава Пархуту цікавілі і вабілі і вядомыя радовішчы, тыя вытворчасці, якія давалі краіне важкі рубель (здабыча беларускай нафты, калійнай солі, граніту, радону...), і ўсё незвычайнае, часам палярнае, скажам, самая высокая і самая нізкая геаграфічныя кропкі рэспублікі, самая паўночная і самая паўднёвая, самая ўсходняя і самая заходняя вёскі, самы ўнікальны дуб, буйнейшая ў Еўропе калонія чорных чапляў, месца падзення Брагінскага метэарыта; яго непакоілі праблемы экалогіі, выкарыстання зямлі, побыту сялян, стан нашых лясоў, малых рэк, помнікаў прыроды. Вабіла старажытная гісторыя, род крывічоў. І таму пастаянна клікалі дарогі.

Яго і хвіліна скону застала не дома і не на шпітальным ложку, а пад адкрытым небам. У сакавіку, у тым жа вясновым месяцы, калі з'явіўся на белы свет. Яшчэ за два дні да смерці Яраслаў ездзіў на вечарыну ў Дом літаратара, слухаў добрую музыку, дзіцячыя спевы, быў поруч з сябрамі па літаратурным цэху... У адным з ягоных твораў Празарока, які нёс варту на ўзвышшы, з грудзей сваіх вырваў палымянае сэрца і падняў высока-высока, каб паведаміць краю пра галоўную небяспеку — набліжэнне ворага. Яраслаў Сільвестравіч не шкадаваў сваё сэрца, параненае інфарктамі, аддаваў яго цеплыню і святло людзям. Шчыры і шчодры сын селяніна ад імя абкрадзенага і зняважанага працоўнага люду выказаў сваё крэда ў «Тастаменце»:

«Адпісаў бы табе зямлі. Але ў мяне, селяніна, адабралі яе і, знявечыўшы, засеялі чарнабыльнікам.

Адпісаў бы табе грошы. Але я існаваў з працы рук сваіх — не сабраў за жыццё і капейчыны.

Адпісаў бы табе храм. Але яго няма, а на руінах святыняў яшчэ правіць шабаш антыхрыст.

І таму адзінае, што адпісваю табе, — гэта Любоў да краю роднага. Зберажы яе і перадай дзецям сваім. А дзеці няхай перададуць сваім дзецям. А тыя — сваім...

Тады мо ўсё і вернецца на кругі свая».

# Сваёй дарогай



Анатоль ВЯРЦІНСКІ

### Буркочуць на балконе галубы…

***Па матывах верша Генадзя Бураўкіна «Калі ты жыў нямала на зямлі»***

*Буркочуць на балконе галубы…*
*Няма найлепшай птушкі хатняй.*
*Я ўжо прывык да іх «гу-у-у-у», нібы*
*балкон мой стаў ім галубятняй.*

*На лецішчы пра сон, — сон у руку, —*
*пачулася спагадлівае, ветлае,*
*як ранішнія промні, светлае,*
*чароўнае зязюліна «ку-ку».*

*І тут жа бачыцца мне — у акне:*
*на провад ластаўка ўвішна села,*
*зашчабятала ласкава, запела…*
*Ці не вітала гэтак вось мяне?*

*Калі ж з мансарды я спусціўся ўніз,*
*мяне чакаў яшчэ адзін сюрпрыз,*
*стаў сведкаю яшчэ адной падзеі:*
*шпак са шпачыхай прыляцелі!*

*Вярнуліся ўсё ж назад,*
*адолеўшы цяжкое падарожжа, —*
*на тое ж месца, ў той жа сад*
*і да маёй шпакоўні той жа.*

*Зязюля, ластаўка, шпакі…*
*А ў агародзе блізка-блізка*
*галодная прабегла міма пліска,*
*ледзь не крануўшыся маёй рукі.*

*І як ніколі, ў гэты майскі дзень*
*адчуў я, што я нешта значу,*
*што прызначэнне нас, людзей —*
*не толькі клопат пра сваю ўдачу,*
*а што ў адказе мы яшчэ якраз*
*за ўсіх, каго мы прыручылі,*
*за ўсіх, хто сам прывык да нас,*
*за ўсё жывое — у сваёй Айчыне.*

*Найгоршы грэх — не апраўдаць*
*даверу іх, іх спадзявання…*
*Такім вось чынам, дарагі Генадзь,*
*я і ўспрыняў тваё пасланне.*

*Ці слушна прачытаў твой верш?*
*Ты можаш, дружа, не спяшаць з адказам.*
*Ты ў вершы жыў і ў ім жывеш,*
*ну а ў маім — жывем мы разам.*

### Пра дзіўнае адчуванне

*Дзіўнае, знаеце, адчуванне,*
*адчуванне — перажыванне…*
*Яно ў форме пытання ўзнікае:*
*«Дзе тая мяжа, тая рыса, якая —*
*між «ёсць» і «няма», між «быў»*
*і «не стала»?*
*Між «тут» і «там», між «шмат»*
*і «мала»?*

*Між светам гэтым і тым светам,*
*ці то змрочным, ці то светлым?*
*Між нашым сёння і нечым вечным,*
*ці то бязлюдным, ці то чалавечным?*

*Яны ў адным клубку знітаваныя —*
*рэальнае, яўнае і віртуальнае.*
*Так, дзіўнае гэткае вось адчуванне,*
*адчуванне — перажыванне.*

### Размова на досвітку

***Рыхтуючыся да ўдзелу ў паэтычным свяце «Бабіна лета ў Белаазёрску з Нінай Мацяш», якое ўжо стала традыцыйным, знайшоў раптам амаль паўзабыты прысвечаны ёй верш. Пад назовам «Размова на досвітку». З нейкай прычыны не апублікаваны. Выраšыў зрабіць гэта цяпер, з нязначнымі праўкамі. Заўважу: «досвітак», «світанне», «світальны» — адны з улюбёных слоў Ніны Мацяш.***

*Тры дні таму, за горадам, на дачы,*
*дакладней — на сваёй мансардзе дачнай,*
*у прадсвітальнай летняй цішыні*
*я абудзіўся з думкай пра цябе*
*(ці не прыснілася мне перад гэтым?).*
*Звярнуўся ў думках я з пытаннем:*
*«Ці ведаеш, ці ўяўляеш ты,*
*як многа для мяне ты значыш?*
*Як важны для мяне твой лёс?»*
*Падумаў для мяне і спахапіўся,*
*і стаў вініцца ў той жа міг*
*за тое, што вось так эгаістычна*
*пачаў на досвітку з табой размову,*
*і крыху ўдакладніў сваё пытанне:*
*«Ці ведаеш, ці ўяўляеш ты,*
*як многа значыш ты для нас,*
*для сваіх блізкіх па крыві і духу?*
*Для ўсёй сваёй шматлікае сябрыны?*
*Для ўсяе роднае краіны?*
*Ты — са сваёй усмешкай і слязой,*
*ты — са сваёю доляй і нядоляй,*
*ты — з сэрцам, сэрцайкам сваім,*
*такім вялікім і такім дрыготкім,*
*такім трывалым і такім пяшчотным,*
*ты — са сваімі праўдай і сумленнем,*
*ну і, вядома ж, са сваім «Агменем»…*
*Ці ведаеш, ці ўсведамляеш ты?*
*І ў перадранішнім святле*
*мне ўявіліся твая ўсмешка,*
*усмешка незвычайная твая,*
*і мудрая, і крышку іранічная,*
*твая усмешка, воблік твой.*
*І ў прадсвітальнай цішыні*
*пачуўся мне ў адказ твой голас:*
*«Чаму пра гэта я павінна ведаць?*
*Чаму павінна гэта я ўяўляць?*
*Чаму усведамляць павінна?*
*Мне што — няма чаго рабіць?*
*Займацца чым? Пра іншае што думаць?*
*Які мой лёс, якая самá ёсць, —*
*такую і прымайце, ягамосць!*
*Вам лепей знаць, што значу я для вас,*
*а мне відней, што для мяне вы значыце,*
*вы — блізкія па духу і крыві,*
*мая сябрына і мая краіна.*
*Ямчэй прымошчваю я на плячах свой крыж*
*і вам усім кажу я: «Будзьма!»*
*ды рушайма далей сваёй дарогай!»*

# Замова на беларускую мову



Святлана КАРАНЕНКА

*Чуеш, мама, я павінна была б быць*
*гучнай і сонечнай*
*беларускай паэтэсаю.*
*Словы адно да другога мелася падбіраць,*
*нібы анёлаў для раю нябеснага.*
*Мелася стаяць на трыбунах звонкай,*
*расхрыстанай,*
*трохі смешнай і… даўганогаю*
*у джынсах ці вышыванцы — усё роўна,*
*калі ідзецца пра беларускія словы,*
*што ірвуць маё сэрца растрывожанае.*

*Я мелася раскашаваць у мове маёй*
*беларускай,*
*як раскашуюць у мядовым соладзе,*
*мелася называць беларускімі словамі*
*травы і рэкі,*
*мелася назвы даваць кветкам і ветру,*
*мелася распавядаць пра выносныя сосны,*
*што застылі ў ранішнім холадзе*
*у краіне азёр і рэчак —*
*на зямлі беларускай,*
*як на Богам забытай палітры.*

*Мама, слова «Івацэвічы» дрыжыць*
*на тваіх губах,*
*нібы глыток мёду духмянага і гарачага.*
*Я не была ў Івацэвічах.*
*Не ведаю, ці буду.*
*Але назвала б словам тым*
*дзяцінства тваё шаўковае*
*і згадала б твайго дзядулю,*
*найдабрэйшага ў свеце,*
*з беларускаю калыханкай ля ложка*
*твайго дзіцячага.*
*І яшчэ б згадала прыбітую на дзвярах,*
*як герб пана Рэчы Паспалітай,*
*тонкую, нібы намаляваную,*
*срэбную падкову.*

*Мама, усё выбіраюць на свеце —*
*мову, краіну!*
*Ці ж пачую я слова тваё,*
*беларускай агучанае?*
*Гэты акцэнт беларускі,*
*як соль ці як стыгмы,*
*праступае ўпарта скрозь родны твой*
*голас:*
*«Гэта — кастрычнік!» — гартаеш ты*
*новы каляндар з Беларусі*
*і штосьці такое, накшталт пяшчоты,*
*неўсвядомлена,*
*праступае ў горле тваім,*
*і спадаюць на плечы тваё валасы,*
*як жоўты падрэзаны сноп.*

*Мама, у час наш, жорсткі і непрыветны,*
*што ўсё перамельвае вечнымі жорнамі,*
*праступае ўпарта вышыўка крыжыкам,*
*і ўсё роўна, адкуль яна —*
*з Івацэвічаў ці з нейкай гуцульскай гражды.*
*Мама, мелася я вышываць беларускія*
*словы,*
*словы маёй мацярызны,*
*белым па беламу ці чорным па чорнаму…*
*Колькі пяшчоты ў горле тваім ахрыплым:*
*«Студзень, красавік…»*
*Ох, мама! Кроў перадаецца ў спадчыну,*
*пяшчота — не заўсёды.*

*Мама, я мелася быць беларускай*
*паэтэсаю,*
*Каб цешыцца мовай гэтай празрыстай,*
*нібы возера ў лесе,*
*з прысмакам мёду духмяна-крывавае*
*кветкі,*
*і падтрымаць яе, словы шаптаць,*
*як на першым прычасці,*
*словы з салодкага раю.*
*І каб дзеўчына беларуская войкнула,*
*прачытаўшы іх, вышываныя нібыта*
*золатам.*
*Так вераць замовам, якія помняць цяпер*
*толькі старыя беларускі*
*і нашэптваюць поначы, стаўшы ў круг,*
*на шчасце.*

*А памятаеш, мама, першыя словы,*
*якіх ты дзяцей маіх навучыла?*
*Навучыла маскоўскіх! Нешта, мама,*
*усё-такі нам зрабілі!*
*А крык мой памятаеш, мама?*
*Як пачарнеў мне свет ад роспачы*
*і бяссілля!*
*Як закрычала ўпершыню на цябе:*
*«Мае дзеці будуць гаварыць па-ўкраінску!»*
*…Мову, мама, усё ж выбіраюць —*
*і вольныя, і нявольныя, і прыгнечаныя,*
*нават тыя, што цішэй за вільготны*
*вецер,*
*густы туман*
*і зімовыя цёмныя,*
*паламаныя снегам сцяблінкі.*

*Чуеш, мама, я мелася быць*
*беларускай паэтэсаю…*

**Пераклаў з украінскай мовы**
**Вячаслаў Рагойша**

# Замова ад асіміляцыі

**Магчыма, я не заўважыў бы ў газеце «Літературна Україна» (18 студзеня 2020 г.), тым больш не перакладаў бы гэты новы верш вядомай украінскай паэтэсы Святланы Караненка, каб не адна акалічнасць…**

Яе верш «Замова на беларускую мову» прыцягвае ўвагу вастрынёй думкі, кранае шчырасцю пачуцця. Любоў да роднай мовы, хваляванні за яе лёс у грамадстве вельмі дарэчы і таленавіта падаюцца тут праз зварот да фальклорнай формы замоў. Рытмічна арганізаваны тэкст перамяжоўваецца сказамі, якім надаецца сіла магічнага ўздзеяння. Сэнсава-сінтаксічныя паўторы гучаць як заклінанні на добрую будучыню роднай мовы. Гэта і просьбы, патрабаванні, пажаданні маладым матулям, каб не адракаліся ад роднага слова, вучылі сваіх дзяцей роднай мове.

Я веру, што гэты твор надзелены яшчэ і патаемнай сілай замовы ад асіміляцыі. Бо, на жаль, статыстыка сведчыць, што ў гэтым навучальным годзе ў беларускамоўных класах за парты села менш 10% першакласнікаў. Гэта нават менш, чым было калісьці ў БССР, і разоў у восем менш, чым налічвалася вучняў у беларускамоўных класах Рэспублікі Беларусь чвэрць стагоддзя назад…

Святлана Караненка ў сваім творы, звяртаючыся да аўтабіяграфічных момантаў, з настальгіяй прамаўляе: «Мама, я мелася быць беларускай паэтэсаю…». Чаму не стала? Пра гэта і верш, і невялікая прадмоўка да яго самой паэтэсы. Часам і ў нас у прыгожую пісьменнасць прыходзяць людзі, выгадаваныя ў асіміляваных рускамоўных сем'ях, і пачынаюць сваю творчасць на рускай мове. Праўда, здараецца, падросляўшы, нацыянальна ўсвядоміўшы сябе, вяртаюцца да мовы беларускай. Як, напрыклад, прыйшлі ў родную літаратуру Віктар Казько, Леанід Дайнека, Іван Ласкоў ды інш. Так прыйшла ва ўкраінскую літаратуру і Святлана Караненка.

Але дамо ёй слова:

«У маіх бацькоў быў міжнацыянальны шлюб. Бацька — украінец, мама — беларуска. Як вы думаеце, якой была мова зносін? Так, вы не памыліліся, — маскоўская. Дакладней, маскоўская трасянка. Іхняе дзіця, зразумела, было аддадзена ў рускую школу. І, зразумела, павінна было гаварыць на рускай мове. Збольшага, усе, хто выходзіў з рускіх школ, да ўкраінскай мовы не звярталіся. Але ўкраінскія гены часам выяўляюць свой характар…

Гэты верш прыйшоў раптоўна, пасля таго, як мне быў перададзены перад Новым годам для маёй мамы каляндар на 2020 год. З Беларусі. Я прывезла гэты каляндар і ўбачыла дзіва: мая 80-гадовая мама пяшчотна праводзіла рукой па яго старонках і прамаўляла па-беларуску назвы месяцаў…»

Да гэтага варта дадаць тое, што насценны беларускі каляндар на 2020 год, які выклікаў нараджэнне верша, — гэта наш з Таццянай Кабржыцкай падарунак Святлане Караненка і яе мужу, выдатнаму ўкраінскаму пісьменніку, сябру Уладзіміра Караткевіча Міхайлу Слабашпіцкаму. Святлана Караненка вылучана сёлета на атрыманне Нацыянальнай прэміі Украіны імя Тараса Шаўчэнкі. Пажадаем ёй далейшых поспехаў!

**Вячаслаў Рагойша**

# Адшчапенец



Мікалай МАРОЗ

Стары і ёсць стары: усё яму не так. Бурчлівым стаў дзед Мацей.

Прачнуўся ён у сваёй хаце (хаця і называюць дзеці яе дачай), а ўставаць не хоча. Песціцца ў ложку, кліча жонку Праскоўю:

— Ці чуеш, Проська (так ласкава называе ён сваю палавіну), дзе ты там, га? Падала б акуляры, ці што...

— Чытаць яшчэ рана.

— А я і не чытаць якраз...

— А што?

— Трэба!

Гэта ў яго такі капрыз, каб выйшла па-ягонаму. Акуляры яму зусім і не патрэбны, а вось хоча, каб Прося яму паслугавала...

Прося памерла першай. Памерла нечакана, сярод ночы. Легла звечара ціха неяк, непрыкметна. Памалілася перад сном, надзела свежую начную кашулю. Ён скруціўся ў зале. Глядзеў тэлевізар, прыснуў, прахапіўся ад хрыпаты. Ускочыў, пакуль даўмеўся, што да чаго, ведама, спрасонку, так і сядзеў на краю ложка. А тады асяніла: Проська! Кінуўся ў спальню і акамянеў: жонка ляжала прыціхлая, быццам спала, адно што праз стуленыя губы цадзіліся з роту струменьчыкі ружовай пены. Ён прыпаў да яе грудзей і застагнаў...

Наляцелі дзеці, унукі, крычалі, плакалі, а ён сядзеў адлучана на табурэце побач з дамавінай, пакуль нехта не крануў яго за плячо:

— Ідзі, тата, адпачні!

Гэта старэйшая дачка, Танька. Ён паслухмяна пасунуўся ў спальню, прылёг на той ложак, які ўчора быў за божую пасцель яго Просьцы.

Недзе паўгода аўдавелы Мацей хадзіў сам не свой. Наяджалі дочкі з дзецьмі, суцяшалі. А неўзабаве раптам загаварыў з Танькай аб пераездзе на сваю радзіму, у вёску Задоры, што на Міншчыне. Не зусім, праўда, «раптам». Заводзіў не раз гаворку пра Задоры з Проськай, вядома, калі тая была ў гуморы. Ведаў, калі злая — лепш пра гэта і не заікацца, тады пачынае доўга пілаваць, усё дакараючы, што не трымаецца сваёй сям'і. Але ўсіх гэтых гаворак дзеці і не чулі: яны жылі ўжо сваімі сем'ямі. Таму Танька і акруглíла вочы:

— Ты што, з глузду з'ехаў? Ад нас, туды, дзе цябе даўно не чакаюць? Ад мамы, якая тут памерла?.. — сыпала яна пытаннямі. Ён маўчаў, пакорлівы і ціхі, як няўцешна хворае дзіця.

— Я тут кватарант, — прызнаўся шчыра. — А там буду жы-ы-ць!..

— Тата, старое дрэва не прыжываецца нават на радзіме. Дзе ты будзеш жыць? Хату ж бацькаву звезлі...

— Па першым часе прытуляць добрыя людзі, а там куплю. А можа і пастаўлю сваю, там, дзе наша стаяла. Месца ж там хопіць.

— Ну, фантазёр!..— вырвалася ў яе абурана. — Хто табе паставіць? За якія шышы?..

— Прадам сваю хату.

— Не, дачу ты не прадасі! Яна патрэбна нам, тваім дзецям, унукам...

Ён застагнаў. «Няўжо тупік? Няўжо давядзецца чакаць сваёй смерці тут, на чужыне? І чаму «не прадасі»? Аддалі ж з Проськай ім, дзецям, кватэру, зараблялі добра, дык памагалі і грашыма. Самі выехалі на дачу, абы не замінаць дзецям. А тут і хата ім патрэбна...Там, у Задорах, мне... там іншае паветра... там маладзеў бы душой, а тут зачэзну...»

У Задорах апошні раз Мацей быў на пахаванні свайго стрыечнага брата. Свайго аднакласніка. Пяцёра з іхняга класа пайшлі ўжо на вечны спачын. Адзін — ад гарэлкі, другі доўга і пакутліва хварэў, брат ягоны памёр на трэцім інфаркце. Дык вось тады падчас жалобы зразумеў Мацей: ён — адшчапенец, дэзерцір, эмігрант — як хочаце называйце, але ён здрадзіў святому, сваёй маленькай радзіме.

Праўда, на добры розум, дык што тут здрадлівага: як выехаў на вучобу пасля школы, дык у Задорах бываў наездамі. А пасля адправілі на Віцебшчыну. Там знайшоў сям'ю, асеў. Сёння каяцца позна, калі б гадоў дваццаць назад з гэтых гіблых мясцін перасесці зноў на пясочак, бліжэй да бору і рэчкі. А тут адно возера, і тое штучнае, купацца нельга...

Тры гады мінула, як пахаваў брата. Тады, на пахаванні, падышла да яго хударлявая старая. «Сынок, ці помніш ты маю Анечку? — спытала. — Вунь яна! Даўно гэта было, а яна помніць, як цалаваліся вы пад вярбою...» Ён тады прамаўчаў, хаця падмывала сказаць: што было, тое хмызам парасло!..

Сёння ўспомніў не старую — яе дачку Анечку. Тады ёй было шаснаццаць, яму дваццаць два. Яна — вучаніца, ён — студэнт, які прыехаў у вёску на канікулы. Цяпер яна распаўнелая і нязграбная. Навошта ж вярадзіць старое? Ці з адной Аняй ён цалаваўся?..

«Не, пераезд — гэта не пацалунак пад вярбою, — спыніў сваю апантанасць Мацей. — Тут з галавой у вір не паляціш: не малады ж. Каб пасля не кусаць сябе за локці. Трэба абдумаць...»

А вясной, не мінула і года пасля жалобы, пра ад'езд загаварыў больш настойліва, і гарачліва пярэчыў, калі тая ж Танька зноў выкідвала свае козыры, адгаворвала, а калі ён усё ж не здаўся — заплакала ў бяссіллі.

Не пайшла супраць волі бацькі і малодшая, Наташка. Хату прадалі хутка (балазе, побач з горадам), падвярнуўся купец грашавіты і згаворлівы. Але ж куды, пад які дах? Ні кала там, у Задорах, ні двара. Прадалі на сядзібе Сідара Самцова хату гадоў дваццаць назад, а цяпер давядзецца ехаць у сельсавет, каб далі дазвол на будаўніцтва і зямлю. Усім гэтым займаўся старэйшы зяць Міхась. У яго і машына ў руках, і бойкі ён на язык. Тым больш, што напрасіўся сам. Так і сказаў: «Разумею Сідаравіча. Гэта ў нас з ім ад Бога — адданасць радзіме». Нясціпла, вядома, але не пра гэта думала Танька, выпраўляючы бацьку з мужам у няблізкую дарогу. Няблізкую — хіба для Мацея, а Міхасю гэтыя 250 кэмэ на іншамарцы — раз плюнуць.

Мужчыны вярнуліся назаўтра адвячоркам.

— Дзе вы былі? Дзе начавалі? Мы ўжо абарвалі ўсе тэлефоны, — уссядала на Міколу Таццяна. — Дзе твой мабільнік?

Ён таямніча і крыху хітравата падміргнуў цесцю. Той удзячна ўсміхнуўся і ўваліўся стомлена ў фацэтнае крэсла.

Аднекуль выскачыла, прыпала да дзеда Насцечка.

— Ты што, дзеду, пакідаеш нас?

— Ну, што ты, малеча?!. Хіба без вас я выжыву?..

— Мы будзем да цябе прыязджаць, — адгадала яна дзедавы хітрыкі.

Таццяна ўзялася распытваць бацьку: як ды што, ды колькі, ды калі?.. Дазвол на будаўніцтва далі, хата там і цеснавата. Як раней ставілі хаткі — страха пры страсе. Сёння такое не дапускаюць — хапае ж зямлі. А прыйшлі да згоды пры ўмове, што сваю хату Мацей паставіць у глыбіні падворка і размах у яго будзе сціплы. «Нашто мне, старому, харомiна?! — даводзіў ён у раёне. —Хата пяць на сем і калідорчык. Як было ў таты...»

Яны паспелі дамовіцца і з хатай, якую перавязуць у наступныя выхадныя. Зымшаць і паставяць пад шыфер. А там дадуць грошай Міцьку Корышу (майстравы чалавек, хаця і п'янтос) — ён помніць дзядзьку Мацея, і той за месяц-другі здасць «маёнтак» пад ключ.

— Ох, як гладка ў цябе ўсё выходзіць! — упікнула мужа Таццяна. — Не паспелі з'ездзіць — і ўжо маёнтак пад ключ!..

— Павер, Танюша, мяне не ў капусце знайшлі! Вось мы з Андрэем і паедзем. Возьмем яшчэ пару чалавек. А для парадку пакінем там Андрэя за аканома...

Андрэй — гэта меншы Мацееў зяць. Ён настаўнік, і якраз у яго летні водпуск. Той на рэпліку Міколы адно паблажліва ўсміхнуўся. Не запярэчыў, ды і не мог пярэчыць, бо паважаў цесцеў выбар.

— А што, і застануся на тыдзень-другі. Гэта нават арыгінальна!..

Кажуць: чалавек плануе, а Бог распараджаецца. Так яно і сталася... Тая кабета, у якой меліся купіць хату на вываз, доўга вагалася — прадаваць ці не, вось тады і спатрэбілася мёртвая хватка Міхася. Ён абарваў яе тэлефон, а пасля трохі і прыстрашыў. Тая і змаглася. Таму паехалі разбіраць ды імшыць на трэція выхадныя. Парупіліся, прыхапілі яшчэ і панядзелак, пакінулі «аканома Андрэя», а самі рванулі назад, на Віцебшчыну. Заікнуўся і стары, каб застацца з малодшым зяцем, але Міхась запярэчыў: «Вам, Сідаравіч, у горадзе спраў да гібелі. Трэба ж рыхтавацца да пераезду...».

Цяпер Мацей адной нагой, лічы, быў у Задорах. І сны яму ўжо сніліся з задорскімі краявідамі.

Другая нага Мацея, вобразна кажучы, ступіла ў Задоры ў канцы лета. Пераезд назначылі на канец жніўня. Паехаць туды і глянуць, як асталюецца стары, захацелі і дочкі з зяцямі, і ўнукі. Нагрузілі скарбу на цэлы грузавік, самі ж уперадзе рулілі на легкавушках.

...Свята вяртання наладзілі на падворку. Суседзі прынеслі сталы, лавы, табурэты, і да вечара ўжо шмат хто не мог ні лыка вязаць, ні нагой ступіць. Чалавек пяць мужчын, як кажуць, патанулі ў нірване прама тут жа, на мурагу. Жанчыны заспявалі, і гэтак галасна і тужліва, што Мацей праслязіўся...

Першая ноч на новым месцы была бяссоннай. Мо таму, што ператаміўся, багата перажыў за турботлівы дзень. Пад раніцу змогся і спаў гадзін да васьмі. Ніколі таго з ім не здаралася: *там* ускорваўся а палове шостай. Пацягнуўся ў ложку, выйшаў на двор.

У суседзяў гарланілі пеўні, за высокім парканам ад вуліцы праляталі па асфальце машыны. Ён сёння ж пойдзе па тых мясцінах, дзе ступаў хлапчанём ці зялёным юнаком. Але спярша — могілкі, дзе пахаваны ўсе ягоныя сваякі. І дзед з прадзедам, і тата з мамай.

Ён пайшоў да Мікалайчыка, у яго ўнучка вырошчвае кветкі, яна і зрэзала жменю позніх гладыёлусаў. Пасядзеў на лавачцы ля помніка, бліжэй да мамінага фота на паліраваным мармуры, у думках пагаварыў і з ёю, і з татам.

Наступную раніцу Мацей пачаў з грыбоў. Да ягад у яго з дзяцінства душа не ляжала, хаця прыспела пара брусніц. І наказалі яму ўчора — ёсць на Сымонавых Лядах. За балотцам. Недалёка, напрамкі дык і не больш за кіламетр. Але рашыў пачаць з грыбоў, а ягады нікуды не ўцякуць.

Ішоў і — не пазнаваў наваколля. Да поля, праз якое праставаў да лесу, падступаў некалі хмызняк, тут было процьма маліны. Сёння разлога, калгасны палетак — ажно да самага лесу. Усё гола, няма за што і вока зачапіць. Дарога вяла на Падлессе, туды задорская моладзь хадзіла на танцы, бо свайго клуба не мела. Дарога дзічэе, сціскаецца хмызам і дробным бярэзнікам. «Не тое, не тое, не тое...» — забіла ў скронях нечаканая жылка.

Але Мацей не хоча верыць у такі вердыкт, прычына ў іншым. У чым жа?... «У чым, у чым, у чым...» — зноў запульсавала жылка, і было прыкра ад гэтага, пакуль не выхапіў пагляд статнага мацака, які стаіўся, узняўшы шапкаю мох. «Баравічок!» — усцешыўся, падбег, памацаў за крамяную ножку. «Ах ты, гарэзнік! Захацеў схавацца? Не выйдзе, дружа!» — гаварыў Мацей задаволена. Пакуль зразаў, згледзеў, седзячы на кукішках, яшчэ аднаго, такога ж прыціхлага і зваблівага. А далей яшчэ адзін, яшчэ...

На дарогу выбіўся толькі пад вечар. Перабраў грыбы. Яшчэ раз парадаваўся: сорак пяць баравікоў, цэлы кошык з коптурам, і лісічкі на смажонку... І тут працяла пякучая думка пра жонку. Як гэта ён раней жыў, каб не з'ездзіць на магілку?.. Як? Хто ён пасля таго? Пражылі ж разам амаль сорак гадоў, а ён і не думаў пра яе... Трэці тыдзень тут і ні разу... Не, двойчы выскачыла думка пра нябожчыцу-жонку, вечарам, перад сном. І сніў яе аднойчы. Чаму ж не падумаў там, што тут, за 250 кіламетраў, будзе без яе няўтульна, маркотна, гнятліва? Бач, выправіўся, асеў, знайшоў шчасце? Ці шчаслівы ён *тут*, калі *там*, няхай і на чужыне, засталася жончына магілка, *там* яго дзеці, любімая ўнучка Насцечка, *там* засталася памяць? Але ж і *тут* памяць — пра бацькоў, пра сваё гарапашнае дзяцінства...

Не, сёння памяць пра жонку — бы тая свежая рана, якая яшчэ не загаілася, таму і прыкра на душы ў Мацея. У лістападзе споўніцца год, як не стала Проські. Чаму ж ён раней часу збег у Задоры, чаму не дачакаўся гадавіны? Няхай бы пасядзеў *там* месяцы два ці тры, а пасля і выпраўляўся б. Сапраўды — збег, быццам знарок, каб насаліць Просьцы. Насаліць? Нябожчыцы? Нешта не пра тое думае ён...І чаму трэба чакаць год? На Дзяды ён прыедзе да дзяцей, і там яны адправяць гадавіну. Што за праблема? «Не, як ні суцяшай сябе, а паступіў ты, Мацейка, па-хлапечы», — гэта нехта другі ў ім пярэчыць. І тады, быццам згаджаючыся з гэтым «другім», ён бяжыць да суседа і тэлефануе старэйшай дачцэ.

Тая здзіўляецца:

— Што, замаркоціўся?..

— Ну...

— Па маме?

— Дзе ты, дачка, была тады, як я ўзгарэўся пераездам? Чаму не спыніла?

— Ну ты, тата, як дзіця?! Хіба я не адгаворвала?

Ён маўчаў.

— Заўтра ж прыеду да вас. Сяду на поезд і прыеду. Не магу...

У трубцы запікалі кароткія гудкі. «Зазлавала, кінула трубку», — падумаў.

Сустракаць цесця на вакзал ездзіў Міхась. Парукаліся, і зяць паспагадаў:

— Цяжка, мусіць, паміж двух агнёў!..

— Ну што, на могілкі?

— А як жа кветкі? Без іх Праскоўя Іванаўна не прыме...

Купілі кветкі.

Доўга сядзеў Мацей ля жаўтлявага бугарка, застаўленага вянкамі, карзінамі, усланага пачарнелымі ад часу кветкамі. Паклаў свае, свежыя, і быццам ажывіў магілку, узяўся гаварыць з Проськай. Міхась падаўся аглядаць помнікі, чытаць прозвішчы нябожчыкаў і здалёку пачуў ад Мацея:

— Што ты будзеш сланяцца? Едзь, а я пасяджу і прыйду пешшу. Тут недалёка...

Вечарам у даччынай кватэры Мацей забегаў:

— Паеду цяпер, на вячэрнім!.. Там хата без варты, сабаку ж мне не купілі?..

— Куды ты наўпроць ночы? Раніцой цябе і пасадзім у аўтобус.

— Я ўжо дамовіўся з пляменнікам, ён мяне сустрэне і завязе ў Задоры.

— А што ж мама?..

Гэта быў забаронены прыём.

Мацей з крэктам паставіў ля парога сваю дарожную сумку...

# Дэкадансу вам у стужку



Людміла РУБЛЕЎСКАЯ

* * *

**Памяці Юрыя Блінова**

*Кветкі і жвір —
паспрабуй пераліць у санату.
Гукаў няздзейсненых
не пераўеш у вянкі.
Сонца вышэе,
і спальвае крылы крылатых.
Вецер змяёю слізгае з бяссілай рукі.
Кветкі і жвір —
суразмоўцы не тое, каб надта.
А дакрычацца праз іх да цябе не магу.
Толькі ўзнікае адкульсьць,
усплывае саната,
Што сачыняюць ля смерці —
альбо на бягу.
Смерць абагнаць,
у кашчавае кінуць аблічча
Проста — усмешку...
Ты думаў, дарує яна?
Кветкі і жвір...
Быццам танк Леанарда да Вінчы,
Час абганяе
цяжкая да гукаў труна.
Ноты прабілі раяля драўлянае вечка.
Кветкі і жвір
перасыпалі боль і ману.
Смерць абагнаць...
Неўзнарок...
І апошняю ўсмешкай,
Быццам свянцонаю вербачкай,
нас сцебануць.*

* * *

***Кожны, напэўна, хоць раз блукаў па могілках , не ў змозе знайсці чыюсьці магілу і не ведаючы, што час ад часу праходзіць над сваёй.***

*Шукаць і не знаходзіць знаёмыя магілы
У зарасцях кустоўяў, на тле чужых вянкоў.
Хаваюцца, нібыта пакрыўдзілася: «Мілы,
Што ж доўга не з'яўляўся?
Чаго цяпер прыйшоў?»
Шукаць той лапік глебы,
што быццам прывязаны
Да зніклага аблічча, да вечнае душы...
Захуталіся дрэвы ў гатычныя сутаны.
На помніках партрэты падміргваюць:
«Бяжы!»
Шукаць часцінку праху,
што сталася травою,
Казюркаю, пялёсткам...
А неба ўсё цямней.
Ніхто не застаецца сабою ў перагноі.
А з кім я размаўляю —
не ведаць спакайней.
Нябожчыкаў атрады палеглі,
бы ў казармах.
Пустыя футаралы, разбітыя муры.
Блісне над крыжам зорка,
туман паўзе на мармур.
«Ну, мілы, прывітанне! Знайшоў?
Дык гавары!»*

* * *

*Вось так паміраем — таму,
што бракуе цяпла.
Вось так навучаемся шчыра ілгаць
і ўсміхацца.
Нібыта на волі,
ды наша вязніца — са шкла.
Руку працягні — і сустрэнеш сцяну,
а не пальцы.
Мы доўга цярпелі,
чакаючы новай вясны.
А потым увесь каляндар перайшоў
на лацінку.
Мы доўга чакалі, а ўселіся ў крэслы —
Яны,
Не мы, што ніколі не ўмелі гандлярыць
на рынку.
Калі нават люты яны назавуць
«сакавік»,
У нас аргументаў аспрэчыць не болей,
чым шчасця.
Мы ў слоікі разам з кампотам
закручваем крык.
А раптам прыдасца? Пампрэм —
у каморы загляньце.
Вось так мы адлічваем нашы
шумерскія дні.
Гліняных таблічак накрэслілі
вам на расстанне.
Вы піце кампоцік, нашчадкі.
А ты не мані,
Дурны каляндар, бо ніколі вясна не настане.*

* * *

*Вось такія расповеды, сябра,
за кубкам віна.
Не фалернскага, не — проста танны кагор
з цынамонам.
Абрастае дыпломамі, бы лішаямі, сцяна.
А сапраўдныя знакі — у зморшчынах
вечных бяссонняў.
Вось такія размовы... Мы жалімся —
часу няма.
Масянжовыя твары гадзіннікаў
быццам сцякаюць.
І халодныя рукі аб нас не сагрэе зіма,
Мы не маем цяпла — скразнякамі
выстуджвае памяць.
Слоў сухіх — як галля, што гатовае
ўпасці ў камін, —
У дарунак адсыплем. Мы — вечныя,
з племя адметных
Як іртуць на падлозе, сабраць
немагчыма хвілін —
Хоць адна ды закоціцца ў шчыліну
памяці беднай.*

* * *

*Ёй карцела быць птушкай.
Не арліцай, не чаіцай, не канарэйкай,
крый Божа —
Аніякай экзотыкі.
Шэрай, зусім непрыкметнай,
Толькі б птушкай.
З тых істотаў,
Што бульбы не сеюць, ні проса,
Не ткуць, не друкуюць...
І не мэнчацца, ці дасканала
спявалася ўчора.
Ёй карцела быць птушкай.
Ёй гарланяць: дэдлайн!
Дзе артыкул, аповед, малюнак?
У цябе ж зараз лекцыя,
Сходка, планёрка, патоп і халера...
А яна ўсё дзяўбе
Нейкі шэры батон на асфальце,
Потым пырх — і на даху,
І ёй да халеры — халера,
І патоп, і дэдлайн,
І адсутнасць гнязда і кармушкі,
І што Бог не стварыў яе
Чайкай, арлом, канарэйкай.
У далонях Святога Францыска
Стыгматы і зерне.
Хопіць кожнаму птаху.
Пайшлі,
Пазбіраем па пёрку на крылы.*

* * *

*Ну што табе яшчэ?
Ты п'еш сярод магіл.
На дзень народзін свой да мёртвага
паэта
Прыйшла. Не супраць ён
паслухаць шоргат крыл
Або твае радкі з прастуджанага лета.
Ну што табе яшчэ?
Даволі слухачоў
На могілках старых, заселеных адменна.
Падставіў твой паэт гранітнае плячо.
Нябожчык пры жыцці быў, кажуць,
джэнтльмэнам.
Ад невідушчых воч пракісне аж віно.
А словы ў без таго пракіслі і загаслі.
А што іх шкадаваць?
Змяшаюцца ў адно
Пітво, каб выпраўляць рацыянальнасць
часу.
Каб хтось цераз гады — у твой таемны
дзень —
Да помніка прыйшоў іх выдыхнуць у слоту.
Дапіта ўсё віно.
Рукой махае цень.
А заўтра — немата,
А заўтра — на работу.*

**Яшчэ адзін паэт**

*Папяровыя птахі злятаюць у студню двара.
Між каменных скрыжаляў у рунах вакон
і плакатаў.
Як няшмат патрабуецца
Для заканчэння дабра
Там, дзе вараць пяльмені і танную
ладзяць гарбату.
Як няшмат патрабуецца,
каб развітацца з сабой,
І з усім пагадзіцца,
што чуеш ад больш сацыяльных.
Папяровыя птахі злятаюць.
Пусцее пакой.
Адгароджаны душы нібыта
піродаю скальнай.
Абібочына ты і лайдак, і нічога няма
Наварыўні, пяльмені —
і тыя даеў у суботу.
Ты з усімі згадзіўся,
і з чорнага сшытку дарма
Птушаня папяровае шчыміцца,
просіцца лётаць.
І дзяўбецца радком проста ў сэрца,
крылаты байструк,
Нежаданы, няпрошаны, доказ,
што ты нездаровы.
Крыж ваконнае рамы
Чамусьці выслізвае з рук,
І зніжаецца зграя тваіх груганоў
папяровых.*

# Жарства вершаў



Зміцер ЗАХАРЭВІЧ

**Нянавісць і любоў**

*Стрэл начны згвалціць цішу,
Цела накрые зямлю...
Мала сказаць: «Ненавіджу!»,
Мусіш прамовіць: «Люблю*

*Прадзедаў пакаленні
Цёмных, сляпых, як краты...», —
Хай бізунамі памкненні
Знішчылі ў іх праз гады.*

*Лепшых згубная замець
Склала грама́дамі ў дол —
Тых, каго ў бой не нянавісць
Мужна вяла, а любоў*

*Да раскіданых гнёздаў
Краю, які выкляў бог,
Дзе паляванне грознае,
Дзе на загонах сполах.*

*Колькі нас ацалела,
Каб залунаў сцяг наноў? —
На ім між нянавісці белай
Крывёю палае любоў.*

*...Сталь адзвініць у бітвах,
Вораг астыне ў траве —
Толькі з Любоўю Вялікай
Бацькаўшчына ажыве!*

**Жарства вершаў**

***Славаміру Адамовічу***

*Абурацца,
маркоціцца,
распушчацца ў пытаннях
права поўнае маеце
разам з правам
не мець,
чысты аркуш абрумзаць
слатою
літанняў,
каб вятры
у паветры
павявалі ледзь-ледзь.*

*Утрапёна сыходзіць
у глыбіні
рэфлексій,
метастазы
метафар
гадаваць у крыві,
праміналаму дню
вымудроўваць
рэквіем
і, ўрэшце
кропку ўцвічыўшы,
прамовіць: «Жыві...».*

*Сярод гэных узораў
стэрыльных
мастацтва,
якія эстэцкі
расчульваюць
свет,
хіба знойдзецца тое,
што на змену
прыдасца
нашых
змагарных
вершаў жарсцве?*

**Прамова пра мову**

*Разагнаўшы аблокі свавольна,
Сонца велічнавокі леў
Залатое свае грывы промні
На мой аркуш апоўдні пральле.*

*І святло непазбыўнае ўзросціць —
Толькі час увабраць яго дай! —
Чуйных строф трапяткія калоссі
І клінкоў касінеравых сталь.*

*Вершам тым прабача́ць і прарочыць,
Ацаляючы тых, хто знямог,
Узгараць паходнямі ўночы,
Давідна спапяляючы змрок!*

*Ім буслямі лунаць па-над Крэвам,
Стаць у хаце ў чырвоны кут,
Вісець шворкай на юдавым дрэве,
Бегчы талай вадой у рыштку.*

*Малаціць ім цапамі ў стадолах,
Цалавацца ў расе з маладой,
Быць той самай —
праменнаю мовай,
Што нам сонца адвеку дало!*

# Знайшлі ў Беларусі

**На землях Вялікага Княства Літоўскага жылі не толькі ліцьвіны-беларусы і продкі сучасных літоўцаў — жамойты, але і прадстаўнікі іншых народаў. Яшчэ ў часы старажытных беларускіх княстваў нямецкая факторыя (гандлёвае паселішча) існавала ў Полацку. Купцы з Нямеччыны жылі ў Віцебску, Гародні, у падуладных полацкім князям гарадах Герсіка і Куканос на Дзвіне. На пачатку XIV стагоддзя вялікі князь Гедзімін запрасіў у сталічную Вільню рамеснікаў з нямецкіх гарадоў Брэмена і Любека. Дзве тысячы немцаў жылі ў XIX стагоддзі ў Менску. Памятны знак Нямецкай слабадзе ўсталяваны цяпер у сталічным Лютэранскім скверы. Пад націскам тэўтонскіх рыцараў у Вялікае Княства Літоўскае перайшлі тысячы балтаў-прусаў. Пра іх нагадваюць цяпер назвы некалькіх вёсак Прусы ў розных мясцінах Беларусі. Нямала ў нас паселішчаў з назвамі, што сведчаць пра іхніх даўніх жыхароў — латышоў: Латыгава, Латыголічы, Латыгаль, Латышы... Разам з жонкаю вялікага князя Жыгімонта Старога італьянкай Бонай Сфорца да нас прыехла нямала яе суайчыннікаў-прыдворных. У буйных беларускіх гарадах жылі армяне. Менавіта армянін Ян Маджарскі, а затым ягоны сын Лявон кіравалі знакамітай мануфактурай, дзе выраблялі слуцкія паясы. Палякамі з нараджэння, былі дзеячы нашай гісторыі і культуры Сымон Будны, Мацей Казімір Сарбеўскі, Мацей Стрыйкоўскі, Пётар Скарга. Аднак значных перасяленняў палякаў на беларускія землі ніколі не было. Праўда, пасля Люблінскай вуніі, калі Польшча і Вялікае Княства аб'ядналіся ў Рэч Паспалітую, у Літве-Беларусі ўзмацніўся польскі ўплыў і шляхта пачала пераходзіць на мову суседзяў, але параненейшаму лічыла сябе не польскай,а ліцьвінскай. А вось некаторыя несумленныя сучасныя аўтары залічваюць у палякі не толькі шляхту, а і ўсіх беларусаў-каталікоў, якія часта не ведаюць ні польскай мовы, ні польскіх традыцый...**



Уладзімір АРЛОЎ

## Татары — ваяры і майстры

Ужо восьмае стагоддзе жывуць на беларускай зямлі татары.

Вялікія князі Гедзімін, Кейстут і Альгерд запрашалі татараў на вайсковую службу. Поплеч з рыцарамі-ліцьвінамі яны адбівалі напады тэўтонцаў. Асабліва шмат татараў прыйшло і мірна пасялілася ў Літве-Беларусі ў часы Вітаўта Вялікага. Ён з пашанаю пасяліў у Лідзе хана Залатой Арды Тахтамыша, войскі якога былі разбітыя супернікам Цімурам. Разам з ліцьвінскім войскам Тахтамыш здзейсніў два паспяховыя паходы пад Азоў і ў Крым. Адтуль з пераможцамі прыйшлі шматлікія татарскія сем'і, што не прызнавалі ўлады Цімура. Іх пасялілі ў Троцкім, Лідскім, Ашмянскім, Навагрудскім і Берасцейскім паветах. Татары атрымалі зямлю і тыя ж правы, што і астатнія жыхары Вялікага Княства. Ім дазволілі вызнаваць мусульманскую веру і будаваць мячэці.

Перасяленцы з Усходу прысягнулі на вернасць новай Айчыне і былі яе мужнымі абаронцамі. Захаваўся тэкст прысягі, што татары давалі на шаблях вялікаму князю. Яны кляліся быць аддanымі гаспадару і ягоным паддaным-ліцьвінам, бо «цяпер у іх агульныя зямля, вада і дрэвы». Конніца Джэлал-ад-Дзіна, аднаго з сыноў Тахтамыша, разам з палкамі Вітаўта адважна білася з тэўтонцамі пад Грунвальдам. Татары па-майстэрску карысталіся вяроўкамі-арканамі. Яны сцягвалі з сёдлаў закутых у цяжкія панцыры крыжакоў, і на доле тыя рабіліся бездапаможнымі. Дарэчы, татары ўпэўненыя, што якраз іхні ваяр забіў у адзінаборстве вялікага магістра Тэўтонскага ордэна Ульрыха фон Юнгінгена.

Шмат татараў вызначылася і ў іншай пераможнай бітве — Аршанскай, дзе войска Вялікага Княства разбіла амаль утрая большыя сілы маскавітаў. У арміі нашай тагачаснай дзяржавы кожны дзясяты быў татарынам. Апрача вайсковай татары спраўна выконвалі кур'ерскую, каравульную і транспартную службы. Прадстаўнікі гэтага народа служылі ў дыпламатычным ведамстве, былі перакладчыкамі і пісарамі ў вялікакняскай канцылярыі.

Дзясяткі татарскіх афіцэраў вызначыліся смеласцю ў паўстанні Тадэвуша Касцюшкі. З татарскага рода паходзіў і сам генерал Якуб Ясінскі, які кіраваў змагарамі на землях Вялікага Княства. Ягонымі паплечнікамі былі татары — камандуючы корпусам Язэп Бяляк і камандзір палка Якуб Азулевіч.

Бальшыня беларускіх татараў належала да шляхты, мела землі, маёнткі, гербы і вольнасці гэтага стану грамадства. Вядомыя каля пяцідзесяці знатных татарскіх родаў: Адамовічы, Ахматовічы, Асановічы, Базарэўскія, Бахарэвічы, Дзедулевічы, Завацкія, Канапацкія, Карыцкія, Крычынскія, Малышэвічы, Сабалеўскія, Смольскія, Солтаны, Сяліцкія, Талькоўскія, Улановічы, Халецкія, Эльяшэвічы, Юзефовічы, Юшынскія, Яблонскія, Якубоўскія, Янушэўскія... Шмат нашчадкаў нашых татараў маюць прозвішчы Александровіч, Бабак, Багдановіч, Багушэвіч, Бараноўскі, Заблоцкі, Рамановіч. Магчыма, з гэтага ўсходняга народа паходзяць і вашыя продкі, але — каб высветліць тое — аднаго прозвішча мала, трэба шукаць дадатковыя звесткі ў сямейных і дзяржаўных архівах.

Нямала татараў, што пасяліліся ў вёсках, гарадах і мястэчках, не мелі шляхецкага радаводу, паспяхова займаліся земляробствам і агародніцтвам, славіліся як надзейныя вознікі, майстравітыя гарбары, кушняры, краўцы, ганчары. У XIX стагоддзі сотні татараў жылі ў Пінску, Відзах, Докшыцах, Мядзелі, Глыбокім, Клецку, Навагрудку, Іўі, Смілавічах... Татарская вуліца дагэтуль захавалася ў Вільні. Блізу 500 татараў былі ў той час жыхарамі Менска, дзе існавала цэлае Татарскае прадмесце. Сучасная менская вуліца Дзімітрава раней называлася Вялікай Татарскай, а недалёка, на вуліцы Вызвалення, у 1920-я гады была татарская школа.

Свой след гэтая нацыянальная меншыня пакінула ў найменнях беларускіх паселішчаў: Арда, Апчак, Мамаі, Татарка, Татаршчына, Койданава.

У XVI–XVII стагоддзях татары паступова страцілі сваю мову і пераймалі беларускую, узбагаціўшы яе многімі сваімі словамі. Паводле падлікаў філолагаў, такіх слоў некалькі сотняў. Некаторыя сёння здаюцца нам спрадвечна беларускімі: андарак, баран, бязмен, буран, гарбуз, гурт, дзіда, дуда, кабан, кабыла, кавун, каўбаса, курган, сабака, тавар, торба, туман, тытунь, хамут, харч і нават... бусел. Іх лічыў словамі татарскага паходжання мовазнаўца акадэмік Яўхім Карскі.

Загаварыўшы па-беларуску, татары дагэтуль захавалі мусульманскую веру. Надзвычай цікавымі помнікамі пісьменства сталі напісаныя па-беларуску арабскімі літарамі рэлігійныя татарскія кнігі — Кітабы. Існуе і старадаўні беларускамоўны Каран, галоўная кніга мусульман.

Архівістка Вольга Бабкова, якая добра ведае гісторыю нацыянальных меншыняў Беларусі, высветліла, што ў народнай творчасці пра татараў нельга знайсці анічога крыўднага. Нязлосна, а з добрай зайздрасцю пакеплівалі прадзеды адно з нязменнага татарскага імкнення да чысціні.

З татараў паходзяць прызнаныя дзеячы сучаснай беларускай культуры і навукі: пісьменнік і літаратуразнаўца Сцяпан Александровіч, кампазітар Дзмітрый Смольскі, мастак Ібрагім Гембіцкі, гісторык Ібрагім Канапацкі. Праславіліся нашы суайчыннікі-татары і далёка ад сваёй радзімы. Да прыкладу, татарын з Ліды генерал Мацей Сулькевіч на пачатку XX стагоддзя стаў начальнікам Генеральнага штаба арміі Азербайджанскай Народнай Рэспублікі.

## Шэсць стагоддзяў побач

Першыя супольні перасяленцаў з рассеянага па свеце габрэйскага народа з'явіліся ў Вялікім Княстве Літоўскім у XIV стагоддзі. Атайбаваўшыся ў Берасці, Гародні і Троках, габрэі маглі свабодна спавядаць юдэйскую веру, будаваць храмы-сінагогі і займацца рамёствамі ды гандлем. За забойства габрэя чакала такое ж пакаранне, як і за шляхціча.

Адрозна ад заканадаўства заходнееўрапейскіх дзяржаваў, у Вялікім Княстве юдэяў забаранялася вінаваціць у выкарыстанні хрысціянскай крыві. Неяк да гаспадара Вітаўта звярнуліся са скаргай гарадзенскія месцічы: маўляў, габрэі пякуць мацу на крыві дзетак мясцовых жыхароў. Князь загадаў неадкладна паклікаць просьбітаў. Калі тыя з'явіліся, Вітаўт даў кожнаму па вялікім кухонным нажы. У палацавую залу прывялі чародку напалоханых маленькіх габрэйскіх дзяцей. «Рэжце! — крыкнуў угневаны князь. — Вы ж думаеце, што гэта так лёгка — дзіця зарэзаць!». У выніку прысаромленыя мяшчане адклікалі скаргу.

Вялікая хваля габрэяў прыйшла на беларускія землі ў другой палове XVI стагоддзя, калі пачаўся пераслед юдэяў у Польшчы, Нямеччыне і амаль ва ўсіх краінах Заходняй Еўропы. Неўзабаве ў Літве-Беларусі жыло ўжо некалькі дзясяткаў тысяч габрэяў, прычым іхняя колькасць увесь час расла. У некаторых гарадах і мястэчках да юдэяў належаў кожны дзясяты жыхар. А вось у Жамойці, радзіме сучасных літоўцаў, да габрэяў ставіліся вельмі жорстка. Да канца XVIII стагоддзя ім не дазвалялі сяліцца ў гарадах, і юдэі маглі жыць адно ў мястэчках пад апекаю магнатаў.

Габрэі былі пераважна дробнымі рамеснікамі і гандлярамі, хоць між іх знаходзіліся і такія багатыя купцы ды ліхвяры, што маглі ўплываць на агульнадзяржаўныя справы. Падаткі з габрэяў ішлі на ўтрыманне войска, аднак пасля цяжкіх войнаў вялікія князі і каралі часова вызвалялі юдэяў ад выплаты грошай. Як казаў адзін з вялікіх канцлераў, нельга рэзаць курыцу, што нясе залатыя яйкі.

У Масковіі стаўленне да габрэяў было зусім іншае. Калі ў час Інфлянцкай вайны войска маскоўскага князя Івана Жахлівага захапіла Полацак, жыхароў-юдэяў — ад старога да малога — патапілі пад лёдам Дзвіны і Валовай азярыны. У часы «крывавага патопу» сярэдзіны XVII стагоддзя, рухаючыся па Беларусі, стральцы цара Аляксея Міхайлавіча зноў жа бязлітасна знішчалі на сваім шляху ўсіх габрэяў, што траплялі ім у рукі. Асабліваі лютасцю і зверствамі вызначаліся тагачасныя царскія хаўруснікі — украінскія казакі. Але габрэі маглі пастаяць за сябе. У ваенную пару яны поруч з ліцьвінамі баранілі гарадскія валы і муры, адбівалі варожыя штурмы, хадзілі ў конныя і пешыя вылазкі на непрыяцеля. У 1654 годзе болей за тысячу габрэяў праславілася, геройчна абараняючы ад расейскіх акупантаў Стары Быхаў.

Габрэйскім жыццём кіравалі рады-кагáлы. Найбольшымі юдэйскімі супольнямі лічыліся гарадзенская, берасцейкая, пінская і слуцкая. Пазней сталіцай беларускага габрэйства сцвердзіла сябе Вільня. Яе часта называлі усходнім Ерусалімам.

Беларусь стала буйным асяродкам габрэйскай асветы. У XVI стагоддзі былі заснаваныя вышэйшыя навучальні для падрыхтоўкі рабінаў — ешыботы — у Берасці і Гародні. Праславіліся на ўвесь габрэйскі свет ешыботы ў Валожыне, Любавічах, Пінску, Міры, Радуні. У менскім ешыбоце выкладаў выдатны знаўца Торы і Талмуда (святых юдэйскіх кніг) Гейльпрын. Рэлігійную літаратуру выдавалі габрэйскія друкарні ў Шклове і Гародні.

Калі землі Вялікага Княства Літоўскага захапіла Расейская імперыя, габрэі былі абмежаваныя ў правах і маглі жыць толькі ў далучаных заходніх губернях за так званай «мяжой аселасці». Яны плацілі падвойныя дзяржаўныя падаткі, прычым царскія ўлады вынаходзілі ўсё новыя і новыя пабора: на сінагогі, на юдэйскае адзенне, на суботнія свечы. За няслату падаткаў чакала турма або здача ў рэкруты.

Бальшыня габрэяў па-ранейшаму займалася гандлем і рамёствамі. У 1802 годзе ў Менску было 248 рамеснікаў-юдэяў, у тым ліку 160 краўцоў, 18 шмуклераў (майстроў па вырабу махроў), 16 гарбароў, дзесяць цырульнікаў. Тут працавалі млынары, кавалі, свечнікі, шкляры, гадзіншчыкі, шаўцы, злотнікі, бяліьнікі палотнаў, цесляры, сталяры, шытары (перапльотнікі кніг).

Юдэі не маглі перасяляцца за вызначаную ім мяжу, таму іхняя колькасць у беларускіх губернях няўхільна павялічвалася. Пры канцы XIX стагоддзя іх налічвалася каля мільёна, аб15 працэнтаў усіх жыхароў. Габрэі складалі звыш паловы насельніцтва ў Менску, Віцебску, Гомелі, Пінску, Бабруйску... У Магілёве было 38 сінагог і юдэйскіх малітоўных дамоў, у Полацку — 25. Самая старая з беларускіх сінагог, якія захаваліся дасюль — Слонімская, пабудаваная ў 1642 годзе. У ёй пасля рэстаўрацыі плануецца размясціць музей габрэйскай культуры.

Яшчэ больш, чым у гарадах, юдэяў жыло ў мястэчках. Многія з іх амаль цалкам былі населеныя габрэямі. З мовы ідыш, на якой яны гаварылі, да нас прыйшлі словы «квэцаць», «транты», «гвалт», «гармідар», «цымус», «хаўрус», «хеўра»...

Беларускія габрэі далі знакамітых асобаў у самых розных галінах чалавечай дзейнасці. Недалёка ад Стоўбцаў нарадзіўся філосаф Саламон Майман. Механік і гадзіннікавы майстар Еўна Якабсон з Нясвіжа

# другую радзіму

сканструяваў у сярэдзіне XVIII стагоддзя лічыльную машыну для матэматычных дзеянняў з дзесяцізначнымі лічбамі. Яе лічаць «прабабуляй» сучасных камп'ютараў. Не толькі родную мову — ідыш, але і беларускую з дзяцінства чуў вакол сябе народжаны ў Капылі класік габрэйскай літаратуры Мендэле Мойхер Сфорым. У мястэчку Пасадзец на Лагойшчыне прыйшоў на свет Самуіл Плаўнік, які стаў класікам беларускага прыгожага пісьменства Змітраком Бядулем. Беларуская зямля — радзіма сусветна вядомых мастакоў Марка Шагала і Хаіма Суціна, скульптара Восіпа Цадкіна.

Старажытную габрэйскую мову — іўрыт, на якой у той час ніхто ў паўсядзённым жыцці не размаўляў, адрадзіў Эліэзер Бен-Егуда з мястэчка Лужкі Дзісенскага павета. Яго называюць «бацькам сучаснага іўрыту». Цяпер іўрыт — дзяржаўная мова Ізраіля. Прэзідэнтамі і прэм'ер-міністрамі гэтай краіны былі народжаныя ў Беларусі Хаім Вейцман, Залман Шазар, Іцхак Шамір, Менахем Бегін і Шымон Перэс. Існуе нават жарт, што Беларусь стала для Ізраіля сапраўднай «кузняй кадраў».

Усе славутыя габрэі з Беларусі ў свой час ведалі мову народа, на чыёй зямлі жылі. Калі ізраільскі прэзідэнт нобелеўскі лаўрэат Шымон Перэс наведваў з візітам Беларусь, на ўрачыстым прыёме, наладжаным у гонар высокага госця, ён прамовіў тост за развіццё беларускай мовы, на якой цудоўна гаварыў у дзяцінстве.

На беларускай зямлі габрэйскія могілкі мелі кожныя горад і мястэчка. На сёння пахаванні юдэяў захаваліся ў Магілёве, Друі, у Глыбокім і недалёкай ад яго Плісе, у Докшыцах, Рубяжэвічах паблізу Стоўбцаў, у мястэчку Ілля Вілейскага раёна, у Паставах і Асіповічах, у мястэчку Ленін Жыткавіцкага раёна, у Ракаве каля Менска...

### Шкоты з далёкай Шатландыі

Цікавай меншынёй насельніцтва ў Літве-Беларусі былі шкоты (шоты). Яны трапілі да нас з Шатландыі, ратуючыся ад рэлігійнага ўціску з боку англійскага ўрада. На пачатку XVII стагоддзя шкотаў сялілі ў ліцвінскіх гарадах і замках на Дняпры, што страцілі шмат жыхароў у войнах з Масковіяй.

Шкоты вызначаліся дасведчанасцю ў абыходжанні з халоднай і агняпальнай зброяй , і іх ахвотна прымалі на вайсковую службу. У нашым войску, якое ў 1634 годзе трымала ў аблозе заняты расейцамі Смаленск, была цэлая шатландская харугва з двухсот драгунаў.

Перасяленцы з заморскай краіны былі таксама здольнымі гандлярамі. Гістарычныя дакументы таго часу асобна называюць «шкоцкія тавары»: пацеркі, грабяні, ніткі з іголкамі, напарсткі, нажы, ручнікі, панчохі, рукавіцы. Гандаль у шкотаў ішоў так удала, што іх абкладалі дадатковымі падаткамі, каб абараніць інтарэсы мясцовых купцоў.


Страдаўняя сінагога ў Слоніме, сучасны выгляд. Фота С. Плыткевіча

Даследнік гэтай цікавай старонкі нашай гісторыі Алесь Белы піша, што ў Рэчы Паспалітай шкоты зрабіліся прыкметнай і вядомай у Еўропе часткаю насельніцтва. Яны, да прыкладу, згадваюцца ў творах англійскіх пісьменнікаў. Адных гандляроў-шкотаў у гарадах было прыблізна сарак тысяч.

Шатладзец Джон Хэй стаў адным з самых славутых прафесараў філасофіі Віленскай акадэміі. Перасяленцы з Шатландыі былі кальвіністамі па веравызнанні. Яны найахвотней атабарваліся ў гарадах і мястэчках, падуладных магнатам-кальвіністам. Вялікі гетман Януш Радзівіл і ягоны сын Багуслаў падтрымлівалі грашыма шкотаў, якія пасяліліся ў Слуцку і Кейданах і займаліся навукай, літаратурай і мастацтвам. Адзін з іх, Джонстан, у 1655 годзе выдаў у Амстэрдаме прысвечаную сваім заступнікам-мецэнатам кнігу.

Шкоты паступова засвоілі мову і звычаі ліцвінаў-беларусаў і ўрэшце зліліся з імі. Сёння пра перасяленцаў-шатландцаў у Беларусі нагадвае адметнае прозвішча іхніх нашчадкаў — Шот. Прызнанне на радзіме і за мяжой здабыў беларускі медык, спецыяліст у хірургіі ды трансплантaлогіі Аляксандр Шот.

### Вечныя вандроўнікі

Здаўна жылі ў Літве-Беларусі цыганы. Іхнія продкі некалі прыйшлі ў Еўропу з Індыі.

Першая згадка пра айчынных цыганоў у дакументах датаваная 1501 годам. Яны прывандравалі ў Нясвіж на чале з войтам Васілём. Вялікі князь Аляксандр выдаў Васілю адмысловую грамату-прывілей, у якой абвяшчаў новым падданым «поўную свабоду паводле даўніх правоў і звычаяў і даўніх лістоў князскіх». Гэта значыць, што цыганы з'явіліся ў нас значна раней і мелі прывілеі яшчэ ад папярэднікаў гаспадара Аляксандра на вялікакняскім троне.

Цыганы — у залежнасці ад таго, дзе пасяліліся — прымалі праваслаўную або каталіцкую веру суседзяў. Яны хадзілі ў храмы, адзначалі ўсе хрысціянскія святы, але аднachасова моцна трымаліся ўласных традыцый. Ніхто з цыганоў не адмаўляўся і ад роднай мовы, аднак усе ведалі і беларускую.

У халодную пару года цыганы жылі на адным месцы, а з надыходам вясны збіраліся ў табар з трох-пяці сем'яў і выпраўляліся вандраваць. На жыццё гэты народ зарабляў сабе самымі рознымі шляхамі. Мужчыны гандлявалі коньмі (не цураліся і канакрадства), былі спрактыкаванымі кавалямі, гарбарамі, разьбярамі па дрэве, плялі моцныя вялікія кашы́, выраблялі з ліпы і дубу адметны прыгожы посуд.

Шляхта нярэдка наймала цыганоў служыць пры стайнях. Яны займаліся гадоўляй коней, лекавалі іхнія хваробы, аб'язджалі маладых наравістых кабыл і жарабцоў. Незаменнымі былі цыганы і ў застоліцах гаспадароў-шляхціцаў, якія любілі пагрэць кроў не толькі віном і хмельным мёдам, але і цыганскаю песняй. Жанчыны-цыганкі славіліся як варажбіткі, знахаркі, цудоўныя танцоркі і спявачкі.

Улады Вялікага Княства і Рэчы Паспалітай спрабавалі прывучыць цыганоў да аселага жыцця. Дзеля гэтага вялікія князі і каралі прызначалі ім старшыняў, што мелі над цыганскай грамадой велізарную ўладу. Гэтых старшыняў менавалі «каралямі». Самым знаным такім валадаром са сталіцай у мястэчку Мір стаў Ян Марцінкевіч. Ён караляваў дванаццаць гадоў і праславіўся дзівацтвамі і схільнасцю да раскошы.

Калі «кароль Ян» збіраўся аглядаць свае ўладанні, з брамы ягонага палацыка зазвычай выязджала вялікая кавалькада. Уперадзе ехалі дзесяць спевакоў і музыкаў, за імі — на пародзістым дарагім кані — страката ўбраны «манарх» з бізуном у руцэ, потым почат (світа) з сямі цыганоў у рознакаляровых апранахах, ад чаго ажно стракацела ўваччу. Затым вялі дванаццаць асядланых коней без седакоў, і нарэшце ў вялізнай старасвецкай карэце-рыдване, запрэжанай васьмерыком коней, рухалася яе вялікасць «каралева». Ва ўсёй гэтай дзіўнай, гаманкой і спеўнай кавалькадзе напоўніцу выяўляўся адвечны цыганскі характар.

У часы Яна Марцінкевіча, якога шчодра падтрымліваў знакаміты князь Радзівіл Пане Каханку, цыганы паспяхова займаліся гаспадарчымі справамі. На кірмашах мелі неблагі прыбытак цыганскія рамеснікі розных спецыяльнасцяў і, зразумела, гандляры коньмі. У Міры цыганы пабудавалі палатняную, суконную і футравую мануфактуры. Але новы «кароль», сын Яна Марцінкевіча, разам са сваімі падданымі праз Украіну і Малдавію адвандраваў у Турцыю.

Нягледзячы на ўсе намаганні, не здолелі назаўсёды прывязаць вольных цыганоў да зямлі і імперскія ўлады.

Супольнае жыццё беларусаў з цыганамі адлюстравалася ў шматлікіх назвах паселішчаў, рэчак, урочышчаў. У Гарадоцкім раёне ёсць вёска Цыганы, паблізу Міра — Цыганская гара, на беразе Дзіны ў наваколлі Віцебска — Цыганскі камень. У розных кутках Беларусі вы сустэнеце Цыганскі ручай і Цыганскую рэчку, Цыганкову ніву, Цыганскія слабодкі.

### Расейцы-стараверы

У дзяржаве нашых прадзедаў шмат вякоў мірна жылі побач людзі розных веравызнанняў і нацыянальнасцяў. Іхнія правы былі замацаваныя ў законах і не раз пацвярджаліся. У суседняй Масковіі, а затым у Расеі панавалі зусім інакшыя парадкі. На чужаземцаў ды іншаверцаў глядзелі з падазрэннем. «Няхрышчаным» немцам не дазвалялася заходзіць у царкву, а калі нехта з іх і трапляў туды, яго адразу выганялі і мылі падлогу. У «истинное русское православие» перахрышчвалі праваслаўных беларусаў, прымусова перасяленых на расейскія землі ў часы войнаў. Вы не забылі, што здарылася з біблійнымі кнігамі Францішка Скарыны, калі ён прывёз іх у Маскву і прапанаваў там наладзіць кнігадрук? Так, з гэтых кніг склалі велізарнае вогнішча. Ерась у Масковіі шукалі ў кожнай драбніцы і часта вынішчалі іх разам з «вінаватымі». Не было літасці і сваім жа суайчыннікам.

У сярэдзіне XVII стагоддзя маскоўскі патрыярх Нікан увёў у царкоўнае жыццё змены, прынятыя не ўсімі святарамі і вернікамі. Нязгодных назвалі раскольнікамі або стараверамі (стараабраднікамі) і разгарнулі з імі бязлітаснае змаганне. Некалькі дзясяткаў тысяч упартых старавераў асудзілі на смерць. Пазбавіць жыцця маглі проста за тое, што раскольнік хрысціцца не трыма, як загадаў Нікан, а двума пальцамі. Дваццаць тысяч старавераў, каб не трапіць на здзекі і катаванне, учынілі самаспаленне.

Супраць прыхільнікаў старых традыцый улада вяла сапраўдныя ваенныя дзеянні. Войскі трымалі ў аблозе манастыры, прачэсвалі лясы, каралі смерцю ўзятых у палон «нечестивых врагов государя и церкви». Старавераў абклалі падвойнымі падаткамі, прымушалі насіць асаблівае адзенне.

Ратуючыся ад пераследу, стараверы тысячамі ўцякалі ў верацярпімае Вялікае Княства Літоўскае. Адны сяліліся пераважна на паўночных беларускіх землях Полацкага і Віцебскага ваяводстваў, другія абралі паўднёвы ўсход Беларусі — Мсціслаўскае ваяводства і Рэчыцкі павет Менскага. Сталіцаю перасяленцаў стаў заснаваны імі недалёка ад Гомеля горад Ветка. У ім і ў наваколлі жыло 40 тысяч перасяленцаў з Расеі.

Стараабраднікі вольна займаліся земляробствам, рамёствамі і гандлем, друкавалі забароненыя ў Расеі «ерэтычныя» кнігі. Іхнія цэрквы і манастыры ў багацці часта не саступалі беларускім. Мастакі-стараабраднікі стварылі веткаўскую школу іканапісу, адметна аздаблялі арнаментамі і гравюрамі свае кнігі. Цяпер гэтыя творы можна ўбачыць у Веткаўскім музеі народнай творчасці.

Царскія ўлады былі занепакоеныя масавым пераходам старавераў у Вялікае Княства і выставілі патрабаванне вярнуць уцекачоў. Калі ў Пецярбург паступіла адмова, там вырашылі перайсці да карных дзеянняў. У 1735 і 1764 гадах царскія войскі двойчы ўрываліся ў нашу дзяржаву і палілі Ветку з навакольнымі слабодамі. Непакорлівых старавераў тысячамі выводзілі ў Расею, дзе іх чакалі катаванні і высылка ў Сібір.

Калі беларускія землі былі ўжо ў царскай імперыі, былыя ўцекачы, што знайшлі калісьці тут абарону ад пераследу, «аддзячылі» новай радзіме сапраўднай здрадай. Яны надзвычай варожа сустрэлі вызвольныя паўстанні 1831 і 1863 гадоў. Стараабраднікі наводзілі карнікаў на лагеры змагароў за свабоду, грамілі маёнткі паўстанцаў, учынялі над імі самасуд.

На Віцебшчыне ў 1863-м сяляне-стараверы сфармавалі конную сотню, што ваявала на баку карных войскаў. У Ковенскай губерні жаданне душыць паўстанцкі рух выказала 600 стараабраднікаў. Яны атрымалі зброю і вызначыліся імпэтам і стараннасцю, за што заслужылі падзяку генерал-губернатара Мураўёва, празванага Вешальнікам. Аднак, як толькі каліноўцы былі разбітыя, імперскія ўлады зноў пачалі прыцясняць старавераў і першым чынам загадалі ім зруйнаваць збудаваныя напярэдадні і ў час паўстання дваццаць цэркваў.

Цяпер у Беларусі жывуць прыблізна дваццаць тысяч расейцаў-старавераў. Хочацца спадзявацца, што яны сталі сапраўднымі патрыётамі краіны, якая некалі гасцінна дала прытулак іхнім продкам.

# Ворыва



Уладзіслаў РЭЙМАНТ
(1867–1925, лаўрэат Нобелеўскай прэміі)

— У імя Айца, і Сына, і Духа Святога! — урачыста прамовіў селянін і, узнёсла перахрысціўшыся, узяўся за плуг. — Но-о! Ціхутка і з сілай! — і звыкла сцебануў пугай.

Плуг, запрэжаны каровай і трыма людзьмі, урэзаўся ў зямлю і адваліў чорную бліскучую скібу. Глеба была цяжкай, старое канюшынішча — выцертым да апошняй сцяблінкі і ўтрамбаваным як гуменная падлога, — і хаця плуг ішоў неглыбока, скібы атрымліваліся буйнымі і камкаватымі.

Старая, аблічча якой ужо толькі аддалена нагадвала чалавечае, разбівала матыкай цвёрдыя камякі, а за ёй падскоквала некалькі варон, выбіраючы з баразны лічынак.

Ворыва ішло надзвычай цяжка і марудна, плуг быў стары, на колах, ды і запрэжка — вартая жалю: першай парай цягнулі з'яднаныя адным драўляным ярмом жанчына і карова, далей працавалі запрэжаныя ў нешта накшталт шораў рослая дзяўчына і хлопец. Карова выглядала як абцягнуты аблезлай скурай шкілет, людзі былі не больш як ценямі. З іх вачэй вызіраў адзін і той жа доўгі бязлітасны голад; захутаныя ў лахманы, змарнелыя, босыя, яны, аднак, цягнулі згодна, без скаргаў і нараканняў, са страшным напружаннем прыгінаючыся да зямлі — з такой сілай, што трашчалі гужы і пастронкі.

— Хоць бы са тры ці чатыры моргі агораць! — марыў уголас селянін, які ледзь цягнуўся за плугам.

На галаве ў яго была шапка з аўчыны, на плячах — акраўкі кажуха; хворыя ногі ён абматаў анучамі.

— Жыта няблага пайшло, — зірнуў ён на зеленаватыя палосы, што цягнуліся побач. — Насадзім пад матыку картоплі, пасеем ячменю, гароху са чвэрць, то неяк з Божай дапамогай і перабядуем! Но-о! Но-о! — пакрыкваў ён, з усяе моцы штурхаючы плуг.

— І пад лён жа трэ' хоць пару палос, і пад капусту, — ціха нагадала яму дзяўчына.

— А ці не забралі тое насенне? — умяшалася жанчына. — Былі ў мяне для сяйва і на тую кроплю алею. Дабраліся да іх рыхтык да мёду. Марнуюць толькі ўсё — дый годзе!

— Зноў збіраецца на дождж! Казаў я табе, Магда, — спусці з жыта ваду, бо выгніла пры барознах. Ідзе дождж, ідзе! — выгаворваў жонцы селянін.

Красавіцкая раніца, абяцаючы спярша пагодны і ясны дзень, неўзабаве pазмрачнела: паплылі хмары, бледнае сонца праглядалася скрозь смугу як аплатка. Вакол, куды ні кінь вокам, цягнуліся шэрыя замглёныя роўнядзі, дзе-нідзе адзначаныя шызымі палотнішчамі паводак і купкамі дрэў. Да зямлі ўжо злёгку дакранулася першае вясновае цяпло: вербы павыпускалі пупышкі, на лугах залаціліся лотаці, у ярах расплюшчвалі вочы маргарыткі, зелянелі азімыя і ад ранку да ночы спявалі жаўрукі, — але на палях было яшчэ шэра, пуста і па-дзіўнаму маркотна. У сэрцах людзей не было радасці, і над светам лунала магільная ціша.

— Хто жывы — выходзіць на работу! — зазначыў селянін, калі, дабраўшыся да мяжа, павярнуў на вёску.

Ніхто не адказаў: усе ледзь дыхалі, прысеўшы на мяжы.

— І на маёнткавым працуюць! Ажно чатыры пары, парад дый годзе! — са спачуваннем прашаптаў ён.

— Пра гаспадарскую шкуру не турбуйся, неяк справяцца, — прабурчала жанчына. — Яшчэ і сялянам загадаюць дапамагаць з ворывам. Было ж так у час жніва? — яе перапаўняла злосць.

— Было-та было, але ж не задарма, плацілі ж...

— Ага, колькі ім хацелася. А прымушалі маёнткам дапамагаць, як у часы паншчыны, — прыгадвала яна.

— Ат, шкода часу! Цягніце! У Томка ўжо і ячмень барануюць! — заўважыў селянін, зірнуўшы налева.

— Падара́ў да зімы, то цяпер сам і з каровай справіцца. А я цябе, дальбог, хіба не ўгаворвала: ары, Войтэк! Конь быў і часу хапала. А ты ўсё па кірмашах ездзіў ды па корчмах з рознымі шэльмамі засядаў, а цяпер на нас з дзецьмі арэш. Як быдла, дальбог!

— Твая праўда, жонка, твая праўда, — пакорліва пагадзіўся селянін. — Хутчэй, думаў, я сам памру, чым увесну без каня застануся, — пакутліва прастагнаў ён.

Яны рухаліся ў бок вёскі. Расцягнуўшыся ўпоперак палёў, на ціхім схіле пад сонцам ляжалі сады, сярод якіх густа тырчалі голыя коміны, шкілеты спаленых хацін і разваленыя будыніны. Палова вёскі была ў руінах. Маёнтак, што стаяў справа за вялікай сажалкай, чарнеў купай разбітых сцен, цэглы і паламаных дахаў, а ад вялізнага парку засталіся толькі вартыя жалю куксы пазбіваных стрэламі дрэў — быццам кулакі, што пагражаюць небу. Там прайшлася вайна, і ўсюды былі заўважныя сляды яе бязлітасных кіпцюроў. Падрала вёскі, выламала лясы, здратавала палі і на месцы ўраджайных зямель пакінула мярзотныя жоўтыя акопы і бясконцыя шэрагі магіл, абсаджаных белымі дрэўцамі крыжоў.

— Ваўрон арэ двума каровамі, — загаварыў хлопец, трошкі з гэтай нагоды прыпыніўшыся.

— А ты сачы за работай, а не за чужымі хвастамі, — пачуў ён разам з посвістам пугі адказ.

Усе замоўклі, настойліва цягнучы плуг і прыглядаючыся, як неўзабаве выходзіць на працу ўся вёска: на кожным палетку ўжо нехта варушыўся. У шэрым засмужаным паветры людзі ціха мітусіліся, бы тыя мурашкі, — няспешна і рупліва. Усе аралі, сеялі ці баранавалі — хто канём, хто каровай, а хто і людской запрэжкай. Былі і такія, што з маркотнай заўзятасцю дралі тую святую зямлю, быццам голымі пазногцямі, аднымі рыдлёўкамі.

— Божа мой, а ў іншы год на працу выходзіла сто коней! — уздыхнуў мужык.

— А якія ж то былі спевы, воклічы, гавэнды! Гэх! — ціха прыгадала дзяўчына.

— Пан Езус ведае, што робіць! — замармытала старая, прысядаючы на скібу, калі ўсе прыпыніліся трохі ўзнавіць сілы і дыханне. — Столькі развялося брыды, што мусіла прыйсці і кара! Скорацца, паскуды, скорацца! Адзін перад адным выхваляліся і фанабэрыліся! У моргі толькі верылі ды ў поўныя торбы! Ні ў грош не ставілі беднага, ні ў грош справядлівага. І вось знішчаны ў свеце той, што сыпаў рублямі. Даў вам Пан Езус рады!

— Але і годным людзям зрабілася нямала крыўды! — паспешліва ўмяшалася маладзейшая.

Яны зноў аралі ў глыбокім маўчанні, селянін узважваў словы бабкі і старанна згадваў, што мае на сумленні і чым заслужыў такую кару, ажно ўрэшце цвёрда сказаў:

— Паны сабе ваююць, а селянін атрымлівае ў косці.

Ён сплюнуў і выцяў карову так, што тая зарыкала.

— Гэта ж апошняя скацінка, чалавеча! — паспрабавала супакоіць яго жанчына.

— Ціха! Но-о, паскуды, а то паперабіваю косці! — злаваўся селянін.

— Татачка, бацяны прыляцелі! — закрычаў хлопец, паказваючы рукой. — Бацяны, дальбог!

Яны прыпыніліся, назіраючы за буслам, што кружылі над зруйнаваным маёнткам і паркам.

— Дзе ж яны сабе зробяць гнёзды, дзе? — спачувальна ўздыхнула жанчына. — Бедныя сіроты!

— Нават той сухой тапалі не пакінулі. Усё ім перашкаджала! — глуха буркатаў селянін.

Буслы апусціліся на паплавы, нейкі сабака з радасным брэхам нёсся да іх. Усім зрабілася неяк весялей, быццам з прылётам буслоў у сэрцах заквітнела надзея.

— Цягнемо, людзі! Не круці галавой, Юзік, а то атрымаеш пугай, — лаяўся селянін, але злосць ужо знікла: ён сам штохвіліны паварочваўся да паплавоў і нешта сабе мармытаў. — Калі бацяны вяртаюцца ў свае гнёзды, вайна адлятае! — пераканана прамовіў ён.

І вось ка́ркі зноў аддаліся ярму, плечы згорбіліся, ногі ўбіліся ў зямлю, і людзі ў глухім маўчанні пацягнулі плуг. Тут неба пацямнела і пачаў падаць дробны надакучлівы дождж. Сыпаў ён шчодра, нібы праз сіта, накрываючы свет чымсьці накшталт дрыготкай эмалі, халадам, што пранікаў да касцей, і вільгаццю. Вясновая непагадзь разышлася не на жарт, і араць рабілася ўсё больш цяжка і пакутліва: слізгалі ногі, раз-пораз хтосьці падаў носам у зямлю, сілы сыходзілі, ярмо вярэдзіла карак, а пастронкі аж да крыві ўразаліся дзецям у плечы і грудзі. Людзі, аднак, цягнулі без стогнаў і скаргаў, кульгаючы і ўвесь час мяняючыся месцамі ў запрэжцы. Селянін падмяняў усіх па чарзе, а за плуг станавілася то жонка, то дачка, то сын. Надта гэта не дапамагала, праца ішла ўсё цяжэй, і кожная нанова адваленая скіба брыняла, здавалася, не столькі дажджавой вадой, колькі потам і крывёй страшных намаганняў. У некаторыя моманты, калі ўжо не хапала дыхання, людзі дзе папала валіліся на зямлю і ляжалі як забітыя жывёлы, мёртвыя, нібы бярвёны, ужо зусім нічога не ўсведамляючы.

Адпачывалі яны нядоўга, бо няўхільная неабходнасць зноў упрагала іх у ярмо, змушаючы да крывавай працы. За імі недаступна крочыла застрашлівая здань голаду, паганяючы пугай роспачы.

— Сіўкам я б ужо даўным-даўно ўсё заараў! — вырвалася ў селяніна.

Сэрцы агарнуў раптоўны боль, выціскаючы з вачэй слёзы горкіх успамінаў.

— А я ж ім казаў праўду: мыт у яго і ліхаманка. А яны не паверылі! Бо ж на вока конь як маляваны — сам рослы, ідзе як рысак. Пасля тых, з маёнтка, то яно і не дзіўна. Я і ў ножкі кланяўся. Не губіце, кажу, гэта ж наш карміцель. Дзесяць моргаў поля, шэсць чалавек у сям'і, вось-вось вясна, кажу. Як жа мы, сіроты, без каня справімся, кажу. А яны там пашчабяталі і забралі, — ужо, можа, тысячны раз паўтараў селянін. Тая хвіля, калі ён згубіў каня, ніяк не ішла ў яго з галавы. Гэта была незагойная рана, праз якую сплывала яго жыццё. — Такі быў конь! Яцэк даваў мне за яго пару каштанавых, а я без даплаты не хацеў...

Тут карова звалілася, жанчыны кінуліся ў плач і пабеглі на дапамогу. На шчасце, нічога не здарылася, і карову паднялі на ногі.

— Рыжуля! Дальбог! Рыжуля! — лямантавала жанчына, выціраючы з яе бруд і песцячы, як самае дарагое дзіця. — Яшчэ згубіць апошнюю кроплю малака.

— Мы і так жарэм тое, да чаго не дакрануліся б нават свінні!

— Калі быдлу не смакуе морква, хай ідзе к чорту!

— Зараз я пакажу табе лепшую жратву, пачакай у мяне! — крыкнуў селянін, сцябаючы пугай порткі сына.

— Не біце, а то я ўсё кіну і пайду ў белы свет! — плаксіва прыгразіў хлопец.

— То адным ротам будзе менш! Ідзі вандруй, сынку! Маці збярэ табе торбачку. Не турбуйся, назбіраеш чаго, хоць кіёў у спіну, але назбіраеш! А можа, прыстанеш да салдат? Гэта якраз для цябе — нішчыць, і красці, і паліць. Ідзі, сынку! — мармытаў селянін, якога словы сына закранулі за жывое.

— Ды я ж гэта так сабе, а бацька ўжо кідаецца, як на таго лютага сабаку! Ведаеце, што, — хлопец раптам змяніў тэму, — а сіўка наш салдат баяўся!

— Дурань ты! Каб такі конь і чаго баяўся! — селянін амаль абразіўся.

— Ды праўда! Улетку паехаў я ў каторую ноч на яры ў маёнткавай канюшыне. Былі там і іншыя хлопцы. Коней мы трымалі на пастронках, падрыхтаванымі. Але ўсё адно на світанні заспеў нас палявы вартаўнік. Не біў і коней не адбіраў, а толькі крыкнуў: "Праз лес валяць маскалі!" І паехаў наперад, а мы ўсе — за ім. Сталі мы ў падлеску над дарогай. Божа мой, які там быў натоўп, штыкі калыхаліся рыхтык жыта на паласе, а наш сіўка як задзярэ хвост і як паганіць напраскі! Скінуў мяне ў ярах і паімчаў да хаціны.

— Дык гэта, значыць, усё ты! Цяпер разумею, чаму конь усю нядзелю жэрці не хацеў, а толькі піў ды енчыў. Я яшчэ галаву ламаў. Ну пачакай, зараз ты за гэта атрымаеш!..

— Досыць, дурні! — стала на абарону сына маці. — Спрачаюцца тут пра мінулагодні снег!

— Без лупцоўкі не сыйдзе — дзеля парадку, каб шанаваў каня! — паабяцаў бацька.

Аднак на гэтым усё і скончылася — сям'я адразу ж успомніла страчанага каня і пасмутнела. Раз-пораз нехта прыгадваў розныя гісторыі, што сведчылі пра яго вартасці, прыгажосць і прывязанасць да дому. Каня згадвалі з такім гарачым сумам, быццам ён быў кімсьці дарагім і блізкім і цяпер навекі згубленым...

— Ведаеце, што, — загаварыла пасля адпачынку дзяўчына. — Мне ўжо не раз уначы здавалася, што сіўка іржэ пад хацінай. Я ўжо была думала, што гэта ўсё мне ў сне прымроілася! Вось і пазаўчора ноччу, як я прачнулася, то выразна пачула: іржэ наш кося! Выходжу па патрэбе на двор і гляджу: сіўка, не сіўка? Перахрысцілася і праціраю вочы: штосьці белае рухаецца пад стайняй! Ну, думаю, уцёк ад тых зладзеяў і вярнуўся дадому! Я туды бягом, аж раптам на ветры імгла закруцілася — усё адразу і знікла. Толькі на дарозе нешта загрукала і ў Ваўронаў сабака забегаў і забрахаў. Мне ад страху ажно кепска зрабілася. Можа, здох ён і цяпер бадзяецца па начах, сваіх шукае...

— Коні што, будуць пасля смерці прыходзіць, як тыя пакутныя душы? — пачала лаяцца маці...

Яны замаўчалі. Дождж узмацніўся, у барознах ужо пабліскала вада і пад нагамі асядала зямля, а кожную скібу даводзілася адвальваць з усё большымі высілкамі. Аднак яны бесперастанку аралі. Ажно вылазілі вочы, ад ярма і пастронкаў выступала кроў, дзіўна хрумсцелі косці і мутнела ў галовах — але селянін няўхільна гнаў запрэжку наперад.

— Забіце мяне, а ўжо не магу! — застагнала дзяўчына, падаючы на зямлю.

Усе прыселі побач: маці абцірала ёй твар, а бацька ўгаворваў:

— Што ты тут зробіш! Адпачні, дачушка! Нэндза нас гоніць. Каб жа хоць паўморга пад картоплі заараць. Хто не пасее, той не збярэ. Нам што, з голаду падыхаць ці ісці са сваёй зямлі ў свет па жабрачы хлеб? Не дачакаецеся, паскуды! Не дачакаецеся! — закрычаў ён і, сціснуўшы кулакі, пагрозліва бліснуў вачыма.

З бясконцай упартасцю яны аралі далей.

**З польскай мовы пераклала**
**Ганна Янкута**

# А бацька ўсё садзіў таполі…



Мікола СЯНКЕВІЧ

…Мой вячэрні званок у вёску. Гэта ўжо пасля бацькавага інфаркту і анкалагічнай аперацыі. Як і заўсёды, трубку падымае маці. Адразу пасля прывітання адказвае на галоўнае ў такіх выпадках пытанне, не чакаючы яго:

— Накарміла тату, а сама адарвалася на некалькі гадзін пакапаць бульбы да Дзяніса Б. У яго сажалка, мо дасць для таты свежай рыбы…

Прыкладна з гэтага пачыналася ў той цяжкі для ўсіх нас кожная размова. Маці нібы «адчытвалася» перад сынамі: за бацьку не хвалюйцеся, я ўсё зраблю сама. А іншы раз і так супакоіць: «Рада, што хоць з хаты выйдзе і мною пакамандуе».

У той час яе найбольшым жаданнем было, каб гэтае «выйдзе з хаты і пакамандуе» працягвалася як мага далей.

Выразны ўспамін дзяцінства — бацькавы чобаты. Не ведаю чаму (мо на ўкраінскі лад), ён называў іх «лыты», і слова гэтае здавалася нейкім асаблівым. («Пераходзіў грэблю і зачарпнуў вады ў «лыты».) З непад'ёмнымі, на паўкухні лытамі мы з малодшым братам, можна сказаць, і гадаваліся. Лыты з'яўляліся на сваім нязменным месцы ў красавіку, калі ўсё залівала вада і бацька выганяў калгасны статак на пашу, і знікалі толькі з першымі прымаразкамі. Напачатку, у першыя год-два пасля перасялення з хутара Паянтрога ў вёску, боты даходзілі нам, дзецям, лічы што да вушэй.

Гады праз два, калі я ўжо заканчваў пачатковую школу, гумовікі крыху «паменшалі», але і тады яшчэ даставалі да пояса, і ўступіць у іх, крыху прасунуць па падлозе ўдавалася з вялікай цяжкасцю. Боты, здавалася, былі налітыя свінцом, і я не мог уцяміць, як гэта іх можна насіць цэлы дзень — не здымаючы.

Ох і цяжкія былі тыя лыты! Падэшва ледзь не ў цагліну таўшчынёю, а гума на халявах такая, што чобаты абсалютна не згіналіся пры хадзьбе. Чорныя бацькавы лыты пахлі балотам, лазою, тытунём, дымам…

Боты зніклі тады, як бацька (а было яму пад сорак) пайшоў «вучыцца на трактарыста». Спачатку яны пыліліся ў сенях, а пасля і наогул недзе зніклі з вачэй — агромністыя бацькавы чобаты, у якіх пастуху ўдавалася «вы́хадзіць» за месяц свае паўсотні, і то не заўсёды, рублёў.

Бацька не паважаў «дурных да працы» аднавяскоўцаў. У яго была мудрая прыгаворка «Заўтра будзе дзень!», з акцэнтам на першым слове. Гэта значыць, не гарыць, не канец свету. Заўтра няспешна давядзеш пачатае да ладу ды яшчэ ў выйгрышы застанешся…

Было гэта, памятаю, неўзабаве пасля таго, калі я вярнуўся з войска. У некага з родзічаў талакою клалі стажок — вялікі, тоны на тры. Вілы ў нядаўняга танкіста аказаліся бацькавай работы, спраўныя, лёгкія. Нанізаў на іх столькі, што паясніца трашчыць, рукі хадуном ходзяць. Намогся — і кінуў сена на стажок. Ажно нехта са старэйшых мужчын не вытрымаў: во гэта пада́ў дык пада́ў. Я, каб зрабіць прыемнае бацьку, пачаў старацца яшчэ больш. А ён вылучыў момант, калі нас ніхто не чуў і не бачыў за стогам, нягучна параіў, нібыта раскрыў жыццёвую тайну: «Не рвіся! Глядзі, як усе… Нажывеш кілу — нікому не будзеш патрэбны…»

Аберагаў, хваляваўся за дарослае дзіця.

Дарэчы, сам ён згаданага вышэй прынцыпу наўрад ці трымаўся. Ордэн Працоўнай Славы ўручалі далёка не кожнаму. Я ўжо не кажу пра ягоныя юбілейныя медалі і граматы, здымкі на Дошцы гонару… І ад грыжы не ўбярогся, нягледзячы на сваю разважнасць і разумную няспешнасць. Гэта мне ўжо знаёмы доктар расказаў, перад першай бацькавай аперацыяй.

Летам, у нядзелю ці ў святочны дзень, пасля абеду, бацька звычайна браў у рукі «куфайку» ды ішоў у таполі, пасаджаныя ім на краі сядзібы, выспацца, адпачыць. Выдатна памятаю, як і мне самому ў касавіцу саладка было ў абед заснуць пад адкрытым небам на падкінутым лахмане… Побач заўсёды быў бацька: кляпаў косы, курыў, перадрэмліваў.

Неаднойчы спрабаваў — ужо без яго — паабедаўшы, стуліць павекі пад яблынямі на сваіх «сотках» — і кожны раз не атрымлівалася. Не ўмею выбраць месца, ці што?.. А то яшчэ, сорам прызнацца, прыходзіць думка, што нейкая змяюка можа падпаўзці і ўджаліць соннага.

Бацька неаднойчы казаў: калі стануць пакідаць сілы, пачну рэзаць на дровы таполі. А сам усё саджаў новыя. З тых, першых, што выраслі да неба, паспеў зрэзаць і ўпарадкаваць ўсяго толькі тры…

У наступныя тры гады пасля свайго сямідзесяцігоддзя.

У бацькоўскай хаце кожны раз маю ўвагу прыцягваюць два ладныя цвікі ў бэльцы, бліжэй да грубкі. Яны забіты крыху наўкос, строга адзін пад адным.

Да гэтага часу памятаю стук малатка ў бацькавых руках, глухі адгалосак столі. Трыццаць сем гадоў прайшло — акурат столькі цяпер маёй дачцэ і яго першай унучцы. У хаце дзеда і бабы разам з маці пражыла яна сваю першую зіму. Дзіцё ўрадзілася крыклівым, у ложку не засынала. Прывезеная з горада каляска разламалася праз два дні, бо трэслі яе не перастаючы. І тут бацька згадаў пра калыску на гарышчы, у якой калыхалі яшчэ нас з малодшым братам. Менавіта тады і загнаў ён у дубовую бэльку моцны і доўгі, з пядзю, цвік. А крышачку ніжэй — яшчэ адзін: на ўсякі выпадак, каб было надзейна…

Мне ніколі не прыходзіла на думку выцягнуць з бэлькі старыя, многа разоў пакрытыя белай фарбай цвікі.



Фота www.kurjer.info

Калі я быў малым, бацька здаваўся мне высокага росту і вельмі дужым. А пасля выявілася, што росту і целаскладу ён самага звычайнага. А вось што, як пісаў Колас, «карчавіты і няўломак» — гэта адназначна. Трывушчы, ён без нараканняў на неба пераносіў дождж і вецер, зімовую сцюжу і летнюю спёку…

Зграбаем сена. Бацька ўжо дабіраецца да сярэдзіны сёмага дзясятка, мне, гараджаніну, няма і сарака. Задуха невыносная. Каб крыху астудзіць разагрэтае цела, я раз-пораз адбягаю ў зарослы стары роў. Там зусім мала вады. Зверху яна цёплая, але можна дабрацца падэшвамі да халоднага глею і пастаяць хвіліну-другую.

Нарэшце сена згрэблена, распачаты стажок. Цяпер аднаму трэба таптаць яго, а другому брацца за вілы. Уверсе намнога лягчэй: аднекуль бярэцца ветрык, ды і раскладваць сена вакол сябе, наступаць на яго, — зусім не тое, што рваць жылы, падаючы «навільнікі». Выдатна ўсведамляю ўсё гэта, але ў мяне няма сілы проста стаяць, не тое, каб класці стог.

Як і ва ўсе папярэднія гады, бацька без адзінага слова ўбіў вілы ў пачаты стог, каб мне зручней было ўсцягнуцца наверх, пачакаў, пакуль вытапчу сярэдзіну ды абыду «аколіцу», і звыкла, няспешна стаў падаваць сена. Ён і падумаць не мог, што можа быць інакш, нават не здагадваўся пра мукі сумлення гарадскога дзіцяці…

Глядзеў на пастарэлага бацьку і здзіўляўся: кашуля ў яго была зусім сухая, толькі пад пахамі выступілі дзве круглыя цёмныя пляміны. І гэта ў той час, як мая, расхрыстаная, мокрая, бы той квач, ляпілася да цела і перашкаджала рухацца. Да ўсяго, салёны пот выядаў вочы, і я не паспяваў выціраць яго шапкай з доўгім брылём. А ён сваю, паўсядзённую, толькі ссунуў далей на патыліцу…

Так і не зраўняўся з ім у касьбе да ягоных сямідзесяці, да першага інфаркта і невылечнай хваробы ўслед за ім. Нават тады бацька касіў ад узыходу сонца і гадзін да дзесяці-адзінаццаці, пакуль ранішняя прахалода даваляла дыхаць, а пасля вяртаўся дамоў, шукаў, да чаго можна прыкласці рукі…

Жыццёвых сіл хапіла яшчэ на тры гады.

У маладосці бацька катаў валёнкі, быў ці не адзіным майстрам на ўсю ваколіцу. Занятак свой ён пачынаў далёка пад зіму. Па вечарах з шырокага нефарбаванага стала на кухні здымаўся настольнік. Маці рассцілала мокрую палатніну. На ёй роўным слоем клалі чыстую, добра вычасаную воўну, а зверху, пасярэдзіне, — цыратовую выкрайку, якая абгортвалася воўнай і той самай палатнінай. Усё разам скручвалася ў трубку і каталася (спачатку вельмі асцярожна, а пасля ўсё смялей і смялей) — згортвалася і разгортвалася незлічоную колькасць разоў, па некалькі гадзін запар. Маці час ад часу ліла зверху гарачую ваду.

Калі палатно здымалася, па тым, што аддалена напамінала валёнкі, яшчэ доўга бразгацеў узад-уперад адмысловы жалезны агрэгат бацькавай канструкцыі: чатыры рабрыстыя валкі, замацаваныя па два на кожнай восі. Валёнкі ўкатваліся да патрэбных памераў, і тады бацька ўстаўляў у іх «калодкі» — асобна для ступні і для верха. Пасля гэтага ён пачынаў біць валёнкі драўляным валком і кулакамі, церці іх далонямі…

Каб пераняць вопыт, бацька спецыяльна ездзіў на фабрыку (ужо і не памятаю, якую). Прывёз адтуль «фабрычныя» калодкі, праўда, застаўся вельмі незадаволены імі, — усё нешта падганяў, падстругваў нажом і вострым аскепкам шкла, набіваў з бакоў кавалачкі гумы.

«Рукі паадбіваць!..» — абураўся ён услых. Ну, аніяк не суадносіліся калодкі-ступні з нагамі бацькавых заказчыкаў. Хапала марокі і з калодкамі верху. А ўсё таму, што яны прамыя, а лыткі, «пад'ёмы» ў кожнай жаночыны адметныя. Вось і паспрабуй тут дагадзі з фабрычнай геаметрыяй.

Далей валёнкі фарбаваліся і займалі сваё месца на грубцы.

Прыходзілі заказчыкі, доўга мералі. Калі абутак быў цесны, даводзілася расцягваць: намочваць, заганяць большыя калодкі, зноў сушыць.

Неаднойчы наракаў бацька на той дзень, калі ўзяўся за свой няўдзячны занятак. Многа разоў даваў сабе зарок: «У апошні раз», — і зноўку не мог адмовіць, бо прасілі ў асноўным шматлікія родзічы і знаёмыя.

Для мяне асабіста найцікавей было, калі задаволены ўладальнік новага абутку даставаў прынесеную пляшку (іншы раз маці дадавала сваю), і павеселелыя дарослыя маракавалі над праблемамі жыцця-быцця, жартавалі, смяяліся. Абноўку заказчыкі пакавалі звычайна ў клятчастую хустку, завязваючы яе канцы намітусь, зычліва прыгаворвалі: «Каб вы мелі карысць з грошай, а мы з абутку…».

Тыя калодкі доўга ляжалі на гарышчы. Нават шашаль не браў іх, многа разоў прапараных і перафарбаваных. А пасля недзе зніклі, як знікае ўсё ў гэтым свеце.

А маці бачыла татаву душу і ў гэтым пераканала нас, сыноў. Прыйшла, кажа, з вуліцы, а на тым месцы, дзе стаяла труна, сядзіць птушачка. Нейкая зусім незнаёмая, нябачаная раней. Хацела мама паклікаць суседку Надзю, ды нешта перадумала. Адчыніла дзверы ў сенцы, і птушка няспешна вылецела. Мама толькі перахрысціла яе ўслед.

Праз дзевяць дзён, як не стала бацькі.

Бацька ўжо зусім слабы, не выходзіць з хаты. Больш за ўсё ён перажывае за тое, што няма моцы працаваць. Збіраюся ісці касіць, і тут ён нечакана прыгадвае, што адна з найбольш зручных косаў «адыходзіць». Па яго просьбе прыношу ў хату малаток, новы клін-затулак, якіх назапашана на дзесяць гадоў наперад, нож-складанчык. Сачу за аслабелымі бацькавымі рукамі — і нейкае дзіўнае, неспазнанае раней адчуванне пранізвае свядомасць, падганяе да горла даўкі камяк. І віной усяму яна, адкляпаная, з бліскучым лязом каса ў чыстым пакоі, дзе не павінна быць.

Бацька падагнаў новы затулак, падказаў, што касе «даўгавала».

У гэты дзень ён знайшоў яшчэ сілы тое-сёе падрэзаць, падправіць, падладзіць. Ужо ўвечары з палёгкаю адзначыў: сёння, дзеці, я зрабіў чатыры работы…

Выпадкова пачуў, як бацька «прызнаваўся» маці ў каханні.

Аднаго разу ў няшумным застоллі ў нашай хаце размова перакінулася на жанок. Бацька, які звыкла маўчаў, на гэты раз глыбакадумна заўважыў (сам сабе, не для гасцей): «А як мая Лена, то лепшых жонак і не трэба».

Так і пражылі яны паўвеку без «любові» ды «кахання».

А маці і праз трынаццаць гадоў пасля адыходу гаспадара паліць у печы нарыхтаванымі ім дровамі і скрушна ўздыхае: «Ён мяне шкадаваў. Думаў, што мо самой давядзецца ўсё. Усё дровамі заклаў. А яго таполі цяпер такія, што да іх і не падступішся».

«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 2 (162) | 28 лютага 2020 | № 8 (667) Новы Час

# На крылах жарсці — да паэзіі вяршынь



Эдуард ДУБЯНЕЦКІ

**Анхела Эспіноса РУІС. Колер крылаў: паэзія і проза. — Мінск: Кнігазбор, 2019. — 248 с. (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 116).**

У гісторыі сусветнай і айчыннай літаратуры было нямала выпадкаў, калі пісьменнікі, ад нараджэння выхаваныя ў адной этнамоўнай традыцыі, спачатку пачыналі ствараць свае творы на роднай мове, а затым па розных прычынах пераходзілі на мовы іншых народаў свету. Прычым нярэдка такія іншамоўныя тэксты мелі заўважную мастацкую каштоўнасць і тым самым уносілі пэўны ўклад у развіццё «няродных» для творцаў культур і літаратур. У сучаснай беларускай паэзіі да праяў гэтага адмысловага мастацкага феномена можна аднесці, скажам, творчасць Алеся Разанава, які некаторыя свае вершы напісаў па-нямецку і па-літоўску, ці Фелікса Баторына, які піша вершы не толькі па-беларуску, але і на ідыш.

Аднак самым свежым і яскравым прыкладам падобнай тэндэнцыі з'яўляецца, безумоўна, творчасць іспанскай (па паходжанні) маладой паэтэсы Анхелы Эспіноса Руіс (нарадзілася ў 1993 годзе), якая на працягу 2010-х гадоў выдатна вывучыла беларускую мову і пачала пісаць на ёй вершы і прозу. На сённяшні дзень у «творчым багажы» адоранай пісьменніцы ўжо ёсць чатыры аўтарскія беларускамоўныя зборнікі і адна кніга перакладаў на іспанскую мову вершаў Максіма Багдановіча. Прычым выданне апошняй па часе выхаду ў свет кнігі «Колер крылаў» (Мінск, «Кнігазбор», 2019), якая ўключае ў сябе выбраныя вершы з папярэдніх зборнікаў, узоры прозы і калумністыкі, стала легась своеасаблівай узнагародай ёй за атрыманне літаратурнай прэміі імя Міхася Стральцова. Паводле рашэння журы, гэтая прэмія, якую можна лічыць адначасова як сведчаннем пэўных заслуг лаўрэаткі, так і вялікім авансам ёй на будучыню, была ўручана паэтэсе «за пачуццёвае і метафарычнае багацце паэтычнай мовы і адважнае імкненне асэнсаваць таемнасць беларускага жыцця».

Як вынікае са зместу названай кнігі, галоўным матывам паэзіі Анхелы Эспіносы Руіс з'яўляюцца каханне і любоў ва ўсіх іх «абліччах» і праявах. Прычым не дзіўна, што, улічваючы маладосць аўтаркі і яе паўднёвы тэмперамент, каханне гэтае найчасцей аказваецца жарсным, эратычна-плоцкім, а часам нават ледзь не экстатычным. Прычым яму надзвычай эмацыянальная паэтка «аддаецца» амаль дарэшты, не шкадуючы сваіх эмоцый, перажыванняў, фізічных і духоўных сіл. Пісьменніца імкнецца жыць напоўніцу, хоча паспець зрабіць, адчуць і напісаць як мага больш, выявіўшы пры гэтым свой магутны творчы патэнцыял, пра што красамоўна сведчыць канцоўка санэта пад назвай «Паўночны вецер»:

*Паўночны вецер, мілае стамленне,*
*Глухое навальніцы рэзкі шквал,*
*Злуюся на пагоду, сонца й ранак…*

*Твой шэпт прынёс і страх,*
*і захапленне,*
*Як бард, пяшчотны, грубы,*
*як вандал,*
*Мой вікінг, мімалётны*
*мой каханак.*

Своеасаблівай візітнай карткай паэтычнай творчасці Анхелы Эспіносы з'яўляецца надзвычайная экспрэсіўнасць і эмацыянальна-пачуццёвая «зараджанасць» большасці ейных вершаў. Па сутнасці, апошнія ператвараюцца ў бясконцы страсны маналог жаночай душы, які ў адных выпадках пераходзіць з лагодных і ціхіх нот на павышаныя, а ў іншых можа ўвогуле перайсці ледзь не на крык асалоды, шчасця ці, наадварот, адчаю:

*Табою кіруе вясна,*
*А мною кіруюць сакрэты,*
*Ляцім мы з табой над вадой,*
*Далёка, як сны, як каметы.*
*..........................*
*Бо намі кіруе Любоў.*
*Любоў — найвышэйшая сіла.*
*Змірыцца не можа душа:*
*Няўжо назаўсёды згубіла?*

На маю думку, тлумачэннем такой павышанай эмацыянальнасці аўтаркі з'яўляецца не толькі яе «гарачая» іспанская кроў, але і неўтаймоўны «жыццёвы парыў» (Анры Бергсон), які наўпрост уплывае на змест і характар мастацкай творчасці. Прычым у выпадку Анхелы Эспіносы, можна сказаць, відавочна дамінуе так званы «любоўны парыў», аб чым красамоўна сведчаць яе шматлікія імпульсіўныя, тэмпераментна-парывістыя вершы на тэму кахання й любові да жыцця і прыроды:




*Люблю жыццё, паветра ды прыроду,*
*Цаню маўчанне ды малюся слову,*
*Таму пяю свае, чужыя оды*
*На чалавечых і жывёльных мовах.*

Увогуле, паэзію Анхелы Эспіносы Руіс можна небеспадстаўна аднесці да своеасаблівай плыні «неарамантызму», для якой уласцівы выключная эмацыйнасць, пачуццёвасць, узвышана-ўзнёслае ўспрыманне жыцця-быцця. І гэта цалкам натуральна, паколькі аўтарка выхоўвалася пераважна на ўзорах рамантычнай паэзіі, а па творчасці двух бліскучых пісьменнікаў-рамантыкаў XIX стагоддзя (іспанскага і беларускага) яна нават абараніла летась дысертацыю пад назвай «Сімвалізм народнага паходжання ў прозе Яна Баршчэўскага і Густава Адольфа Бэкера». Таму і невыпадкова, што ў вышэй згаданым зборніку можна сустрэць наступныя ўзнёсла-фантазійныя радкі, якія даволі нечакана і дзіўна гучаць у нашым прагматычным XXI стагоддзі:

*Бывай, о мімалётная маланка!*
*Бывай, салодка-горкі смак жыцця!*
*Бывайце, рукі шчырага каханка*
*І мілагучны голас салаўя!*

Яшчэ адной з адметных рыс вершатворчасці іспанскай паэткі з'яўляецца, як ні парадаксальна, беларускі… патрыятызм. Апошні праяўляецца ў шчырай павазе да беларускай мовы, гісторыі і культуры, а таксама ў жаданні зрабіць як мага больш для Беларусі — то бок для сваёй «другой Радзімы». Пры гэтым паказальна, што аўтарка, у адрозненне ад многіх нашых суграмадзян, ніколі не губляе свайго этнакультурнага і гістарычнага аптымізму: «Беларусь будзе жыць там, / дзе памяць, дзе мова й любоў». Дарэчы, такому шчыраму патрыятызму можна нават па-добраму пазайздросціць, паколькі ён сёння вельмі рэдка сустракаецца сярод маладых і сталых жыхароў нашай краіны, якія настроены пераважна песімістычна.

Пры ўважлівым чытанні ў кнізе можна знайсці нямала арыгінальных вобразаў-метафар, якія адразу прыцягваюць увагу, прымушаюць спыніцца, задумацца і па-добраму ўразіцца. Прыкладамі такіх удалых (прычым часам парадаксальных і экзатычных!) метафарычна-афарыстычных выказванняў могуць служыць, напрыклад, наступныя: «Зоркі-чайкі ракою да мора плывуць, / Да нябёс — чарада нерэід…»; «Зіма, як белы павук, / Заткала вокны старажытнымі ўзорамі»; «Ластаўка цэмры ляціць да парога, / Ў ружах гублявіцца сны»; «Мяне цалуюць вечнасць і трывога»; «А Час глухі, сляпы / І галодны, як воўк»; «Бо слова — гэта куля, а думка — / Гэта нож, што рэжа мрою»; «Пра будучыню памятаюць паэты й летуценнікі. / Якая будучыня была прыгожая!» ды іншыя. Праўда, акрамя іх у зборніку неаднаразова можна сустрэць і шаблонныя, банальныя вобразы і рыфмы. Да ліку такіх метафар можна аднесці, напрыклад, шырока распаўсюджаны яшчэ з антычных часоў вобраз палёту на крылах чалавека ці ягонай душы, здаўна вядомае параўнанне сябе ці сваёй лірычнай гераіні/героя з птушкай, а таксама «збітыя» рыфмы накшталт «сонца — аконца — бясконца», «каханне — чаканне», «любоў — зноў».

Акрамя таго, у некаторых вершах Анхелы Эспіносы Руіс зрэдку сустракаюцца праявы немілагучнасці, альбо, кажучы мовай сучаснага вершазнаўства, парушэння эўфаніі, што адмоўна адбіваецца на мастацкай вартасці асобных твораў. Гэтыя парушэнні мілагучнасці звычайна выяўляюцца ў непажаданым збегу некалькіх галосных (так званы «шатус») ці зычных гукаў, якія найчасцей нават вымавіць цяжка: «без паэзіі / і іншых недахопаў»; «не ўзяла б з сабой»; «мне не адчуць, чыя я, // А самазадаволены дзядуля»; «А затое я адна»; «шэрасць снегу»; «утульна мне і у абдымках» ды інш. Вышэйпрыведзеных ды ім падобных збегаў гукаў лепей заўжды пазбягаць, бо яны псуюць уражанне ад вершаў і нібы адмаўляюць вядомае выказванне нашага першага метафізічнага паэта Уладзіміра Жылкі аб тым, што «песняры, мастакі і музыкі, / харастваі сугучнасці слугі». А дзеля таго, каб падобных непажаданых рэчаў і іншых хібаў не сустракалася, адразу пасля напісання не варта вершы несці ў друк, а лепей спачатку даць ім час «адляжацца», а затым спакойна, непаспешліва іх перачытваць, выпраўляць-дапрацоўваць, альбо, як больш стагоддзя таму раіў беларускі класік, «трэба з сталі каваць, гартаваць гібкі верш, / Абрабіць яго трэба з цярпеннем» (Максім Багдановіч, верш «Песняру»).

Тым не менш, пры пэўных сваіх недахопах паэзія Анхелы Эспіносы Руіс у цэлым уяўляе сабой досыць арыгінальны і нехарактэрны для айчыннага прыгожага пісьменства мастацкі феномен, адметнымі рысамі якога з'яўляюцца вострая пачуццёвасць, экзальтаванасць і пэўная экзатычнасць рамантычнага ў сваёй аснове светаўспрымання, надзвычай актыўная (часам ледзь не ліхаманкавая) вобразатворчасць, узвышана-акрыленая натхнёнасць паэтычнага выказвання.

А напрыканцы хочацца пажадаць паэтцы далейшай творчай эвалюцыі, мастацкага (сама) ўдасканалення і паспяховага пакарэння новых паэтычных вяршынь. І верыцца, што яна зможа на іх узысці, бо для гэтага ў яе ёсць практычна ўсё неабходнае: прырод(жа)ны талент, творчая апантанасць, жыццёвая няўрымслівасць і магутны мастацкі імпэт.

А яшчэ варта шчыра падзякаваць аўтарцы за тое, што яна дае ўсім нам, жыхарам Беларусі, выдатны прыклад служэння беларускай мове і літаратуры, а маладым (і не вельмі) творцам дае заўважны штуршок да актыўнага творчага самавыяўлення на ніве роднай культуры.

…У свой час Райнер Марыя Рыльке вельмі хораша сказаў пра тое, што быць мастаком — гэта значыць «адмовіцца ад разліку і ліку, расці, нібы дрэва, якое не прыспешвае сваіх сокаў і сустракае вясновыя буры без хваляванняў, без страху, што за імі ўслед не наступіць лета». Дык няхай жа таленавітая іспанска-беларуская паэтэса Анхела Эспіноса Руіс у творчым сэнсе расце, як тое дрэва, вышэй і вышэй, пускаючы свае карані ўглыб беларускай зямлі, углыб беларускага паэтычнага Слова!

# «Цяпер там мой смутак і боль»

**Я не сустракаў такога беларускага паэта, у вершах якога так часта сустракалася б слова «хутар» і вытворныя ад яго, як у Івана Лагвіновіча (16 студзеня 1940 — 29 сакавіка 2011).**

Мяне ўразіла тое, што паэт ва ўсіх сваіх аўтабіяграфічных тэкстах пазначаў месцам свайго нараджэння хутар Запрапасць Ганцавіцкага раёна, а не вёску Малкавічы , з якой паходзілі яго бацькі. Я сам нарадзіўся на хутары, але ў маіх метрыках і ў пашпарце месцам нараджэння пазначана суседняя з Малкавічамі вёска Задуб'е, і я «здаўся», пішу, што нарадзіўся ў Задуб'і. І так у іншых хутаранцаў...

Наважыўшыся напісаць больш поўную біяграфію паэта-земляка, я пачаў збіраць звесткі аб Запрапасці ў людзей, якія на тым хутары жылі. Балазе далёка ісці не давялося. У «маім» Задуб'і жыве Валянціна Валасюк (у дзявоцтве Клішэўская), стрыечная сястра Івана Лагвіновіча, а ў Малкавічах — Ганна Клішэўская, другая яго стрыечная сястра. Першая нарадзілася ў 1937 годзе, другая — у 1942-м. Хутар Запрапасць і яго ваколіцы яны ведалі як свае пяць пальцаў. А яшчэ ў Малкавічах жыве Фёдар Шапялевіч, сын паэтавай сястры Паўліны. Ён нарадзіўся ў Запрапасці ў 1957-м і мог расказаць пра жыццё хутара пасля таго, як улада пачала выштурхоўваць яго насельнікаў у Малкавічы.

Ужо калі я зрабіў даволі за́пісаў пра хутар і яго ваколіцы, загадчыца Малкавіцкай бібліятэкі-музея Любоў Дзямчук паказала мне копію рукапісу Івана Лагвіновіча «Запрапасць». Аказваецца, на пачатку XXI стагоддзя загадчыца бібліятэкі-музея папрасіла Івана



Іван Лагвіновіч у войску

Лагвіновіча апісаць сваю малую радзіму. І калі паэт выканаў просьбу, арыгінал рукапісу (тры аркушы) быў перададзены ў Ганцавіцкую раённую бібліятэку.

Прачытаўшы рукапіс «Запрапасць», я наважыўся падрыхтаваць яго да друку. Пагатоў усё напісанае Лагвіновічам я мог спраўдзіць са сваімі запісамі. Асобныя дэталі мог яшчэ раз удакладніць у родзічаў паэта.

Не названага па імені Клішэўскага, наймалодшага брата паэтавай маці, Тэклі Міхайлаўны, які жыў каля Белай Горкі, звалі Канстанцінам. Ягоныя дочкі Валянціна і Ганна, пры якіх я ўжо напісаў тут, былі маімі галоўнымі інфарматаркамі пра Запрапасць.

Іван Лагвіновіч піша, што з хутара перасялялі ў сяло ў 1960–1961 гадах. Аднак былі сем'і (як, напрыклад, тыя ж Клішэўскія), якія трымаліся і да 1970-х. Самым жа апошнім хутаранцам быў Іван Кошман, якога Іван Лагвіновіч не згадаў. Праўда, жыў той гаспадар за Белаю Горкаю.

Сына Данілы Дзмітровіча, які быў партызанам і якога забілі ў баявой сутычцы немцы, звалі Аляксандрам. У кнізе пра Ганцавіцкі раён з серыі «Памяць» можна прачытаць, што ён нарадзіўся ў 1919 годзе і загінуў у верасні 1943-га.

...На заканчэнне адзначу, што нядаўна тыя тры аркушы, спісаныя рукою Івана Лагвіновіча, з Ганцавіч былі перададзены ў Малкавічы, у бібліятэку-музей.

**Анатоль Сідарэвіч**

# Запрапасць



Іван ЛАГВІНОВІЧ

**Мая маленькая радзіма — хутар Запрапасць.**

На яго можна было патрапіць з сяла Малькавічы, перайшоўшы чыгуначны пераезд у тым месцы, дзе цяпер прыпынны пункт «Моладзевы», і кіруючыся на захад па наезджанай дарозе. Адразу за сялом — вялікае поле Калюга з галінастым дубам пасярэдзіне, пры самай дарозе. Раней за полем, злева і справа, на рознай адлегласці адзін за адным віднеліся хутары.



Запрапасць. Памятны знак на месцы бацькоўскай хаты

За Калюгаю поле звужаецца, сціскаецца з двух бакоў балацявінамі, то тут, то там сярод палявой прасторы і цяпер ганарліва красуюцца бярозавыя гайкі розных памераў і формаў з абавязковымі лагчынкамі ўсярэдзіне. Тут хутары месціліся то ўдалечыні, то пры дарозе ад палавіны адлегласці, што ад Малькавіч да Запрапасці.

А далей грудок звужаецца яшчэ больш, аж пакуль не ўпіраецца ў імшарыну. Нашы продкі знайшлі на ёй найвузейшае месца і праклалі грэблю. Назвалі яе Малой. Бо Вялікая — за наступнай высечкай, якая доўгі час была полем. Спадабалася мясціна маладому тады гаспадару Паўлюку Каняцпольскаму (Рыжаму), і пабудаваўся тут, пры ўездзе на Вялікую грэблю. Толькі калодзежа не выкапаў, бо побач, за дзесяць крокаў ад хаты, пад густой разлапістай ялінаю, крыніца была. Чыстая ды сцюдзёная вада.

Для Вялікай грэблі шмат алешніку давялося ссекчы нашым дзядам ды бацькам, бо тут ужо не імшарына, а грузкая балацявіна была. Ладныя сенажаці ўтварыліся з абодвух бакоў на высечках. А над ручаём, што працякаў пасярэдзіне, масток спарудзілі з сасновых бярвенняў, каб веснавою паводкаю не размывала грэблю. Мабыць, гэтае месца й называлася Проспасць, бо далей ужо была Запрапасць.

Пастараюся апісаць хутар на той час, калі я нарадзіўся: напярэдадні Вялікай Айчыннай вайны. Ён месціўся паміж Вялікаю грэбляю і Белаю Горкаю, на выцягнутай з усходу на захад кіламетровай выспе.

Адразу за грэбляю жылі Васілевічы (Баранчуковы). Хата іхняя стаяла па правую руку ад дарогі, а гаспадарчыя пабудовы — па левую. Ва ўсіх жыхароў хутара будынкі месціліся справа, а злева — былі агароды.

Сядзібы Масалевічаў (Сазонавых) і Шапялевічаў (Іванчыкавых) стаялі на пэўнай адлегласці ад дарогі, бо тут, паўз дарогу метраў гэтак з дзвесце цягнуўся лужок. Для праезду да сваіх двароў ім давялося капаць і ўзводзіць сыпанкі па ўсёй шырыні лужка. З цягам часу яны параслі па краях асіннікам ды бярэзнікам і ўтварылі прыгожыя дамбачкі з цяністымі алеямі.

За лужком была наша сядзіба. Хоць мой бацька быў непісьменны, аднак у душы быў, мяркую, большы паэт, чым я. Ён выбраў на гэтай выспе самае маляўнічае месца. За хатаю шумелі чатыры магутныя вячыстыя дубы. Пяты — з усходняга боку, пад вакном — прыгожа ўпісаўся ў сасновы барок, што быў падобны на невялічкі парк, бо быў заўсёды дагледжаны, чысты. На дубах і соснах летнім днём весела гулі, то вылятаючы, то залятаючы ў вуллі-борці, працавітыя пчолы. Паміж барком і дарогай, у лагчынцы, люстравалася сажалка-копанка. З яе палівалі гародніну, паілі жывёлу.

**З хутара перасялялі ў сяло ў 1960–1961 гадах. Цяпер там мой смутак і боль. Гайкі спілавалі, палі зарастаюць. Усё зыначылася. Цяжка стрымаць слёзы**

За нашаю была сядзіба Адама Дзічко (Ярмолава). Ён таксама быў дасціпным, дбайным гаспадаром. Заклаў ладны сад, па перыметру абсадзіў ляшчынавымі кустамі; пад імі стаялі сапраўдныя вуллі з пчоламі. Ягоная пісьменнасць дазваляла гаспадарыць паводле тагачаснай навукі.

Шэметы (Кісялёвы) жылі за Барылавым гайком. З імі суседнічалі Сенюковічы (Базылёвы). Дзед Язэп [Сенюковіч] быў знаным майстрам-сталяром. Рабіў скрыпкі, якія гучалі лепей за фабрычныя. І сам някепска іграў.

Каля Белай Горкі жылі Клішэўскія — наймалодшы брат маёй маці з сям'ёю. Не было ў іх мянушкі.

Напярэдадні адступлення нямецкіх войскаў на наш хутар увечары заявіўся карны атрад. Мы, жыхары хутара, хаваліся тады ў сваякоў у сяле. Сядзібы Васілевічаў і Шапялевічаў спалілі дашчэнту. У нас і ў Адама Дзічко згарэлі гаспадарчыя пабудовы, хаты засталіся. Астатніх не кранулі. А каралі акупанты за сувязі з партызанамі. Шапялевічы адбудаваліся на папялішчы, а Васілевічы перабраліся на станцыю Малькавічы.

З хутара перасялялі ў сяло ў 1960–61 гадах.

Цяпер там мой смутак і боль. Гайкі спілавалі, палі зарастаюць. Усё зыначылася. Цяжка стрымаць слёзы.

Ланцуг Белай Горкі, вышынёю метры з два, то павышаючыся — то паніжаючыся, а ў іншых месцах і зусім знікаючы, цягнецца па Грушэцкім, Захлынні ды Каранай аж да станцыі Малькавічы. Пясчаная града, што паралеліць уздоўж Задубенскай вуліцы [у Малькавічах], — звяно таго ланцуга.

Але вернемся на хутар. Перайшоўшы Белую Горку, праз дзвесце метраў мы траплялі на сядзібу Навумікаў (Джоліных). Ім таксама давялося перажыць пажар... Але адбудаваліся і працягвалі жыць на ранейшым месцы. На поўнач ад іх, па-суседску з дубровою, жылі Хілютычы. Гаспадара называлі Барыс Галузіны, а гаспадыню — Настусся Дзічка. Недзе ў сярэдзіне пяцідзясятых перабраліся на сядзібу сваяка паміж Запрапасцю і Малькавічамі.

На поўдзень ад Запрапасці, вярсты праз дзве, на паніжанай у тым месцы Белай Горцы жылі яшчэ адны Хілютычы, але з іншымі мянушкамі: Васіль Паляк і Мар'я Кісяліха.

Іхнім суседам быў Сцяпан — Сцепанец Шапялевіч (Карнеевы). Пасля вайны не жылі там, перабраліся ў сяло. З той мясціны перасяліўся бліжэй да сяла і Іван Сенюковіч (Боб), сын Язэпа Базылёва. Засталася ў гэтым кутку пры балоцістым лузе Залоззе сям'я Казюковых, тожбо Шапялевічаў. А калі ісці напрасткі ад Казюковых да Джоліных, можна было ўбачыць на доўгім полі паміж імшарынамі, багатымі на журавіны і гадзюк, непаглядную хату і невялікі хлеўчык Язэпа Лагвіновіча (Кашавара). Крушнікам называлася тое ўрочышча. На паўночны ўсход ад таго поля хутараваў Даніла Дзмітровіч (Гранюк). Ягоны сын быў партызанам і загінуў у адным з баёў. Немцы спалілі [сядзібу Дзмітровіча] дашчэнту. Пабудаваўся ў сяле. А тое поле, дзе ён жыў, сталі называць Дворышчам.

На станцыю з Запрапасці мы хадзілі напрасткі праз Яловую Шышку і Ліпінне. У Яловай Шышцы недзе да пяцідзясятага года жылі Паўлоўскія, а на Ліпінні Клішэўскія. Паміж імі — Сяргей Каняцпольскі з сям'ёю. На калёсах можна было ехаць на станцыю гэтым шляхам толькі ўлетку, калі высыхала вада ў двух брадах цераз стругі (забалочаныя нізіны), ды калі замярзала.

Цяпер ад станцыі ёсць дарогі толькі да таго месца, дзе жыў Сяргей Каняцпольскі. А Яловая Шышка зарасла цёмным непралазным ельнікам ды зялёным мохам. Блукаючы там у 1985 годзе, склаліся такія радкі: «На дарозе, што вяла на хутар, цяпер буяе дзікая трава. І ў ёй гніе вяровачнае пута...». Зрэдчас я прыязджаю назбіраць на Ліпінні кошык зялёнак і падзялёнак.

**Красавік 2003**

**Падрыхтаваў да друку**
**Анатоль Сідарэвіч**

**Фота з архіва сям'і**
**І. Лагвіновіча і аўтара**

# Год Пастэрнака

**Паводле звестак прэс-службы Дзяржаўнага музея гісторыі расійскай літаратуры імя У. І. Даля, сёлета Дом-музей Барыса Пастэрнака ў пісьменніцкім пасёлку Перадзелкіна будзе адзначаць дзве важныя даты: 130-гадовы юбілей з дня нараджэння пісьменніка і 30-годдзе самога музея.**

Цэнтральнай падзеяй юбілейнага года стане праект «Барыс Пастэрнак. Тапаграфія лёсу» — цыкл з пяці выстаў, кожная з якіх прысвечана «рыфмам лёсу» Барыса Пастэрнака: тым мясцінам, якія былі для Пастэрнака значныя (Масква і Перадзелкіна), і тым, у якія не раз і невыпадкова прыводзілі яго акалічнасці жыцця: Нямеччына, Урал (Расія), Грузія. На працягу года да музейных экспазіцый будуць дадавацца і экскурсіі, лекцыі, выступленні даследчыкаў творчасці пісьменніка.

Першая выстава цыклу — «Тапаграфія лёсу. Пралог. Масква» — адкрылася ў Доме-музеі 18 студзеня і будзе даступная для наведвальнікаў да 1 сакавіка.

# На шляху да мары,
## або Дзе працавалі вядомыя пісьменнікі ХХ стагоддзя

**Многія літаратары ХХ стагоддзя пачыналі сваю працоўную дзейнасць зусім не з напісання раманаў і вершаў. Каб матэрыяльна забяспечыць сваё жыццё, ім даводзілася асвойваць самыя розныя прафесіі.**

Так, Яўгеній Замяцін, стваральнік антыўтопіі «Мы», якая аказала значны ўплыў на сусветнавядомых пісьменнікаў Джорджа Оруэла і Олдаса Хакслі, атрымаў тэхнічную адукацыю, скончыў караблебудаўнічы факультэт політэхнічнага інстытута ў Санкт-Пецярбургу, а пасля яшчэ два гады выкладаў у той жа ВНУ. Пазней служыў на верфях у Англіі, займаючыся будаўніцтвам расійскіх ледаколаў, быў адным з асноўных праекціроўшчыкаў ледакола «Святы Аляксандр Неўскі», які атрымаў пасля кастрычніцкай рэвалюцыі назву «Ленін». Пасля вяртання ў Расію ў 1917 годзе Яўгеній Замяцін цалкам прысвяціў сябе літаратурнай творчасці. Праўда, яго знакавы раман «Мы» ўпершыню выйшаў у свет у Нью-Ёрку ў 1925 годзе, а на радзіме быў апублікаваны толькі ў 1988-м. У 1931 годзе пісьменнік эміграваў, а з 1932-га пастаянна пражываў у Парыжы.

Аўтар «Лаліты» ды іншых вядомых твораў Уладзімір Набокаў яшчэ ў школьныя гады захапіўся энтамалогіяй. Пісьменнік вельмі любіў матылькоў, ім прысвячаў свае навуковыя працы і нават адкрываў новыя віды насякомых. Уладзімір Набокаў, пачынаючы з 1920 года, апублікаваў 25 артыкулаў па энтамалогіі, прапанаваў новую класіфікацыю аднаго з відаў матылькоў, курыраваў калекцыю матылькоў у музеі пры Гарвардскім універсітэце. І нават у творах пісьменніка ста́ла прысутнічалі згадкі гэтых насякомых. Яны дапамагалі Уладзіміру Набокаву ўзмацняць асобныя сцэны і характарызаваць вобразы герояў.

Міхаіл Шолахаў, аўтар «Ціхага Дона», спрабаваў сябе ў творчасці яшчэ са школьных гадоў. А працоўную дзейнасць пачаў ужо ў 15-гадовым узросце ў якасці «ліквідатара непісьменнасці». Пазней служыў справаводам у рэўкаме, затым скончыў падатковыя курсы і быў харчовым інспектарам, затым — памочнікам бухгалтара, падатковым інспектарам, рабочым домакіраўніцтва. Яго першы фельетон «Выпрабаванне» быў надрукаваны ў «Юношеской правде», пасля чаго Міхаіл Шолахаў стаў актыўна публікавацца, і літаратурная творчасць неўзабаве стала яго асноўнай прафесіяй.

Свой першы ганарар малы Стывен Кінг атрымаў ад мамы, якая заахвочвала літаратурную творчасць сына і заплаціла яму па 25 цэнтаў за 4 аповеды пра труса. Пазней будучы «кароль жахаў» разам з братам заняўся выдавецкай дзейнасцю. Дэвід і Стывен самі пісалі матэрыялы і раздрукоўвалі сваю газету «Лісток Дэйва» на мімеографе, затым распаўсюджвалі яе сярод суседзяў па цане 5 цэнтаў за асобнік. Падчас навучання ў каледжы пісьменнік працаваў на ткацкай фабрыцы ўпакоўшчыкам, пазней падзарабляў у пральні. Пасля заканчэння Універсітэта штата Мэн і педагагічных курсаў у каледжы працаваў настаўнікам англійскай мовы.

Харука Муракамі перад тым, як напісаў сваю першую кнігу і стаў аўтарам мноства бэстселераў, быў уладальнікам джаз-бара «Піцер Кэт» у Токіо. А пасля таго, як заняўся літаратурнай творчасцю, ён вёў ток-шоў на такійскім тэлебачанні пра заходнюю музыку і субкультуру. Таму чырвонай лініяй праз усё жыццё японскага пісьменніка праходзіць тэма музыкі, якая, па яго ўласным прызнанні, служыць для яго адвечнай крыніцай натхнення.

**У падрыхтоўцы старонкі выкарыстаны матэрыялы парталаў «ТАСС», swissinfo.ch, CNN і novostiliteratury.ru.**

## ПРЭМІІ

# Швейцарская літпрэмія

**Пісьменніца Сібіл Берг атрымала галоўны літаратурны прыз Швейцарыі (Swiss Grand Prix Literature).**



Спадарыня Берг, якая нарадзілася ў Нямеччыне і цяпер жыве ў Цюрыху (Швейцарыя), была ўзнагароджана прэміяй «за працу ўсяго жыцця». У апублікаванай заяве Федэральнага ўпраўлення культуры Швейцарыі адзначаецца: «Федэральнае літаратурнае журы вылучыла Сібіл Берг за наватарскі, адданы і важны голас сучаснай нямецкамоўнай літаратуры».

Сібіл Берг напісала 15 раманаў. Яна таксама з'яўляецца аўтарам шматлікіх тэатральных п'ес і радыёпастановак. Нарадзілася пісьменніца ў 1962 годзе ва Усходняй Германіі. Яна атрымала «Швейцарскую літаратурную прэмію 2019 года» за свой «змрочны футурыстычны раман» «GRM. Brainfuck».

Сібіл Берг была ўганаравана і аўстрыйскай літаратурнай узнагародай «Nestroy Prize-2019» за лепшую нямецкамоўную п'есу.

Яе першы раман быў апублікаваны ў 1997 годзе (праз год пасля яе пераезду ў Цюрых).

Журы «Швейцарскай літаратурнай прэміі» таксама прысудзіла двухгадовую спецыяльную ўзнагароду за пераклад Марыён Граф, якая пераклала мноства пісьменнікаў і паэтаў, у тым ліку Маркуса Вернера, Клаўса Мерца, Эрыку Буркарт, Эрыку Педрэцці, Юрга Шубігера, Конрада Фердынанда Мэйера, Франца Хохлера, Ганну Ахматаву, Уладзіміра Адоеўскага.

Грашовы памер прэміі — 40 тысяч швейцарскіх франкаў (каля 40 тысяч еўра) кожная. Узнагароды былі ўручаны пераможцам 13 лютага ў сталіцы Швейцарыі Берне.



# Прэміі імя Шолахава

**Да 115-годдзя з дня нараджэння вядомага пісьменніка Міхаіла Шолахава рэгіянальныя ўлады Расіі заснавалі літаратурную прэмію яго імя.**

Інфармацыя распаўсюджана са спасылкай на першага намесніка губернатара Растоўскай вобласці Ігара Гуськова.

Першы конкурсны адбор адбудзецца з сакавіка па красавік гэтага года, а ўжо ў траўні — у дзень нараджэння пісьменніка — на літаратурна-фальклорным фестывалі «Шолахаўская вясна» ў станіцы Вешанская Растоўскай вобласці Расіі пройдзе ўрачыстае ўганараванне лаўрэатаў прэміі.

Літаратурную ўзнагароду будуць уручаць з інтэрвалам раз у 5 гадоў у 3-х намінацыях: «Сучасная проза», «Сучасная паэзія» і «Літаратурная крытыка». Грашовы складнік прэміі — 20 тысяч расійскіх рублёў.

Нагадаем, што да нядаўняга часу існавала і яшчэ адна прэмія ў гонар расійскага пісьменніка, аўтара «Ціхага Дона», — Міжнародная прэмія імя Міхаіла Шолахава ў галіне літаратуры і мастацтва. Яна была заснаваная ў 1992 годзе Міжнароднай супольнасцю пісьменніцкіх саюзаў (правапераемцам Саюза пісьменнікаў СССР), Саюзам мастакоў Расіі, выдавецтвам «Советский писатель» і Маскоўскім дзяржаўным адкрытым педагагічным універсітэтам імя. М. А. Шолахава.

Прэмія присуджалася расійскім і замежным празаікам, паэтам, дзяржаўным і грамадскім дзеячам «за лепшыя творы на гістарычныя тэмы, за паэтычныя зборнікі і філалагічныя даследаванні, выдадзеныя ў Расіі». Лаўрэат атрымліваў дыплом, памятны медаль і грашовую ўзнагароду. Уручалася прэмія ў Маскве ў апошнія дні траўня (да дня нараджэння Міхаіла Шолахава).

Старшыняваў у журы пісьменнік Юрый Бондараў. Лаўрэатамі прэміі былі неардынарныя асобы і — не заўсёды пісьменнікі: Радаван Караджыч (Сербія, 1993), Арсеній Ларыёнаў (празаік, кіраўнік расійскага выдавецтва «Советский писатель», 1994), Фідэль Кастра (Куба, 1995), Юрый Бондараў (старшыня журы прэміі, Расія, 1995), Генадзь Зюганаў (Расія, 1996), Аляксандр Лукашэнка (Беларусь, 1997); Аляксандр Праханаў, Расул Гамзатаў (Расія, 1998), Патрыярх Алексій ІІ (2000), Слабадан Мілошавіч (Сербія, 2002), Міхаіл Савіцкі (Беларусь, 2002), Уга Чавес (Венесуэла, 2007) ды іншыя.

Апошняе ўганараванне Міжнароднай прэміяй імя Міхаіла Шолахава, паводле інфармацыі ў СМІ, адбылося ў 2010 годзе.

# Прэмія «Чыстая кніга»

**Экспертная рада Усерасійскай літаратурнай прэміі імя Фёдара Абрамава «Чыстая кніга», якую ўзначальвае пісьменнік Сяргей Шаргуноў, вызначыла пераможцаў 2019 года.**




У намінацыі «Сучасная проза» лаўрэатамі прэміі «Чыстая кніга» сталі адразу два аўтары: Уладзімір Лічуцін (за раман «У чаканні Бога») і Дзмітрый Новікаў (за раман «Галамянае полымя»).

Лаўрэатам прэміі ў намінацыі «Літаратурная крытыка» назвалі Андрэя Рудалева (за кнігу «Чатыры выстралы: пісьменнікі новага тысячагоддзя»).

Спецыяльнай прэміяй «За ўклад у развіццё паўночнай літаратуры» адзначаны Уладзіслаў Папоў, а спецпрэмію «За ўклад у вывучэнне і прапаганду творчасці Фёдара Абрамава» атрымала літаратуразнаўца Алена Галімава.

Памер кожнай узнагароды складае 500 000 расійскіх рублёў (каля 17 000 беларускіх рублёў).

Цырымонія ўзнагароджання адбылася ў Архангельску 27 лютага 2020 года на ўрачыстай вечарыне, прысвечанай 100-гадоваму юбілею Фёдара Абрамава.

Савецкі пісьменнік, літаратуразнаўца і публіцыст Фёдар Абрамаў (1920–1983) з'яўляецца адным з самых вядомых прадстаўнікоў «вясковай прозы» — кірунку савецкай літаратуры 1950–1980-х гадоў. У яго творах асэнсоўваецца драматычны лёс сялянства і рускай вёскі ў ХХ стагоддзі, а творы вызначаюцца абвостранай увагай да пытанняў маральнасці, да ўзаемаадносін чалавека і прыроды.

Прадстаўнікамі «вясковай прозы» называюць Васіля Бялова, Валянціна Распуціна, Васіля Шукшына, Віля Ліпатава, Барыса Мажаева, Віктара Астаф'ева.

Літаратурная Беларусь
Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА.
Тэлефон для даведак: (8-017) 354-80-91. Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by

# «Спісалі на мацярык»: куды знік рэпрэсаваны пастпрад БССР?

« Заканчэнне. Пачатак на стар. 6

Што адметна, па скаргах правялі праверку, устанавілі парушэнні, следчых арыштавалі. Але на справу Мароза гэта ніякім чынам не паўплывала. Яму прысудзілі пяць гадоў лагеру, з улікам зняволення падчас следства заставалася 2,5 года.

Міхаіл Мароз вызваліўся 3 лістапада 1942 года, але, паводле прысуду, у яго заставалася яшчэ два гады паразы ў правах. Былы дыпламат працаваў у лясным аддзеле Магаданскай чыгункі, якой цяпер не існуе — гэта была ўнутраная дарога лагера. Праз нечалавечыя лагерныя ўмовы Мароза разбіў паралюш — аднялася левая палова цела. Так праз два гады пасля вызвалення Міхаіл Мароз трапіў у дом інвалідаў у Магадане.

— Літаральна за два месяцы да заканчэння дзеяння паразы ў правах, разумеючы, што жыць яму засталося нядоўга, яго «спісалі на мацярык». Далёкі Усход, Калыма — гэта, фактычна, свая асобная дзяржава, таму нават у дакументах так пісалі — «адправіць на мацярык», — тлумачыць Клім Батароеў.

У жніўні 1944 года Мароза адправілі ў Яраслаўскую вобласць, у горад Тутаеў, дзе ён павінен быў стаць на ўлік. Але, відаць, туды ён не прыехаў, і далейшыя сляды Міхаіла Мароза губляюцца.

— Паводле інфармацыі, якая ёсць у сям'і, у 1946 ці ў 1947 годзе ў Мінск прыйшоў ліст, маўляў, ваш Міхаіл Іванавіч Мароз, вельмі добры чалавек, цяжка хварэў і памёр. Калі хочаце, прыедзьце да нас і забярыце яго, а калі не, мы пахаваем яго тут. Быў адрас, імя гэтага чалавека. Але паколькі гэта былі часы росквіту ўлады Сталіна, а ліст вёз рэпрэсаваны з ссылкі, яго хавалі. Ніхто па Міхаіла Іванавіча не паехаў, таму што проста не было каму. Алеся Іванаўна ў гэты час цяжка хварэла на рак кішэчніка і ў жніўні 1947 года памерла, да таго ж была галеча, грошай на квіток не было. А ліст у сям'і так схавалі, што знайсці яго цяпер не могуць нават нашчадкі, — кажа праўнук дыпламата.

### «Окончить не позволили — стал на стойку»

Клім заняўся пошукам па архівах звестак пра прадзеда. Так, з архіва Магаданскай вобласці ўдалося атрымаць копію ўліковай карткі, запоўненай Міхасём Марозам, дзе былі звесткі пра яго, яго судзімасць, працу пасля вызвалення, склад сям'і і — ужо чужой рукой — ад'езд у Тутаеў з Магадана 26 жніўня 1944 года.

— У Яраслаўскай вобласці — 28 раёнаў. У кожны з раённых аддзелаў ЗАГС я напісаў запыт, бо, калі чалавек памёр, павінен быць зафіксаваны факт смерці. Але нідзе такіх дакументаў няма. Толькі Магаданская пракуратура мне паведаміла, што справа Міхаіла Іванавіча Мароза ў іх была, але яе знішчылі вельмі хутка пасля смерці Сталіна — быў такі загад.

Але захавалася следчая справа Міхася Мароза, Клім Батароеў



предусмотренное ст. ст. 58-4, 58-10 ч. I и 58-11 УК.
А потому суд на основании имеющихся в деле материалов и руководствуясь ст. ст. 319 и 320 УПК
Приговорил:
Мороз Михаила Ивановича на основании ст. 58-4-11 УК подвергнуть мере наказания сроком на (5) пять лет лишения свободы, с последующим поражением прав сроком на (2) два года по ст. 31 УК. Его-же на основании ст. 58-10 ч. I УК подвергнуть мере наказания сроком на (3) три года лишения свободы с поражением прав по ст. 31 УК сроком на 2 года. А по совокупности обеих статей считать к отбытию пять (5) лет лишения свободы и поражения избирательных прав на 2 года.
Зачесть ему в срок отбытия данной меры наказания время предварительного заключения с 3 ноября 1937 г. по день суда. Меру пресечения до вступления приговора в законную силу оставить содержание под стражей в тюрьме. Приговор может быть обжалован в 72-х часовой срок с момента вручения копии приговора осужденному в Верховный суд Республики через Омский суд.
Пред-щий
Народные Заседатели

**Прысуд Міхаілу Марозу.** Фота прадастаўлена Клімам Батароевым

знайшоў яе ў Омскім архіве ФСБ. Справу даслалі не ўсю: без паказанняў даносчыкаў і з закрытымі імёнамі следчых, панятых, суддзяў. Але ёсць ордэр на арышт Мароза, вопіс яго рэчаў — некалькі часопісаў, вучэбная літаратура, дзве калоды карт, нататнікі, зберкніжка — усяго 26 прадметаў.

— Адзін напісаны ім дакумент без слёз чытаць немагчыма: ён пісаў, а потым думка рэзка абрываецца, і пасля коскі ідзе фраза: «окончить не позволили [...] стал на стойку». А затым яму падклалі ўжо надрукаваны на машынцы пратакол допыту, дзе яго прымушалі распісвацца пад кожным абзацам: «призна́ю, што з'яўляўся актыўным удзельнікам антысавецкага падполля, членам нацыянал-фашысцкай арганізацыі Беларусі». Яму ставілі ў віну планы арганізаваць аб'яднанне Савецкай Беларусі з «фашысцкай Польшчай».

Адметна, што ў абвінавачым прысудзе Міхасю Марозу для пракурора пазначана, што следчымі (іх імёны закрэсленыя) прымяняліся незаконныя метады вядзення следства. І яшчэ адзін здзек савецкай судовай сістэмы: прысуд можна было абскардзіць цягам 72 гадзін. Мароз паспеў гэта зрабіць, але Вярхоўны суд РСФСР пакінуў пастанову ў сіле.

Пазней, ужо ў доме інвалідаў, былы пастпрад напісаў падрабязную аўтабіяграфію, дзе распавёў, што ён ні ў чым не вінаваты і ніякіх злачынстваў не здзейсняў. Ён дасылаў яе жонцы, каб тая знайшла адваката і дамаглася перагляду справы і адмены прысуду ды рэабілітацыі. Пісаць пра гэта даводзілася завуаліравана, паколькі ўсе лісты чытала цэнзура. Таму да жонкі ён звяртаецца «Дорогой товарищ Алеся!», а напрыканцы, не могучы пералічваць сваіх сяброў, піша: «Привет, кому надо».

### «Настаўніца не верыла, што прадзед удзельнічаў у стварэнні СССР»

У сям'і Кліма Батароева нейкую містычную ролю адыграў горад Канск у Краснаярскім краі. Пачалося ўсё з брата Алесі Александровіч, паэта Андрэя Александровіча. У 1938 годзе яму далі 15 гадоў лагераў і адправілі ў бок Нарыльска на будоўлю нікелевага камбіната. Там Александровіч адбыў восем гадоў, пасля чаго яму скарацілі тэрмін да адбытага і дазволілі вярнуцца ў Мінск. Але ў 1949 годзе яго арыштавалі зноў і саслалі на вольнае пасяленне. Пасля заканчэння філфака МДУ, каб быць бліжэй да бацькі, сын Александровіча Радаслаў узяў размеркаванне на працу настаўнікам літаратуры ў гідролізны тэхнікум горада Канска.

У гэты час падрасталі сыны Алесі Александровіч і Міхаіла Мароза. Бацькоў няма (маці да гэтага часу памерла, верагодна, бацька таксама), старэйшы сын, Міхаіл, у арміі, малодшы, Андрэй, скончыў фізіка-матэматычны факультэт і шукае, куды падацца. Звяртаецца да стрыечнага брата Радаслава, і той запрашае яго да сябе ў Канск выкладаць фізіку і матэматыку. Андрэй селіцца ў трохпакаёўцы, дзе адзін пакой займае Радаслаў і яшчэ адзін — выкладчыца спецыяльнасці ў тэхнікуме. Пазней выкладчыца стане жонкай Андрэя Мароза, і ў іх народзіцца дачка Людміла — маці Кліма.

З сярэдзіны 1950-х у Савецкім Саюзе актыўна развіваецца касмічная праграма. У сувязі з



**Клім Батароеў.** Фота Дзіяны Серадзюк



**Магіла Алесі Александровіч на Вайсковых могілках.** Фота Дзіяны Серадзюк

гэтым у Іркуцку будуецца вялікі інстытут, куды запрашаюць спецыялістаў-фізікаў. Андрэй з жонкай і дачкой перабіраюцца туды.

— Калі я вучыўся ў трэцім класе, нам распавядалі пра нашу радзіму — Савецкі Саюз. І мне мама казала, што яе дзядуля — а мой прадзед — удзельнічаў у стварэнні СССР. Я распавёў пра гэта сваёй настаўніцы, але яна мне не паверыла. Бо дакумента не было, нават копіі. Ужо заканчваючы школу, я стаў шукаць, і знайшоў на адным нямецкім сайце дамову і дэкларацыю аб утварэнні Савецкага Саюза, дзе стаіць подпіс Міхаіла Мароза.

### Магілу Алесі ўратавалі. Ці знойдуць магілу Міхася?

Калі пачаўся знос помнікаў на Вайсковых могілках, маці Кліма Людміла Батароева прыехала туды, сказала, што яна — прамая ўнучка Алесі Александровіч і папрасіла нічога з яе пахаваннем не рабіць. Але ў яе былі дакументы на імя Аляксандры Іванаўны Мароз, а не Алесі Александровіч, таму прадстаўнікі Спецкамбіната не надта ёй паверылі. На шчасце, знайшоўся сын ужо згаданага Радаслава Александровіча Алег, сваяцтва ўдалося даказаць — і магілу не кранулі.

Сваякі дамовіліся, што паставяць новы помнік. І вось аднойчы яны прыйшлі на магілку і ўбачылі новы прыгожы помнік на магіле Алесі, на якім ёсць сумеснае фота з мужам, а таксама звесткі пра абодвух. Якім было іх здзіўленне, калі высветлілася, што новае надмагілле паставіў не нехта з сям'і і нават не нейкая арганізацыя. А зрабіла гэта адна з валанцёраў некропаля, унучка пісьменніка Сяргея Знаёмага Таццяна Навасельская. Яна апякуецца многімі пахаваннямі на Вайсковых. Яе дзед таксама быў рэпрэсаваны, і яго слядоў Таццяне знайсці не ўдалося, таму, даглядаючы за магіламі іншых, яна такім чынам ушаноўвае і памяць свайго продка.

Раней магіла Алесі была абнесеная агароджай, на якой вісела таблічка з пазнакай імя і гадоў жыцця. Жанчына памерла ў 1947 годзе, калі краіна была ў галечы, і не было з чаго зрабіць шыльду на помнік. І яе зрабілі з пісьмовага прыбора брата Алесі Андрэя Александровіча, які застаўся ў яго з часоў яго творчага ўзлёту і прызнання. У сувязі з «добраўпарадкаваннем» агароджу давялося прыбраць, а вось памятная шыльда дагэтуль захоўваецца ў сваякоў.

Апроч жонкі Алесі на Вайсковых могілках пахаваны брат Міхаіла Мароза — Алесь Іванавіч Мароз.

У гісторыі гэтай сям'і яшчэ вельмі шмат белых плямаў, якія, здаецца, усё ж ёсць каму запаўняць. Бацька Кліма — бурат, у гэтага народа вельмі моцная сямейныя традыцыі, продкі ў сем'ях вельмі



**Апошняе фота Міхаіла Мароза, 1942 год.** Здымак прадастаўлены Клімам Батароевым

шануюцца, таму мужчына настроены працягваць пошукі.

— Для нас гэта вялікая трагедыя, што наш продак вось так згінуў, і да гэтага часу не вядома, дзе яго магіла, — кажа ён.

Першы пастпрад БССР пры ўрадзе СССР быў рэабілітаваны ў 1992 годзе. Разам з даведкай аб рэабілітацыі ў Омскім архіве ФСБ Кліму Батароеву прадаставілі і апошняе фота прадзеда, дзе яму 51 год, а выглядае ён на ўсе 60. Гэтае фота, а таксама пастанову і даведку аб рэабілітацыі Міхаіла Мароза Клім перадаў у Нацыянальны архіў Беларусі.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ЗША. Выміранне выратуе планету?

Апошнім часам мы сутыкнуліся з такой з'явай, як кліматычны экстрэмізм. Гаворка пра арганізацыі накшталт Extinction Rebellion, якія намагаюцца змагацца за клімат радыкальнымі сродкамі аж да акцый сабатажу і блакадаў аўтамабільных дарог. Аднак некаторыя лічаць, што і гэтага недастаткова. Сярод іх — Англія Раскін, выкладчыца філасофіі ў кембрыджскім універсітэце, якая нядаўна выдала кнігу The Ahuman Manifesto. Кніга мела вялі рэзананс праз незвычайны заклік: аўтарка прапануе чалавецтву паступова ўвесці жорсткія абмежаванні на нараджэнне дзяцей. Гэта дазволіць зменшыць маштабы спажывання і, адпаведна, эксплуатацыі прыроды. Прычым забарона нараджаць, як лічыць аўтарка The Ahuman Manifesto, перш за ўсё тычыцца белых еўрапейцаў. Апошнія, маўляў, нясуць адказнасць за капіталізм, які знішчае планету. Дасягнуць радыкальнага скарачэння еўрапейцаў Раскін прапануе за кошт масавай стэрылізацыі. Нягледзячы на экстравагантнасць тэзісаў кнігі, у яе, як высвятляецца, хапае паслядоўнікаў. Напрыклад, у мінулым годзе феміністычная групоўка BirthStrike заклікала жанчын адмаўляцца ад нараджэння дзяцей у імя клімату. Прыкладна 5400 жанчын у Канадзе і ў Брытаніі падтрымалі незвычайную ідэю.

**Паводле нямецкай прэсы**

### ФРАНЦЫЯ. Амерыка акупавала Францыю?

Францыя працягвае абмяркоўваць гучную справу Бенжамена Грыво, былога дзяржаўнага сакратара пры прэм'ер-міністры, які марыў стаць мэрам сталіцы ад партыі прэзідэнта Макрона «Наперад, Рэспубліка!». Аднак пра кар'еру мэра давялося забыць пасля таго, як расійскі мастак-акцыяніст Пётр Паўленскі, што атрымаў палітычны прытулак у Францыі, выклаў у сеціва інтымнае відэа з Грыво. У выніку Грыво, які пазіцыянаваў сябе абаронцам сям'і, зняўся з выбараў. Як ні дзіўна, гэты крок Грыво не спадабаўся вялікаму сегменту грамадства. Яны пабачылі тут... здраду кодэксу француза, паводле якога мужчына або жанчына могуць дазваляць сабе раманы. Для шэрагу інтэлектуалаў учынак Грыво наогул стаў ілюстрацыяй паступовай культурнай амерыканізацыі Францыі. Сапраўды, адстаўкі палітыкаў на глебе сямейных і сексуальных скандалаў характэрныя для амерыканскага палітычнага працэсу. З іншага боку, магчыма, сітуацыя не такая крытычная. Шматлікія парыжане кажуць, што не разумеюць учынку Грыво, паколькі не збіраліся абіраць анёла. У гэтым плане можна казаць, што Францыя ўсё ж застаецца ў парадыгме сваіх традыцый.

**Паводле французскай прэсы**

### КАЗАХСТАН. Хрушчоў, якога мы не ведаем

Калі верыць казахскай прэсе, першы сакратар ЦК КПСС рабіў шчодрыя тэрытарыяльныя падарункі не толькі Кіеву. Напрыклад, у 1956 годзе была скасаваная Карэла-Фінская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка, якая пасля на правах аўтаноміі ўвайшла ў склад РСФСР. І на гэтым правадыр не збіраўся спыняцца. У яго планах была перадача Расіі прыкладна 25 працэнтаў тэрыторыі Казахстану. Такім чынам, 26 снежня 1960 года, насуперак пратэсту, з Алма-Аты ў складзе Казахскай ССР быў утвораны Цалінны край, які ўключаў у сябе пяць абласцей з пераважна рускамоўным насельніцтвам. Афіцыйная прычына стварэння рэгіёну, які наўпрост падпарадкоўваўся цэнтру, — бітва за ўраджай. Пазней, нібыта, Мікіта Сяргеевіч хацеў канчаткова перадаць Цалінны край у склад РСФСР. Аднак, як вядома, у выніку ўнутрыпартыйнай змовы 1964 года ён быў зьмешчаны з пасады, а яго Цалінны край неўзабаве быў расфармiраваны.

**Паводле казахскай прэсы**

### ГЕРМАНІЯ. Адмяніць правапіс

На думку большасці нямецкіх палітолагаў, наступны ўрад Германіі будзе складацца з кансерватараў і «зялёных». Між тым, гледзячы на навіны з перыферыі, дзе існуюць падобныя кабінеты, знайсці кансенсус «зялёным» і кансерватарам вельмі цяжка. Напрыклад, у Бадэн-Вюртэмбергу партнёры не могуць дамовіцца наконт правапісу. Усё праз міністра культуры Вінфрэда Крэтчмана, які прадстаўляе «зялёных». Ён прапануе радыкальна спрасціць нормы правапісу нямецкай мовы. На яго думку, такая рэформа цалкам адпавядае духу часу, калі людзі амаль не пішуць ад рукі. У сваю чаргу, спецыяльныя праграмы ў кампутарах лёгка дапамагаюць выправіць памылкі. «Я не думаю, што правапіс у цяперашні час з'яўляецца адной з вялікіх, сур'ёзных праблем у адукацыйнай палітыцы», — заявіў палітык. Цікава, што некаторыя асацыяцыі педагогаў і бацькоў падтрымліваюць ідэю. А вось кансерватары катэгарычна выступілі супраць лінгвістычнай анархіі. Прадстаўнік партыі Меркель заявіла, што «правапіс з'яўляецца важным культурным актывам». Дэбаты наконт спрашчэння правапісу паміж чыноўнікамі Бадэн-Вюртэмбергу выйшлі на федэральны ўзровень, што можа надаць ім новы імпульс.

**Паводле нямецкай прэсы**




Фота www.dw.com

# Таямніца аднаго з'езда

Алег НОВІКАЎ

**Сотая гадавіна заснавання партыі нацыстаў натхніла гісторыкаў яшчэ раз разбурыць гітлераўскія міфы пра тую знакамітую падзею.**

Увечары 24 лютага 1920 года ў адным з пакояў мюнхенскай піўной Hofbräuhaus пад кіраўніцтвам Гітлера было абвешчана пра стварэнне Нацыянальнай сацыялістычнай нямецкай рабочай партыі (NSDAP) і, адпаведна прынятая яе праграма, што складалася з 25 пунктаў. Аж дзве тысячы прысутных у піўной актывістаў віталі будучага фюрэра і стварэнне новай партыі.

Менавіта такую версію абвяшчэння партыі ў Hofbräuhaus піярылі ў часы нацыскай дыктатуры. На самай справе, нават аматару відавочныя хібы ў выкладанні падзеі. Па-першае, фармальна NSDAP не паўстала на голым месцы выключна дзякуючы генію Гітлера. Сам аўтар Mein Kampf прызнаваў, што арганізацыя ўзнікла на базе Нямецкай рабочай партыі (DAP), якая была заснаваная годам раней. Рэй у створанай партыі спачатку вялі слесар Антон Дрэкслер і спартыўны журналіст Карл Харэр, а не Гітлер. Пра тое, што будучы фюрэр у лютым 1920-га выконваў не першыя ролі, сведчыць і нумар яго партыйнага білета — 555.

Таксама цяжка назваць створаную сто гадоў таму фармацыю нацыянал-сацыялістычнай. Хутчэй, яе ідэалогія адпавядала пастулатам ідэі «völkisch» — сфармiраванай рамантычнай дактрыны пра перавагу ўяўных «арыгінальных» немцаў, іх расавай чысціні. Хіба што ў праграме NSDAP аксіёмы «völkisch» набылі выразны антысеміцкі характар. Акрамя таго, акцэнт у партыйным дакуменце рабіўся на неабходнасці перагледзець ці скасаваць Версальскую мірную дамову.

Нацыянал-сацыялістычны антураж у NSDAP з'явіўся пазней, калі Гітлер, будучы яе негалосным піяр-менеджарам, заняўся сінтэзам сацыялізму і нацыяналізму. «Сацыялістычнымі лозунгамі ён пазначыў сувязь з левым духам часу, а з дапамогай нацыянальных лозунгаў Гітлер дыстанцыяваўся ад сацыял-дэмакратыі і марксізму на адным дыханні», — заўважыў адзін нямецкі гісторык. Ёсць думка, што Гітлер рабіў ідэалагічны кактэйль не свядома, а інстынктыўна. Маўляў, яму, як акцёру-дэмагогу, была патрэбная аўдыторыя для сваіх прамоваў. Цікавасць масаў магла забяспечыць новая правакацыйная назва партыі.

Новая канцэпцыя партыі не спадабалася Антону Дрэкслеру, якога Гітлер у выніку з партыі выжыў. Змаганне за кіраўніцтва ў NSDAP скончылася феерычна. Улiпені 1920-га Дрэкслер пайшоў у паліцыю і патрабаваў арыштаваць Гітлера, паколькі той... можа калісьці стаць дыктатарам! Пасля гэтага шляхі палітыкаў разышліся да 1934-га, калі нацысты заняліся стварэннем партыйнага міфу. Не вельмі прыгожую гісторыю пра ўнутраны канфлікт вырашылі схаваць, а самога Дрэкслера прымусілі запісацца ў нацысты.

Нарэшце, тусоўка 24 лютага 1920 года ў Hofbräuhaus, насуперак канону нацысцкіх прапагандыстаў, наўрад ці была значнай падзеяй нават для Баварыі. Пасля Першай сусветнай вайны і краху імперыі ў краіне адбывалася імклівая перабудова партыйнага поля. Ледзь не кожны дзень нараджаліся розныя палітычныя партыі і гурткі. А паколькі ў краіне панаваў крызіс, большасць з заснаваных тады фармацый абяцалі хуткія і радыкальныя перамены.

На думку некаторых цяперашніх гісторыкаў, структура Гітлера здолела выйграць канкурэнцыю з падобнымі партыямі за кошт рытарычных здольнасцяў правадыра. Падчас выступаў на мітынгах Гітлер не толькі камусьці пагражаў і нешта абяцаў, аднак таксама дапускаў іранічныя прыёмы, што падабалася слухачам. Увогуле, тэзіс пра тое, што на Гітлера трэба глядзець як на шоумена, вельмі папулярны сярод даследчыкаў. «Гітлер, па-сутнасці, быў тэатральным чалавекам, які ведаў, што палітыка грунтуецца найперш на пачуццёвых уражаннях і эмацыйным уключэнні, а не на праграмных прамовах», — кажа гісторык Ганс-Ульрых Тамер (Hans-Ulrich Thamer).

Цяперашняя сотая гадавіна заснавання NSDAP не абышлася і без іншых маленькіх гістарычных сенсацый. Гісторыкі, напрыклад, звярнулі ўвагу на партыйны пункт, які заклікае дзяржаву абараняць маці і дзяцей дзеля паляпшэння грамадскага здароўя. На іх думку, гэта быў закамуфляваны пратэст супраць надання немкам права галасаваць, што, сярод іншага, адкрыла шлях да працэсу эмансіпацыі.

І як жа без гістарычных аналогій! Некаторыя актыўна намагаюцца правесці паралель паміж NSDAP і цяперашнімі правымі папулістамі з партыі «Альтэрнатывы для Германіі» (AfD). Напрыклад, сябroў «Альтэрнатывы для Германіі» і нацыстаў роднiць антыпатыя на адрас мігрантаў. «Любая далейшая іміграцыя негерманцаў павінна быць забароненая. Мы патрабуем, каб усе негерманцы, якія іміграваліў Германію пасля 2 жніўня 1914 года, былі неадкладна вымушаныя пакінуць Рэйх», — дэкларавай восьмы пункт праграмы нацыстаў.

Большасць гісторыкаў, аднак, лічаць такія аналогія спекулятыўнымі. Пры ўсім падабенстве, NSDAP была выразнай партыяй фюрэрскага тыпу. Менавіта таму пасля правалу «піўнога путчу» ў 1923 годзе і арышту Гітлера партыйныя структуры нацыстаў практычна развaліліся. «Альтэрнатыва для Германіі», якая не мае харызматычнага правадыра, хутчэй нагадвае адну з кансерватыўных рэакцыйных партый часоў Веймара.

Застаецца дадаць, што пакой, у якім была заснаваная NSDAP, захаваўся да нашага часу. Праўда, цяпер яго аблюбавалі мюнхенскія пенсіянеры для сваіх танцаў. Думаецца, калі б Гітлер бачыў тую дыскатэку, то дакладна б здзівіўся.

# Як у СНД гербы малявалі

Алег НОВІКАЎ

**Нядаўні праект карэкціроўкі герба Беларусі — усяго толькі чарговы фрагмент незвычайнай гісторы геральдыкі постсавецкіх дзяржаў.**

Адным з самых важных атрыбутаў любой краіны з'яўляецца герб. Без яго часам нават цяжка ўявіць сабе індывідуальнасць і самабытнасць усяго народа. Таму не дзіўна, што пасля краху СССР лідарам краін, якія паўсталі на яго рэштках, давялося аператыўна заняцца геральдыкай.

У гэтым сэнсе найбольш пашанцавала краінам, якія мелі нейкія зародкі дзяржаўнасці да ўваходжання або інкарпарацыі ў склад Савецкага Саюза. Напацоўкі папярэднікаў у галіне сімволікі былі адразу запатрабаваныя. Да прыкладу, гербам Азербайджана стаў сімвал Азербайджанскай Дэмакратычнай Рэспублікі (АДР), якая існавала ў 1918–1920 гадах. Прычым, калі гэты герб зацвярджалі ў 1993-м, апусцілі кур'ёзны факт: высветлілася, што той герб АДР не быў афіцыйным, і ўвогуле невядомы амаль нікому, паколькі існаваў толькі як праект.

Праблемы з гербам нечакана паўсталі ў Кіеве. Пасля атрымання незалежнасці трызуб — сімвал Украінскай Народнай Рэспублікі (1917–1921 гады) — быў аднагалосна прызнаны дзяржаўным сімвалам. Аднак праз пару гадоў, калі да тэмы сімволікі давялося вяртацца з-за працы над Канстытуцыяй, усё нечакана змянілася. Камуністы, якія мелі на той момант у Радзе адносную большасць, наадрэз адмаўляліся галасаваць за трызуб — «дыскрэдытаваны сімвал буржуазнага нацыяналізму». Пры гэтым яны актыўна цытавалі першага прэзідэнта УНР, сацыяліста Міхаіла Грушэўскага. Той у сваіх праграмных артыкулах заклікаў выкарыстоўваць як мага больш сімвалаў мірнай працы. У прыватнасці, яму падабаўся залаты плуг на сінім фоне — «знак новай Украіны, які павінен заняць цэнтральнае месца ў дзяржаўным гербе Украіны». У выніку тагачасны прэзідэнт Леанід Кучма пайшоў на кампраміс — камуністам у абмен на падтрымку праекта Канстытуцыі паабяцалі «ў перспектыве» прыняць «вялікі герб Украіны». Той вялікі герб і да гэтага часу так і не намалявалі.

Але самыя незвычайныя геральдычныя прыгоды адбываліся ў Сярэдняй Азіі. Калі ў дзяржаваў, што паўсталі тут у 1991 годзе, і былі гістарычныя папярэднікі, то, хутчэй, непрывабныя тэакратычныя манархіі. Таму мясцовым геральдыстам даводзілася прыдумляць усё практычна ад пачатку. Перад стваральнікамі гербаў новых краін рэгіёну была пастаўлена глабальная задача: у адным ёмістым графічным матэрыяле ўлічыць і выявіць усё — гісторыю, традыцыі, побыт, філасофію, адметныя нацыянальныя асаблівасці. Прычым, маляваць трэба было вельмі хутка.

Звычайна канчатковы варыянт гербаў абіралі кулуарна. Аднак там-сям абвяшчаліся шырокія конкурсы, удзельнікі якіх прыносілі самыя арыгінальныя варыянты. Напрыклад, гербам Казахстана магла стаць галава воўка. Чаму воўка? Таму што, як адзначалі аўтары эскізу, яна была выяўленая на сцягу Цюркскага каганата. Прапаноўвалася тэма герба ў выглядзе стрэл і шалому: намёк на тое, што казахі — нацыя батыраў.

Мяркуючы па ўсім, апошняе слова ў кастынгу версій гербаў мелі кіраўнікі кожнай з рэспублік. Усе яны былі выхадцамі з савецкай сістэмы, прадуктамі яе культуры. Не дзіўна, што абраныя варыянты гербаў краін Цэнтральнай Азіі кампазіцыйна нагадваюць шаблон гербаў СССР і савецкіх рэспублік. Адтуль былі пазычаныя і некаторыя элементы, якім надавалася новае значэнне. Напрыклад, пяціканцовую зорку на гербе Казахстана было прапанавана трактаваць як пуцяводную зорку краіны.

Прысутнасць у гербах савецкай спадчыны не падабалася часткі мясцовай грамадскасці. А ў 2012 годзе ў Кыргызстане — самай дэмакратычнай краіне рэгіёну — нават дамагліся разгляду парламентам альтэрнатыўнага «несавецкага» варыянту герба. Аднак большасць дэпутатаў прагаласавала супраць праекту, палічыўшы прапанаваны варыянт «масона-ісламскім».

Наогул, герб Кыргызстану, напэўна, самы скандальны сярод усіх дзяржаўных сімвалаў постсавецкіх краін. Мала таго, што мясцовыя мастакі пасварыліся паміж сабой з-за права лічыцца аўтарамі яго эскізу. У дадатак адразу пасля зацвярджэння герба ў 1994-м шмат хто пабачыў у ім плагіят узбекскай версіі, што была прынятая на два гады раней. Гербы, сапраўды, вельмі падобныя. У цэнтры герба Кыргызстана — белы сокал «Ак-Шумкар», які сімвалізуе свабоду краіны. А ў цэнтры ўзбекскага — птушка Хумо, сімвал шчасця. За вывамі птушак — прыродныя багацці: у кыргызскім гербе — возера Ісык-Куль і горы, ва ўзбекскім варыянце — горы і рэкі Амудар'я і Сырдар'я.

І, нарэшце, вар'яцкая гісторыя туркменскага дзяржаўнага сімвала. Спачатку герб Туркменістану, што быў зацверджаны ў 1992 годзе, меў круглую форму. Праз нейкі час Сапармурат Ніязаў прапанаваў змяніць яе на васьмікутнік, мудра заявіўшы, што «васьмікутнік у туркменаў са старажытных часоў лічыцца сімвалам багацця і міру». Капрыз задаволілі, аднак гэта былі толькі кветачкі. Калі верыць незалежным СМІ, у 2003 годзе ў Туркменбашы памёр любімы конь Янардаг. Паколькі конь той жа пароды выяўлены на гербе краіны, Ніязаў вырашыў, што Янардагу там самае месца. Каню, што на гербе, дамалявалі характэрныя белыя плямы, як на нагах у любімага скакуна дыктатара. Пасля смерці Ніязава давялося вярнуцца да старой версіі выявы жывёлы.

Наўрад ці гэта апошняя папраўка туркменскага герба. Як, дарэчы, і сімвалаў іншых постсавецкіх краін, дзе непрадказальны палітычны працэс можа яшчэ не раз адбіцца на іх геральдычных знаках.



Фота www.fb.ru

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Раміль Тухватулін



Дэпутат парламента Рэспублікі Татарстан фактычна заклікаў Казань умяшацца ў справы суседняга Башкартастану для абароны мясцовай татарскай абшчыны. Калі верыць дэпутату, ва Уфе ў рамках прызначанага на гэты год усерасійскага перапісу насельніцтва збіраюцца скараціць афіцыйную колькасць татараў. Паводле перапісу насельніцтва 2010 года, у Башкартастане было крыху больш за мільён татар. Татарскія актывісты, якія пражываюць у Башкартастане, запэўніваюць, што колькасць татараў, пазначаных падчас перапісаў 2002 і 2010 гадоў, зменшаная прыкладна на 200 тысяч чалавек. Цяпер, нібыта, колькасць татараў вырашылі яшчэ значна скараціць — за кошт прапаганды ідэі існавання паўночна-заходніх башкіраў. Па меркаванні Казані, яны, на самай справе, з'яўляюцца этнічнымі татарамі. Афіцыйная Уфа адмаўляе гэтыя абвінавачванні, але ў Казані, як бачым, на гэты конт сваё меркаванне. Для выратавання суайчыннікаў Тухватулін прапанаваў пачаць рух па абароне правоў татарскага народа ў суседняй рэспубліцы. Праўда, гэтыя меры плануецца пакуль абмежаваць дэкларацыямі пратэсту і выкладаннем у інтэрнэце дакументальных і мастацкіх фільмаў пра гісторыю татарскага народа.

### Берні Сандэрс



Сенатар США, прэтэндэнт у кандыдаты на пасаду прэзідэнта ад левай фракцыі Дэмпартыі, 24 лютага выйграў праймерыз дэмакратаў у Невадзе. Нягледзячы на тое, што Невада пасылае на партыйны канвент, які абірае кандыдата, няшмат дэлегатаў, апошнюю вікторыю Сандэрса разглядаюць як ключ да агульнай перамогі. Справа ў тым, што Сандэрс упершыню дамогся падтрымкі амерыканцаў лацінаамерыканскага паходжання, якія складаюць трэціну насельніцтва штата. Паводле падлікаў сацыёлагаў, падтрымку яму выказаў 51 працэнт лацінаамерыканцаў, што прыйшлі на праймерыз. Іх галасаванне вельмі сімвалічнае, паколькі можа быць пасланнем выбаршчыкам іншых штатаў. Перш за ўсё, гэта штаты, якія галасуюць 3 сакавіка («Супераўторак»), калі выбіраецца больш дэлегатаў, чым у любы іншы дзень перадвыбарчай гонкі. У тым ліку 3 сакавіка галасуюць самыя вялікія штаты — Тэхас і Каліфорнія. Калі Сандэрс, заручыўшыся тут падтрымкай лацінаамерыканцаў, выйграе, намінацыя кандыдата ад дэмакратаў практычна ў яго ў кішэні. Адпаведна, шанцы апанентаў Сандэрса становяцца прывіднымі. Да таго ж гэты лагер дэфрагментаваны, і ўсё яшчэ не зразумела, хто можа канкураваць з Берні. Поспехі Сандэрса ўжо выклікалі трывогу сярод апаратчыкаў Дэмпартыі, якіх непакояць абяцанні сенатара — занадта левыя паводле амерыканскіх мерак. Гэта пагражае рымейкам выбараў 1972 года, калі рэспубліканец Рычард Ніксан лёгка перамог кандыдата дэмакратаў Джорджа МакГоверна, які таксама ішоў на выбары пад левымі лозунгамі.

### Махамед Абдулахі Махамед



Кіраўнік Самалі 24 лютага зрабіў гістарычную заяву пра намер правесці ў краіне агульныя парламенцкія выбары. Гістарычнасць яе ў тым, што апошні раз самалійцаў запрашалі на выбары ў далёкім 1969 годзе. Абраная тады дэмакратычная адміністрацыя доўга не ўтрымалася праз хуткі вайсковы пераварот. Пасля пачаліся канфлікты з суседзямі і грамадзянская вайна. У выніку на пачатку 1990-х гадоў Самалі як дзяржава фактычна спыніла сваё існаванне ды страціла ўсе атрыбуты дзяржаўнасці. Яе тэрыторыя ўяўляла калейдаскоп з розных шматкоў, якія кантраляваліся палявымі камандзірамі. Сітуацыя стабілізавалася з дапамогай знешніх гульцоў толькі дэкаду таму. Пачынаючы з 2012 года федэральны ўрад паслядоўна вядзе перамовы, у выніку якіх мясцовыя адміністрацыі атрымліваюць юрыдычнае афармленне як сябры федэрацыі. Адпаведна, створаны прадстаўнічы орган, які пакуль фарміруецца з прадстаўнікоў кланаў і аўтаноміі. І вось цяпер паўстала ідэя абраць нармальны парламент, які дасць магчымасць партыі большасці ці самай вялікай кааліцыі ў парламенце фарміраваць урад і абіраць прэзідэнта. Між тым, аналітыкі сумняваюцца наконт гатоўнасці Самалі да ўсенародных выбараў. Ужо цяпер некаторыя рэгіёны асцярожна прапануюць іх адкласці. Нарэшце, на пачатку года Пунталэнд (адна з тэрыторый Самалі, якая ў 1990-я абвясціла сябе незалежнай дзяржавай), зачыніў філіял самалійскага выбаркаму і запатрабаваў перамоваў з цэнтрам.

# Дубрава. Людзі, трагедыі, артэфакты



Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**Калі едзеш з Ракава ў Радашковічы, то немагчыма абмінуць вёску Дубрава. У даваенны час яна адыгрывала важную стратэгічную ролю на мяжы з БССР, а падчас Другой сусветнай вайны і пасля яе там адбываліся падзеі, пра якія варта памятаць і сёння.**

### Ад стражніцы да роты

У 1924 годзе пільнаваць памежны кардон паміж Другой Рэччу Паспалітай і СССР пачаў польскі Корпус аховы памежжа (КАП). Непасрэдна на мяжы яго структура складалася з трох звенняў. Мяжу ахоўвалі стражніцы, якія аб'ядноўваліся ў роты. Ротны штаб знаходзіўся ў тыле. Яшчэ далей быў гарнізон памежнага батальёна, у склад якога ўваходзілі роты і стражніцы. Менавіта ў Дубраве з 1924 года знаходзілася 12-я памежная рота, якая ўваходзіла ў склад 10-га памежнага батальёна КАП «Краснае». У канцы 1920-х гадоў штабу ў Дубраве падпарадкоўваліся памежныя стражніцы «Павязынь», «Вязынка», «Гурнавічы», «Шапавалы» і «Пялікшты». Вёскі, дзе размяшчаліся заставы, знаходзіліся адносна недалёка ад Дубравы.

У сярэдзіне 1930-х гадоў памежнікам роты «Дубрава» прыходзілася ахоўваць 28 кіламетраў дзяржаўнай мяжы.

І сёння ў цэнтры вёскі можна знайсці элементы даваеннага польскага гарнізона. Зразумела, на даху штабнога будынка ўжо няма тыповай для праектаў архітэктара Тадэвуша Навакоўскага назіральнай вежы. Побач з будынкамі КАП знаходзяцца бетанаваныя сховішчы: у 1930-х гадах яны выкарыстоўваліся для захоўвання зброі і боепрыпасаў, а цяпер — для гаспадарчых патрэбаў мясцовых жыхароў.

### КАП супраць дыверсантаў

Служба памежнікаў з роты «Дубрава» ў другой палове 1920-х гадоў не была спакойнай. У польскім архіве памежнай аховы ў Шчэціне захаваліся сотні старонак дакументаў, якія апісваюць здарэнні на мяжы. «У сувязі са шпіёнскай аферай арыштаваны Пётр і Караль Дуткевічы з вёскі Валокі, Міхаіл Кубрыкевіч з вёскі Павязынь, Юдзіт Чарэзіс з Радашковічаў. Яны накіраваныя ў Маладзечна. 21 снежня 1924 года нелегальна перайшла мяжу Янна Бот (Скатоўская). На допыце яна прызналася, што з'яўляецца супрацоўніцай ДПУ з Масквы і была накіравана на шпіёнскую працу ў Польшчу. Пасля допыту жанчыну адправілі ў Экспазітуру Другога аддзела ў Вільню. 20 снежня гэтага года арыштаваныя Антоній Вайтовіч і Стэфан Рудзь з вёскі Сыцэвічы Радашковіцкай гміны Вілейскага павета за напад на жыхара вёскі Павязань Куніцкага. […] 21 снежня а 17-й гадзіне афіцэр савецкай памежнай аховы паклікаў каменданта нашай стражніцы №46 "Гурнавічы" і праінфармаваў яго, што камендант савецкай брыгады, якая размяшчаецца ў Заслаўі, хацеў бы 22 снежня сустрэцца па важнай справе з камендантам нашага ўчастка. Ён заявіў, што быццам бы савецкі памежны пост заўважыў ля мяжы насупраць Радашковічаў 20 конных і 20 пешых узброеных асоб. […] Бальшавікі занепакоеныя, што мы выкрылі іх шпіёнска-дыверсійныя афёры, і мэтанакіравана спрабуюць перавесці нашу ўвагу на іншую тэму», — паведамлялася ў адной са справаздач КАП за 1924 год.

Цікава, што згаданая «міжкамісарская» сустрэча адбылася. На ёй бальшавіцкі камандзір заявіў польскаму падпалкоўніку Пытлю пратэст і абвінавачанне ў падрыхтоўцы на польскай тэрыторыі дыверсійнага атрада з мэтай перакідкі яго на савецкі бок. На гэта паляк згадаў, што ў раёне Гуі (тэрыторыя БССР) бальшавіцкі дыверсант Смольскі арганізаваў банду і тэрарызуе насельніцтва памежжа. Камендант з Заслаўя змяніў тэму размовы і ўпэўніў паляка, што «Польшчы нічога не пагражае».

У пачатку студзеня 1925 года патруль памежнай роты «Дубрава» наткнуўся на трох падазроных асобаў, якія адкрылі агонь па польскіх памежніках і збеглі на савецкі бок. Хутка пасля гэтага капаўцы пабачылі Васіля Барана. Апошні адстрэльваўся з «Нагана», дыверсанта прыкрывалі два савецкія памежнікі, якія суправаджалі Барана да мяжы. У выніку «нелегал» атрымаў раненне і трапіў у рукі капаўцаў. Следства паказала, што Баран быў агентам ДПУ з Мінска і з'яўляўся сувязным Смольскага. На допыце агент прызнаўся, што шукаў «калідор» на мяжы для пераводу атрада Смольскага з мэтай нападу на Радашковічы.

Пазней спроба нападу на мястэчка ўсё ж адбылася. «16 лютага ў 20 гадзін жыхары Радашковічаў паінфармавалі дзяжурны ўзвод пра з'яўленне злачынцаў ля мястэчка. Быў выдадзены загад закрыць мяжу. Патруль натрапіў на сляды злачынцаў, і аднаго з іх, Шынфельда, параніў і ўзяў у палон. У час гэтай аперацыі цяжкае раненне ў жывот атрымаў радавы Юзаф Хмялеўскі, які пазней памёр у шпіталі ў Вільні. Тады ж польскія выведнікі ў Дубраве даведаліся, што атрад Смольскага перадыслакаваўся пад Ракаў і там пачаў «мабілізаваць» людзей. Акрамя гэтага, паводле дадзеных «Двуйкі», савецкія памежнікі павінны былі «спрашчаць» нелегальны праход беларускай моладзі з тэрыторыі Польшчы ў Савецкую Беларусь, каб мабілізаваць іх у Чырвоную Армію.

У той час было шмат чутак пра магчымую новую вайну паміж бальшавікамі і палякамі, і польская выведка надавала вялікую ўвагу ўсёй інфармацыі, што прыходзіла з Савецкай Беларусі.



Абед для вясковых дзяцей на адной са стражніц КАП ля Заслаўя, 1930-я гады

### «Нелегалы» і кантрабандысты

У лютым 1925 года каля вёскі Туркаўшчына ля слупа № 615 памежнікі роты «Дубрава» затрымалі Германа Сандара і Маю Урбановіч, якіх пазней перадалі ў рукі паліцыі ў Дубраве. У гэты ж час у раёне стражніцы «Вязынка» польскія «вартавыя мяжы» «ўзялі» Аўраама Апфельбаўма, які нелегальна ішоў у Польшчу. У сакавіку 1925 года ля Дубравы КАП затрымала сям'ю з пяці чалавек, якая мела дакументы, выпісаныя ў польскім консульстве ў Мінску і Маскве. Невядома, чаму гэтыя людзі не паехалі праз мяжу легальна: магчыма, у іх папросту не было грошай на квіток у цягнік Мінск — Коласава.

У 1927 годзе ў раёне стражніцы «Шапавалы» польскі памежны патруль затрымаў мясцовага жыхара Рамана Налеўскага за тое, што той размаўляў з савецкім памежнікам: затрыманага перадалі паліцыі ў Дубраве. Там жа, ля вёскі Шапавалы, польскі патруль уступіў у бой з невядомымі, якія спрабавалі перарэзаць дротавую загароду. У выніку «нелегалы» вымушаныя былі адступіць у БССР.

Хапала і кантрабандыстаў. Аднойчы памежнікі затрымалі некалькі вазоў з гарэлкай, якія ехалі ў БССР. Іншым разам на гэтым напрамку ў рукі польскіх памежнікаў трапіў тавар фірмы «Усход. Акцыянерная кампанія Рынкевіч і Януўскі», які савецкі прадпрымальнік хацеў вывезці з Польшчы, але занізіў фактычны кошт тавару. У выніку, рэчы засталіся на тэрыторыі Другой Рэчы Паспалітай.

Ёсць і яшчэ адзін важны момант, звязаны з дубраўскім гарнізонам КАП. Да вайны ў мястэчку знаходзіўся каталіцкі касцёл Унебаўзяцця Дзевы Марыі. Святыня была пабудаваная ў пачатку XIX стагоддзя. Пасля здушэння паўстання Кастуся Каліноўскага царская ўлады перадалі будынак праваслаўнай царкве. Пасля 1921 года будынак вярнулі каталікам. У 1926–1929 гадах парафія ў Дубраве налічвала каля 2000 чалавек. З 1932 года ксяндзом пробашчам там быў Эдвард Муронкчык. Пасля смерці «бацькі» Другой Рэчы Паспалітай, маршала Юзафа Пілсудскага, па ўсёй Польшчы прайшлі жалобныя мерапрыемствы: адкрываліся помнікі, мемарыяльныя дошкі, у касцёлах з'яўляліся званы. Адзін з такіх у 1935 годзе быў адліты за кошт жаўнераў, падафіцэраў і афіцэраў роты КАП «Дубрава» і быў размешчаны ў мясцовым касцёле.



Памежная рота КАП

### Час выпрабаванняў

Апошнім камандзірам польскай памежнай роты ў Дубраве быў капітан Фелікс Мерка, якога ў ліпені 1934 года перавялі з батальёна КАП «Будслаў». На момант пераходу Чырвонай Арміі савецка-польскай мяжы 17 верасня 1939 года структура памежнай роты КАП «Дубрава» складалася са стражніц «Павязынь», «Вязынка» і «Шапавалы», а таксама рэзервовага ўзвода і камандавання.

Батальён КАП «Краснае» атакавалі падраздзяленні 100-й «крапаснай» стралковай дывізіі РСЧА, 36-й кавалерыйскай дывізіі, а таксама памежнікі 15-га атрада памежных войскаў НКУС БССР з Заслаўя. Жыхар вёскі Павязынь Мікалай Таратута ўзгадваў штурм чырвонаармейцамі аднайменнай стражніцы: «17 верасня 1939 года, гэта была нядзеля, пачулі моцны грукат на вуліцы. Глянулі ў вокны, а там савецкі танк павольна заехаў у вёску, навёў гармату на гару, дзе стаяла польская стражніца, і стрэліў. Польскія жаўнеры ў адказ стралялі з вінтовак, але што зробіш стрэльбай супраць браніраванай машыны? Раптам чуем моцнае «ўра». Жаўнеры ў вострых шапках (гаворка ідзе пра «будзёнаўкі». — **І.М.**) пабеглі ў атаку на стражніцу. Шмат каго з палякаў узялі ў палон. Там не ўсе нават апрануцца паспелі. Былі таксама і параненыя. Праз дзень тут ужо шмат чырвонаармейцаў было і савецкай тэхнікі вайсковай. На Захад ішлі».

Больш жорсткі бой адбыўся ў месцы дыслакацыі стражніцы КАП «Шапавалы». Яе штурмавалі савецкія кавалерысты са 144-га палка. Камандзір заставы, капрал Нядзельскі, арганізаваў кругавую абарону, на вежы паставілі ручны кулямёт. Бой працягваўся некалькі гадзін, пасля чаго капаўцы здаліся. Цяжка паранены капрал памёр у савецкай памежнай камендатуры ў Заслаўі. На месцы дыслакацыі штаба роты КАП «Дубрава» баёў не было.

Савецкая ўлада затрымалася ў Заходняй Беларусі ненадоўга. Ужо летам 1941 года ў Дубраве былі нямецкія войскі — пачалася нацысцкая акупацыя, а разам з ёй Халакост. Ксёндз Эдвард Мурончык спрабаваў дапамагаць габрэям, а хлопчыка Эліяху (сына Шмуэля Перавоскага з Вільні) уладкаваў на працу ў касцёл памочнікам. Аднак у кастрычніку 1942 года ў Дубраве з'явіліся «народныя мсціўцы». Партызаны вывелі ксяндза і загадалі паказаць дакументы. Той падпарадкаваўся. «Госці з лесу» ўбачылі ў дакуменце адзнаку, што нацыянальнасць ксяндза «беларус», пачалі абурацца, што так быць не можа і… забілі святара. Пахавалі Мурончыка побач з касцёлам.

З 1943 года новым настаяцелем касцёла Унебаўзяцця Дзевы Марыі стаў ксёндз Ян Такарскі. Яго ў 1948 годзе арыштавалі, і, відавочна, абвінаваціўшы ў супрацы з нацыстамі (касцёл у Дубраве працаваў падчас нямецкай акупацыі), накіравалі ў лагер на 10 гадоў.

Будынак святыні перадалі спіртзаводу. Тады ж адзін з жыхароў Дубравы зняў званы і схаваў іх. У 1980-я гады студэнты, што прыехалі на сельскагаспадарчыя працы ў вёску, развалілі вогнішча на даху былога касцёла: будынак згарэў. Сёння пра былую веліч старажытнага касцёла нагадваюць мураваныя сцены ды парэшткі калон. А яшчэ артэфакты даваеннага часу: побач са сценамі святыні аўтар артыкул выпадкова знайшоў «польскага арла». Менавіта такія кукарды насілі на фуражках жаўнеры КАП.

У траўні 2018 года аматары беларускай гісторыі падчас экспедыцыі знайшлі схаваныя званы. Сярод іх быў і той, што ў 1935 годзе адлілі па замове жаўнераў польскай памежнай роты «Дубрава». Цяпер гэты артэфакт перададзены ў адзін з мінскіх касцёлаў.

Фота з архіва аўтара

# «Тэатр — гэта калектыўнае мастацтва»

Кацярына ЯРОМІНА

**Андрэй Іваноў — адзін з самых заўважных прадстаўнікоў сучаснай драматургіі. І, нягледзячы на тое, што цяпер ён жыве і працуе ў Маскве, хочацца дадаць — драматургіі беларускай. Геаграфія пастановак яго п’есы «Гэта ўсё яна» (ад Літвы да Уругвая), трыумфальнае шэсце яшчэ аднаго тэксту — «З вучылішча» — па сцэнах Расіі і Украіны ды намінаванне драматурга на расійскую «Залатую маску» прымушаюць чарговым разам адчуць гонар «за нашых».**



**Сцэна са спектакля «Гэта ўсё яна», Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі.** Фота з сайта тэатра



**Сцэна са спектакля «З вучылішча», Тэатр імя Пушкіна.** Фота з сайта тэатра

Усталіцы спектаклі па яго п’есах можна пабачыць у Рэспубліканскім тэатры беларускай драматургіі і на пляцоўцы Ok16, дзе ідуць пастаноўкі Цэнтра візуальных і выканальніцкіх мастацтваў «АртКарпарэйшн». Менавіта там 18 лютага адбылася прэм’ера спектакля «Крыніцы святла» па аднайменнай п’есе Андрэя Іванова, у якой спалучаюцца міфалагічныя матывы і жорсткая рэчаіснасць пазнавальных герояў-маргіналаў.



**Андрэй Іваноў.** З асабістага архіва драматурга

Напярэдадні прэм’еры Андрэй Іваноў распавёў пра (не)запатрабаванасць сучаснай драматургіі, неабходнасць быць гнуткім аўтарам і, канешне, пра «Крыніцы святла».

***— Сцвярджэнне, што ў Беларусі, калі займацца адной драматургіяй, пражыць нельга, стала ўжо агульным месцам. Ці адрозніваецца сітуацыя ў Расіі ад нашай?***

— Канечне, усё залежыць ад паспяховасці п’ес. Але чым добра ў Расіі: яна вельмі вялікая, і тут ёсць два варыянты. Першы: калі які-небудзь вялікі маскоўскі тэатр ставіць тваю п’есу, і з аўтарскіх адлічэнняў за спектаклі чалавек, паводле чутак, можа набыць кватэру. Але не кожнага аўтара ставяць у Маскве, таму ёсць і другая гісторыя: у Расіі — мільён гарадоў і тэатраў, і калі твая п’еса ідзе ў пяці-шасці, то гэта прыносіць грошы, на якія можна больш-менш прыстойна жыць нават у Маскве. Аднак, натуральна, усё залежыць ад таго, наколькі тэатр багаты і ў якой колькасці тэатраў ідзе твая п’еса.

У Беларусі ж мы ведаем, якая сітуацыя: у прынцыпе недавер да сучаснай драматургіі і невялікая колькасць пляцовак.

***— А ў Расіі няма недаверу дзяржаўных пляцовак да сучаснай драматургіі?***

— У Расіі тэатральнае асяроддзе вельмі канкурэнтнае. У нас, у Беларусі, на жаль, можна налічыць максімум пяць асяродкаў (і тое большасць у сталіцы), дзе імкнуцца ісці ў нагу з часам, трымацца сучасных драматургічных працэсаў.

Маскоўскія тэатры зацікаўленыя ў тым, каб прыцягнуць гледача, на іх сцэнах можна пабачыць шмат эксперыментальных пастановак. Існуе, напрыклад, ТЭАТР.DOC ці Цэнтр імя Меерхольда, які менавіта гэтым і займаецца, яго рэпертуар практычна цалкам складаецца з сучаснай драматургіі.

***— Ёсць меркаванне, што дзяржаўныя тэатры адмаўляюцца ад тэкстаў сучасных драматургаў не ў апошнюю чаргу з-за таго, што яны насычаны абсцэннай лексікай.***

— У Расіі, канечне, гэтага таксама баяцца, тым больш, пытанне адносна абсцэннай лексікі ў спектаклі замацаванае заканадаўча. Але ёсць такі момант: ты можаш ставіць спектакль з матам, усё залежыць ад таго, наколькі гледачы любяць твой тэатр і гатовыя да гэтага. Бо цэнзурная і рэпрэсіўная машына пачынае працаваць тады, калі пойдуць скаргі. Прывяду нясціплы прыклад. Мая п’еса «З вучылішча» ідзе ў Тэатры імя Пушкіна (Масква). Аднак пры наяўнасці мата ў п’есе ніякіх скаргаў на гэта ніколі не было, бо спектакль атрымаўся шыкоўным.

Канешне, «мацяршчынныя» п’есы бяруць са скрыпам, часта прапануюць зрабіць цэнзурны варыянт — і тут усё залежыць ад гнуткасці аўтара. Я — аўтар гнуткі і разумею, што часам, нават калі балюча, трэба адаптаваць п’есы, каб яны дайшлі да гледача. Дарэчы, гэта добрая лакмусавая паперка: калі з тэксту прыбраць мат, і нічога цікавага не застанецца, то такую п’есу можна было ўвогуле не пісаць.

У Беларусі з гэтым, як мне падаецца, таксама дваістая сітуацыя: у нас заканадаўча не забаронена ўжыванне абсцэннай лексікі ў спектаклі і працуе ў асноўным самацэнзура.

***— У адносінах да сучаснай драматургіі часам назіраецца такая сітуацыя: спачатку аўтара прызнаюць за мяжой, а потым адбываецца яго «вяртанне» на беларускую сцэну. Твае п’есы ідуць, можна сказаць, па ўсім свеце, аднак у Беларусі іх пакуль ставіць у асноўным толькі «АртКарпарэйшн».***

— Так, і я хацеў падзякаваць «АртКарпарэйшн», таму што сёння гэта, на мой погляд, такі запаведнік сучаснай драматургіі, дзе яна можа існаваць у рэалізаваным выглядзе, без цэнзуры, у руках улётных рэжысёраў, з цудоўнымі мінскімі артыстамі. У шэраг такіх запаведнікаў я б паставіў яшчэ РТБД. Аднак увогуле сітуацыя менавіта такая. Гэта можна нават і не абмяркоўваць, мы бачым тое і па літаратуры, напрыклад, па прозе Сашы Філіпенкі і іншых. Беларускіх аўтараў спачатку заўважаюць і ацэньваюць за межамі Беларусі, а потым на іх звяртаюць увагу тут. Гэта сумна, але што рабіць…

***— Ці адчуваеш, што пасля ад’езду ў Маскву стаў больш запатрабаваным як драматург?***

— Так, але гэта і была адна з прычынаў, чаму я з’язджаў. Прота прадзюсарам, незалежна ад таго, гэта праектны спектакль альбо работа над сцэнарам, больш зручна працаваць з аўтарам, які жыве ў непасрэднай блізкасці, калі можна тэрмінова сустрэцца і ўсё ўзгадніць. Дый Масква — гэта такі тэатральны кацёл, там вельмі хутка распаўсюджваецца інфармацыя пра новыя тэксты.

***— Ты ўдзельнічаеш у драматургічных лабараторыях, фестывалях. Паводле тваіх назіранняў, ці ёсць нешта, што адрознівае паміж сабой тэксты сучасных беларускіх, расійскіх, украінскіх драматургаў, або яны існуюць у нейкім агульным тэматычным полі?***

— Для сябе я б вылучыў некалькі тэндэнцый. Апошнім часам з’яўляецца шмат жаночых п’ес, з феміністкай энергіяй. І радуе, што жаночая драматургія ўваходзіць у сілу. Прычым, гэта аўтары не з нейкай канкрэтнай краіны, а ўвогуле з постсавецкай прасторы.

Што да магістральнай тэмы, то, мне падаецца, у апошнія гады — гэта сям’я. Дагэтуль вельмі моцная падлеткавая тэматыка: праблемы падлеткаў, іх стасункі з бацькамі, гісторыі пра дысфункцыянальныя сем’і. Яшчэ ў п’есы ўсё больш пранікае суперсучаснасць, напрыклад, на мінулай «Любімаўцы» (фестываль маладой драматургіі) была прадстаўлена дакументальная п’еса «Гліна» аб ЭКА. Варта адзначыць, што ўкраінцы да гэтага часу крыху абпалены ваеннымі канфліктамі, і там пішацца шмат п’ес, прысвечаных гэтай тэме. Аднак у цэлым сучасных аўтараў цікавяць нейкія агульначалавечыя моманты.

***— А якія тэмы цікавыя табе як драматургу?***

— Гэта будзе вельмі агульны адказ, але мне цікавы чалавек, парадоксы чалавечага быцця, нейкая чалавечая праўда ў п’есах. Я дрэнна ўспрымаю гульні з моваю, тэксты "ад розуму", халодныя, сканструяваныя, таму што ў іх няма чалавека.

***— Як у цябе з’явілася ідэя «Крыніц святла», аб’яднання міфалагічных структураў, вобразаў з вельмі рэалістычнымі героямі-маргіналамі?***

— Першапачаткова п’еса была задуманая на драматургічнай лабараторыі ў Рузе, арганізаванай дзякуючы СТД (Саюз тэатральных дзеячаў) і «Любімаўцы». Там я працаваў у пары з мастаком Іванам Лунгіным. Усё стваралася ў кантэксце, і я вельмі ўдзячны Івану. Ён расказаў, што ў яго быў перформанс, у якім лямпачкі азбукай Морзэ размаўлялі паміж сабой на мёртвых мовах. Мяне гэта ўразіла, аднак ідэя адышла на другі план, а мы прыдумалі гісторыю пра хлопчыка, які лічыць сябе зверам апакаліпсісу, і зрабілі перформанс.

Ужо пасля я сам стаў распрацоўваць ідэю, і нарадзіўся вобраз Бармаглота (адзін з герояў п’есы «Крыніцы святла») — беспрытульніка, які некалі жыў у інтэрнаце, чытаў розныя кнігі, магчыма, Біблію, «Алісу ў краіне цудаў», і філасофія ды ідэі з іх змяшаліся ў яго галаве. Пры гэтым ён крыху аўтычны і бачыць свет своеасабліва. Потым з’явіліся іншыя героі, якія арганічна ўключыліся ў светаўспрыманне Бармаглота. А лямпачкі, што так мяне ўразілі, ператварыліся ў «крыніцы святла». Першапачаткова іх рэплікі былі кароткімі, яны расказвалі праўду пра жыццё герояў, у той час як самі персанажы ўвесь час хлусілі, знаходзіліся ў свеце ілюзій альбо былі не ў стане адэкватна ўспрымаць рэчаіснасць, аднак потым рэплікі крыніц святла разрасліся — і яны ператварыліся ў асобных персанажаў.

***— І ў «Крыніцах святла», і ў «З вучылішча» героі ў асноўным — маргіналы. Можаш адказаць, чаму? Цябе хвалюе лёс такіх людзей?***

— Не ведаю, сам задаю сабе гэтае пытанне. Магчыма, таму, што іх шкада, але ў мяне ўсё ж такое адчуванне, што ў гэтых людзей няма голасу. Не скажу, што я важдаюся ў асяроддзі маргіналаў, але ў іх ёсць нейкая прастата, чароўная незамутнёнасць. І яшчэ маргінальныя людзі вельмі яркія, бо яны існуюць на мяжы выжывання, з нейкім надрывам. Таму з іх можна зрабіць моцных герояў.

Працяг на стар. 24 »



**Сцэна са спектакля «Крыжовыпаходдзяцей», Цэнтр візуальных і выканальніцкіх мастацтваў «АртКарпарэйшн».** Фота Ігара Чышчэні

« Працяг.
Пачатак на на стар. 23

Я не ўпэўнены, што Танька (персанаж п'есы «З вучылішча») атрымалася б такім выразным персанажам, калі б яна была дзяўчынкай з офісу, дый гісторыя, як у п'есе, не здарылася б.

Магчыма, адбітак наклалі і нейкія асабістыя сутыкненні, кранальныя гісторыі. Аднойчы, яшчэ ў студэнцтве, я разгаварыўся з бамжом, ён распавёў, што ваяваў у Афгане, пачаў чытаць свае вершы. І мне пабачылася ў гэтым жыццё, пражытая дарма: чалавек нібыта нармальны, а ўсё так скончылася. Часам увогуле здаецца, што гэта падарожжа ў залюстэркавы, іншы свет, які існуе побач з намі.

***— Як думаеш, людзі, што прыйдуць на спектакль «Крыніцы святла», хочуць чуць галасы гэтых людзей, бачыць іх свет?***

— Калі не хочуць, то не трэба слухаць. Але ж «Крыніцы святла» — гісторыя пра тое, што ўсе хочуць любіць, усе з'яўляюцца для кагосьці крыніцай любові, якой яны страшэнна жадаюць, але не могуць атрымаць. І мне здаецца, гэта вечная чалавечая драма, прычым любых людзей.

***— Наколькі твае п'есы і ты сам як аўтар адкрыты для рэжысёрскай інтэрпрэтацыі?***

— Я лічу, што мае п'есы вельмі адкрытыя для рэжысёраў, бо я ўспрымаю гэта як гульню ў мяч: п'еса як пас акцёрам і рэжысёру, якія пасуюць гледачам — і атрымліваецца гульня. Тэатр — гэта калектыўнае мастацтва, і драматург не можа існаваць у вакууме. Калі ты хочаш, каб твой голас і тое, пра што ты пішаш, былі пачутыя, без добразычлівага стаўлення да рэжысёраў немагчыма. Я прыдумваю свой свет і запрашаю ў яго астатніх — пастаноўшчыка, акцёраў, мастака, якія ствараюць яго плоць. Мне ўвогуле рэдка не падабаюцца пастаноўкі маіх п'ес, таму што мне заўсёды каштоўны погляд на мае тэксты іншых людзей.

***— Пастаноўка «Крыніц святла» як «драмы з элементамі vogue-балю» рэзануе з тваім бачаннем, ідэяй п'есы?***

— Было вельмі нечакана, калі Саша Марчанка (рэжысёр спектакля) расказаў мне пра гэтую ідэю, але яна мне вельмі спадабалася. Таму што vogue-баль — гэта феерыя прытворства. Там усё блішчыць і зіхаціць, але насамрэч усе гэтыя пластыкавыя кароны і мішура — тандэт. Акрамя гэтага, vogue-рух зарадзіўся ў Нью-Ёрку, у асяродку самых зняважаных маргінальных слаёў грамадства — каляровых ЛГБТ-людзей, якія былі адрынутыя сем'ямі, дзяржавай, усімі. Яны знаходзілі прадуху ў тым, што збіраліся раз на тыдзень на свае балі і зіхацелі. Іх усе ненавідзелі, але ў гэтую ноч яны былі цудоўнымі. І мне здаецца, што гэта прыгожая метафара хлусні, якая існуе ў «Крыніцах святла», калі героі падманваюць сябе, таму што як толькі яны пачнуць казаць пра сябе праўду, яны разбурацца, гэта будзе раўназначна самагубству.

***— Як ты бачыш ролю драматурга ў сучасным тэатры?***

— Канешне, цяпер яна не галоўная, і мне здаецца, што гэта няправільна. Зараз у нас больш моцная не сутнасная, а візуальная культура, таму тэатр сёння, у першую чаргу, — тэатр рэжысёра, мастака. Аднак роля драматурга паступова зноў узрастае. Цяпер ён важны і для дакументальных п'ес, калажных гісторый, калі нават не трэба пісаць фікшн-тэкст. А, напрыклад, у амерыканскім кіно драматург увогуле становіцца кіраўніком праекта, бо ёсць разуменне: нашмат важнейшае тое, пра што ты гаворыш, а не як. Таму, спадзяюся, роля драматурга ў нашым тэатры ўмацуецца.



**Андрэй Іваноў сярод удзельнікаў VII Міжнароднай драматургічнай лабараторыі, Цэнтр беларускай драматургіі, 2018 год.** Фота з сайта Цэнтра беларускай драматургіі



**Сцэна са спектакля «Крыніцы святла», Цэнтр візуальных і выканальніцкіх мастацтваў «АртКарпарэйшн».** Фота Аляксея Піваварчыка



**Сцэна са спектакля «Крыніцы святла», Цэнтр візуальных і выканальніцкіх мастацтваў «АртКарпарэйшн».** Фота Аляксея Піваварчыка



**Сцэна са спектакля «З вучылішча», Цэнтр візуальных і выканальніцкіх мастацтваў «АртКарпарэйшн».** Фота Ігара Чышчэні

# БагатаДата

**Мы віншуем ГА ЗБС «Бацькаўшчына» з 30-годдзем з дня ўтварэння, якое будзем адзначаць на тыдні, і прапануем традыцыйны агляд цікавых датаў.**

## 29 лютага

**1840.** У горадзе Ловіч Лодзінскага ваяводства ў Польшчы нарадзіўся Раман Рагінскі, адзін з кіраўнікоў паўстання 1863–1864 гадоў у Польшчы, Беларусі і Літве. У прыватнасці, падчас ваенных дзеянняў ён заняў Пружаны. У сакавіку 1863 года быў узяты ў палон у Тураве. Атрымаў смяротны прысуд, які быў заменены на 20 гадоў катаргі ў Пермскай губерні Расіі, праз некалькі гадоў Рамана Рагінскага перавялі на пасяленне ў далёкіх расійскіх гарадах. Толькі ў 1892 годзе ён вярнуўся на радзіму.

## 1 сакавіка

**Сусветны дзень грамадзянскай абароны, Міжнародны дзень барацьбы з наркаманіяй і незаконным абарачэннем наркотыкаў,** а таксама **Даравальная нядзеля і нядзельная Масленіца.**

## 2 сакавіка

**1930.** У савецкай газеце «Праўда» выйшаў артыкул Іосіфа Сталіна «Галавакружэнне ад поспехаў. Да пытанняў калгаснага руху». У ім патрабавалася прыбраць «перагібы на месцах» — прымусовасць і паскоранасць падчас калектывізацыі. Насамрэч, савецкія ўлады збаяліся сялянскіх бунтаў. У выніку, у тым ліку і ў Беларусі, калектывізацыю прыпынілі, шэраг кіраўнікоў асудзілі. З калгасаў пачалі выходзіць сяляне. Улетку 1930 года іх там засталося менш за чвэрць. Ужо праз год з'явіліся пастановы, якія забаранялі сыход з калгасаў.

## 3 сакавіка

**1880.** У Ігумене, цяпер гэта горад Чэрвень у Мінскай вобласці, нарадзіўся Леў Шчэрба, знакаміты савецкі мовазнаўца. Менавіта ён аўтар фразы: «Глокая куздра штеко будланула бокра и курдячит бокрёнка». Гэта штучная фраза, дзе карані слоў заменены на абы-якія спалучэнні гукаў. Так адмысловец даказваў, што сэнс многіх слоў можна зразумець паводле іх марфемаў. Са згаданай фразы нам ясна, што нейкая істота жаночага роду зрабіла нейкае дзеянне датычна істоты мужчынскага роду і нешта робіць з яго дзіцём або такой самай істотай, толькі маленькай.

**1960.** У літоўскай Клайпедзе нарадзілася Раіса Міхайлоўская, праваабаронца, кіраўніца Беларускага дакументацыйнага цэнтра.

**1975.** У Бабруйску нарадзіўся беларускі палітык Віталь Рымашэўскі. Сустаршыня Беларускай хрысціянскай дэмакратыі, кандыдат падчас выбарчай прэзідэнцкай кампаніі 2010 года.

## 4 сакавіка

**1990.** Адбыліся першыя выбары на альтэрнатыўнай аснове ў Вярхоўны Савет БССР 12 склікання. Па іх выніках у парламенце з'явіліся дэпутаты Апазіцыі БНФ і будучы кіраўнік краіны Аляксандр Лукашэнка.

## 5 сакавіка

**1895.** У вёсцы Кашніцы Бераставіцкага раёна на Гродзеншчыне нарадзіўся археолаг Аляксандр Каваленя. Адзін з «бацькоў» беларускай археалогіі і аўтараў трохтомнага зборніка Інбелкульта па археалогіі «Працы». Падрыхтаваны чацвёрты том не пабачыў свет, бо быў знішчаны НКУС. Каваленю ў 1937 годзе арыштавалі па абвінавачванні ў шпіянажы на карысць Польшчы і расстралялі.

## 6 сакавіка

**1680.** У расійскім Якуцку нарадзіўся землепраходца, першы даследчык Курыльскіх выспаў і Камчаткі Іван Казырэўскі. Склаў першую мапу гэтых тэрыторый. Яго імем названы мыс і гара на Курылах. У 1710-х гадах Іван Казырэўскі кіраваў Камчаткай. Паходзіў з беларускай шляхты: яго дзед і бацька былі сасланыя ў Якуцк як ваеннапалонныя падчас вайны Расіі і Рэчы Паспалітай.

**1990.** У Мінску было створанае Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына» — дакладней, паўстаў аргкамітэт па яго стварэнні. Устаноўчая ж канферэнцыя прайшла ўвосень таго года. Першым старшынёй Рады ЗБС «Бацькаўшчына» быў абраны Яўген Лецка, а прэзідэнтам — Васіль Быкаў. А ў 1993 годзе адбыўся Першы з'езд беларусаў свету.

**Падрыхтаваў Павел Кірылаў**

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (с) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны.
Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13.
Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў».
Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 17 347-52-81; +375 29 625-57-51,
novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.
ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова № 344

Падпісана да друку 28.02.2020. 8.00.
Наклад 2000 асобнікаў. Аб'ём 6 друк. аркушаў. Кошт свабодны.